


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

16 КАСТРЫЧНІКА 1998 Г. № 42/3970 КОШТ 4 000 РУБ.







Здымак Княжскай вежы зроблены ў пачатку XX ст. Друкуецца ўпершыню.

# Новы здымак Крэўскага замка

9 кастрычніка 1998 г. на старажытнай Крэўскай зямлі быў заснаваны міжнародны фонд "Крэва" і праведзена міжнародная навуковая канферэнцыя "Крэва: гісторыя і сучаснасць".

На гэтай канферэнцыі я змог упершыню паказаць новы здымак Крэўскага замка, які ўбачыў некалькі год назад на фотавыставе, якую зрабіў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей з нагоды юбілею заснавальніка гэтага музея Юзафа Ядкоўскага.

У сувязі з магчымай рэстаўрацыяй Княжацкай вежы Крэўскага замка гэты здымак, зроблены вядомым віленскім фатографам Янам Булгакам, мае важнае значэнне, бо на ім добра бачны арачны праём на стыку замкавага мура і бакавой сцяны Княжацкай вежы. Такім чынам, можна выказаць меркаванне, што ўваход у вежу быў толькі з баявой галерэі замкавага мура і асвятляўся праз арачнае вакно на стыку дзвюх сцен. Значыць, Княжацкая вежа была сапраўднай вежай-данжонам, на першыя паверхі якой можна было трапіць толькі зверху, з баявой галерэі замкавага мура. І менавіта па гэтай галерэі прайшоў князь Вітаўт у жаночым адзенні, калі ўцёк з палону, бо знаходзіўся ён не ў турме ў сутарэннях вежы, дзе загінуў Кейстут, а ў спецыяльным пакоі на верхнім паверсе вежы ("комнаце" — як сведчыць летапісец).

Такім чынам, чытачы "ЛіМа" могуць убачыць выяву Княжацкай вежы і замкавага мура, злучаных спецыяльным праходам — сведкаў гістарычных падзей XIV ст.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**



# КОЛА ДЗЁН

***Пацяплела. Растаў першы кастрычніцкі снег, які было на нейкі час схаваў пад сабою і нашы поспехі (вырашчаны ўраджай), і нашы недаробкі, і вось зноў усё наша перад намі. Белага аркуша няма, каб хоць нешта пачаць занава. Трэба працягваць тое, што пачата. У кожнага пачата сваё. Кожны па-свойму разумее гэта сваё. І кожны спадзяецца на Вынік і тым больш, што хутка сапраўды пойдзе снег, які высвеціць нас і тое, хто і што мы ёсць на гэтай зямлі. А цэны, нягледзячы ні на што, растуць сабе і растуць...***

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ТЫДНЯ

Сёння ў Варшаве заканчвае сваю працу 3-я Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, у якой удзельнічае каля 700 гасцей з усяго свету. Сярод удзельнікаў канферэнцыі ёсць і такія вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы, як расійскі праваабаронца Сяргей Кавалёў, прэзідэнт Чачні Аслан Масхадаў, былы Старшыня ВС Беларусі Станіслаў Шушкевіч і інш. Канферэнцыі, канферэнцыі, канферэнцыі...

## ПАГАДНЕННЕ ТЫДНЯ

Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і Кабінетам Міністраў Украіны аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі падпісана ў Міністэрстве замежных спраў нашай краіны. Ад імя беларускага ўрада свой подпіс пад дакументам паставіў старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, які ў час падпісання пагаднення сказаў: "Цяпер у абедзвюх краін будзе значна больш магчымасцяў данесці праўдзівую інфармацыю аб жыцці сваіх народаў". Дай то Бог!

## АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явіліся чуткі, што наш вядомы кампазітар Эдуард Ханок збіраецца з'ехаць у Ізраіль. Аднак яго жонка Ляля Іванаўна абвергла гэта: "Наконт таго, што Эдуард Сямёнавіч збіраецца прыняць ізраільскае грамадзянства — поўная лухта. Іншая справа, што, мяркую, "вушы растуць" з-за нашай дачкі Святланы. Яна ж на самай справе збіраецца з'ехаць у Ізраіль, але на вучобу". Ці вернецца Святлана пасля вучобы назад — гэта ўжо іншае пытанне, і тым больш, што Святлана — дарослы чалавек.

## ТЭЛЕГРАМА ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг накіраваў урадавую тэлеграму старшыням абласных і раённых выканкамаў, а таксама кіраўнікам гаспадарак з патрабаваннем тэрмінова завяршыць уборку ўраджаю. Тэлеграма — справа сур'ёзная, толькі шкада, што на тэлеграме, нават урадавай, буракоў з поля не вывезеш...

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

Газета "Наша Ніва" за 12 кастрычніка пачала друкаваць новую аповесць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава "Ваўчыная яма", якую ён напісаў у Фінляндыі. Ці стане гэты твор падзеяй у беларускай літаратуры — цяжка адразу сказаць, бо апошнім часам, часцей за ўсё, і дрэннае, і добрае праходзіць праз многіх з нас, як праз мёртвых.

## ЛАЎРЭАТ ТЫДНЯ

Як паведаміла Шведская акадэмія, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1998 год стаў 75-гадовы партугальскі пісьменнік Жазэ Сарамага "за багатую фантазію і іронію". А многія ў нашай краіне спадзяваліся, што лаўрэатам стане Васіль Быкаў...

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Хоць наша Беларусь і багатая на рэкі і азёры, але, як і большасць краін свету, мы ўжо не можам пахваліцца, што нашы водныя рэсурсы невычарпальныя і чыстыя. І вось ужо эксперыментальная ўстаноўка па ачыстцы пітной вады зманціравана ў Полацку з дапамогай спецыялістаў нямецкага горада Фрыдрыхсхафена. Расходы па падрыхтоўцы канцэпцыі і вырабу ўстаноўкі ў памеры 400 тысяч марак нямецкія сябры Полацка ўзялі на сябе. Чыстая пітная вада, якая будзе кантралявацца па нямецкіх нарматывах, паступіць у кватэры палачан у наступным годзе. Тэхналогіяй ачысткі і кантролем якасці пітной вады зацікавіліся ў "Белкамунпраекце". Так што, глядзіш, і ў іншых гарадах нашай краіны будзе што папіць са смакам...

## СУЦЯШЭННЕ ТЫДНЯ

Радыеактыўныя элементы на тэрыторыі Беларусі і еўрапейскай часткі Расіі з'явіліся задоўга да аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Да такой навукова абгрунтаванай высновы прыйшлі вучоныя Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Імі падчас дыягнастычнага абследавання дзяцей у Гродне былі знойдзены ў дзіцячых арганізмах радыеактыўныя рэчывы, якія не адносяцца да чарнобыльскіх. Такое апраменьванне стала вынікам празмерных выпрабаванняў ядзернай зброі ў былым Савецкім Саюзе.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Насельніцтва працаздольнага ўзросту нашай краіны складае каля 5 млн. 580 тыс. чалавек, эканамічна актыўных — 4 млн. 724 тыс.; 52 працэнты працаздольнага насельніцтва — жанчыны. І, на жаль, колькасць эканамічна актыўных людзей з кожным годам усё менее і менее...

## ПАВЕЛІЧЭННЕ ТЫДНЯ

З сённяшняга дня падняліся цэны на праезд у прыгарадных і міжгародніх аўтобусах. Цяпер за кожны кіламетр дарогі ў звычайным прыгарадным аўтобусе трэба плаціць 700 рублёў, замест былых 540. З 1 лістапада адбудзецца павелічэнне тарыфаў і ў Мінскім упраўленні гарадскога транспарту. Так што, рыхтуйма грошы!

## ДАТА ТЫДНЯ

Споўнілася 60 гадоў, як урад БССР прыняў пастанову аб пераўтварэнні Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) ў Беларускую Акадэмію навук. Напачатку яна мела 6 навукова-даследчых інстытутаў, цяпер — амаль чатыры дзесяткі. Віншуем!



ФАКТ

# Юбілей і падарунак



Музею сучаснага мастацтва Беларусі споўніўся год. У гэтую ўрачыстую дату народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў падараваў музею свой новы жывапісны твор "Лістапад", была наладжана прэзентацыя твора і прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел Л. Шчамялёў, дырэктар музея сучаснага мастацтва народны мастак Беларусі В. Шаранговіч і міністр культуры Беларусі А. Сасноўскі.

Свой падарунак Леанід Дзмітрыевіч назваў невыпадковым, хаця спецыяльна да юбілею яго не рыхтаваў. "Мае работы былі прадстаўлены на першай выставе музея, і яшчэ тады я быў прыемна здзіўлены актыўным удзелам у ёй мастакоў сярэдняга пакалення. Музей, як новая структура, заяўлены, і мне падумалася, што для мяне будзе гонарам удзельнічаць у яго выставах. Я добра ведаю Васіля Пятровіча, яго намаганні па стварэнні музея, бачу значнасць яго працы. І кожны з нас абавязаны ўнесці свой уклад у фарміраванне экспазіцыі такога важнага і доўгачаканага для Беларусі музея".

На прэс-канферэнцыі ізноў паўстала пытанне, што лічыць сучасным мастацтвам. Меркаванняў многа, і музей мае намер у бліжэйшы час правесці канферэнцыю па ўдакладненні тэрміналогіі і абмеркаванні канцэпцыі экспазіцыі. Але асноўнае, чым кіруецца на сённяшні дзень рада музея пры адборы работ для калекцыі — аб'ектыўнае развіццё сучаснага мастацтва ад рэалізму да канцэптуальнасці. Як адзначыў Л. Шчамялёў, для яго "ніколі не было пытання, што такое сучаснае. Сучаснае — гэта створанае намі, living рознае па стылі, духу, па поглядзе, формах, змесце. Але галоўнае, каб яно было высокапрафесійнае па майстэрстве". І гэтую прафесійную планку, як лічыць міністр культуры А. Сасноўскі, ужо ўстанавіў сам Л. Шчамялёў выдатнай падоранай работай.

Узнікла гаворка і пра стан рэстаўрацыі будынка былога кінатэатра "Беларусь", дзе плануе размясціцца музей. Днямі адбыўся горадабудаўнічы савет, на якім разглядаўся прадстаўлены эскізны праект архітэктурна-планіровачнага рашэння будынка музея разам са скверам, распрацаваны архітэктурнай майстэрняй Л. Маскалевіча. Прадугледжваецца карэнная рэканструкцыя сквера і навакольных зялёных насаджэнняў. Як зазначыў В. Шаранговіч, музей прэтэндуе стаць сінтэзам розных відаў мастацтва. У ім мяркуецца мець раздзелы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, а таксама архітэктуры і дызайну. Таму прастора сквера стане часткай экспазіцыі музея. Тая праектам зацікавілася і Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Беларусі, якое мае намер разам з Міністэрствам культуры Беларусі і Мінгарвыканкамам дапамагчы ў фінансаванні будаўніцтва.

Праект рэканструкцыі былога кінатэатра "Беларусь" скіраваны на тое, каб у Мінску з'явіўся сучасны будынак, які б цалкам адпавядаў мэтам і задачам Музея сучаснага мастацтва. Сам знешні выгляд будынка павінен быць творам мастацтва. Ён павінен быць зручным для стварэння экспазіцыі, а таксама шэрагу лёгказменных выстаў, сумесных культурных акцый, у якіх бы бралі ўдзел выяўленчае мастацтва, музыка, паэзія, для правядзення канферэнцый, перформенсаў і г.д.

Праект рэканструкцыі знаходзіцца ў стадыі дапрацоўкі. Але асноўныя параметры будучага музея намечаны. Кінатэатр "Беларусь", пабудаваны ў 60-я гады па тыпавым праекце (такіх у Мінску яшчэ два — кінатэатр "Мір" і "Камсамолец"), набудзе еўрапейскі выгляд, які павінен будзе "трымаць" прастору навакольных досыць хаатычных збудаванняў. Гэтаму будуць адпавядаць і памеры — у чатыры разы большы за кінатэатр "Беларусь".

Пачатак будаўніцтва плануецца на другое паўгоддзе 1999 г. дзверы свае новы музей расчыніць, як мяркуецца, у наступным стагоддзі — у 2003 годзе.

**Н. ЖОГЛА**



ПАМЯЦЬ

# Час збіраць камяні



Крэва — адна з найбольш знакамітых і ў той жа час найбольш таямнічых і загадкавых старонак эпохі сярэднявечча. З пачатку XIV стагоддзя падзеі, што адбываліся ў Крэве, найперш у Крэўскім замку, збудаваным на паўночным захадзе Вялікага княства Літоўскага для абароны ад наступу рыцараў Тэўтонскага ордэна, станавіліся вызначальнымі для лёсу народаў, якія ўтваралі на той час адзіную магутную дзяржаву.

Праз шэсць стагоддзяў прадстаўнікі гэтых народаў — беларусаў, літоўцаў, палякаў — практычна ўпершыню сабраліся разам у Крэве, каб задумацца над яго сівымі камянямі, над расцяганымі руінамі сваёй гісторыі.

Прыйшоў час збіраць камяні — і па ініцыятыве Беларускага фонду культуры была арганізавана ў колішняй сталіцы Крэўскага княства, а зараз проста ў мястэчку Крэва Смаргонскага раёна міжнародная навуковая канферэнцыя "Крэва: гісторыя і сучаснасць". З выступленняў яе ўдзельнікаў — прафесара А. Грыцкевіча (Беларусь), прафесара Іонаса Гляжміс (Літва), прафесара Тадэвуша Поляка (Польшча) — як найгалоўнае вынікала адно: дастаткова ўжо разбіраць, чыіх тут больш каменняў, гэта наша агульная спадчына, якую абавязаны мы захаваць для нашчадкаў.

Дзеля гэтага ўдзельнікі канферэнцыі разам з гаспадарамі правялі арганізацыйны сход па стварэнні міжнароднага фонду "Крэва". Першачарговымі задачамі фонду вызначаны акумуляцыя навуковых ведаў па гісторыі Крэва, стварэнне музея, збор сродкаў на археалагічныя даследаванні і кансервацыю Крэўскага замка з перспектывай яго рэстаўрацыі. Хай сабе на сённяшні дзень перспектыва гэтая ўяўляецца фантастычнай, але тры дзяржавы пры наяўнасці жадання і волі, безумоўна, здольныя яе ажыццявіць.

У склад праўлення фонду ўвайшло 15 чалавек, старшынёй яго абраны Уладзімір Някляеў, для якога Крэва — крэўная зямля, на якой паэт нарадзіўся.

**Сямён ТАТУН**



МУЗЫКА

# Пошук вянчаюць дасягненні

Творчасць нашага вядомага кампазітара, аднаго са старэйшын музыкі, народнага артыста Беларусі, прафесара Генрыха Матусавіча Вагнера заўсёды вызначалася і вызначаецца высокай плённай актыўнасцю, нястомнымі пошукамі новых выяўленчых сродкаў, музычных форм і жанраў.

Ён знаны аўтар опер, балетаў, сімфоній, канцэртаў, паэм. Чацвёртая сімфонія Г. Вагнера — яркі прыклад сінтэзу глыбокіх традыцый са смелым наватарствам і ўзорамі высокага кампазітарскага майстэрства. Гэты твор з'яўляецца, на мой погляд, несумненна значным дасягненнем беларускай кампазітарскай школы.

Музыка сімфоніі прываблівае сур'ёзнасцю, яркасцю эмацыянальнага выяўлення, маляўнічым валоданнем аркестравымі тэмбрамі. Дзівосны твор! Але галоўнай яго адметнасцю з'яўляецца выкарыстанне народнага хору, які ўдзельнічае ў асобных частках сімфоніі, бышцам самім гучаннем акцэнтуе галоўную тэматычную канцэпцыю: прарастанне ўсяго музычнага матэрыялу з першапачатковага зерня — вядомай беларускай песні "Люблю наш край".

Чацвёртая сімфонія з вялікім поспехам выконвалася ў філарманічных канцэртах і запісана ў фонд Нацыянальнага радыё.

Кампазітар Г. Вагнер у сваёй творчасці неаднаразова звяртаўся да багатага беларускага фальклору. Многія яго харавыя партытуры і песні натхнёныя вершамі беларускіх паэтаў. Музыка кампазітара гучала далёка за межамі нашай краіны, некаторыя творы выконваліся ў Польшчы, Аўстрыі, Румыніі, Балгарыі, Германіі, Чэхаславакіі.

Лічу, што новая праца кампазітара — Чацвёртая сімфонія — вартая высокага прызнання — Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне музычнага мастацтва.

**Ігар АЛОЎНІКАЎ,**
**народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар**

ТЭАТР

# Фама і вечнасць

Генадзь Аўсяннікаў і Валерый Філатаў, знакамітыя купалаўскія зоркі, сутыкнуліся з нечуванай праблемай: маральна таньчыць народу "камарынскага" або не?! Генадзь Сцяпанавіч кляйме ўсялякія скокі, а Валерый Мікалаевіч для "камарынскага" мо і зрабіў бы выключэнне...

Сутыкнуў купалаўцаў у гэтай "камарыллі" рэжысёр Уладзімір Савіцкі. Натуральна, у ролях — Фамы Апіскіна ды Ягора Ільіча Растанева з "Сяла Сцяпанчыкава..." Фёдара Дастаеўскага. У пазнавальна-жыццёвым ды падкрэслена тэатральным супрацьстаянні-яднанні гэтых неадназначных герояў класічнай літаратуры.

Аўтар п'есы — Уладзімір Бутрамееў. Ён і даў спектаклю купалаўцаў назоў "Вечны Фама". Той і напраўду мае вечную — адметна артыстычную натуру: непераўзыдзеную здольнасць быць шчырым і няшчырым, подлым і адданым, жорсткім і спагадлівым — адначасова.



"Вечны Фама" яшчэ перажывае сваю прэм'ерную часіну: 8, 9, 10 кастрычніка адбыліся ягоныя першыя выхады на патрабавальныя вочы мінскай публікі. Рэжысёру У. Савіцкаму яшчэ выпадзе пераглумачваць журналістам ды крытыкам свае думкі на падставе драматургіі. Мастаку Барысу Герлавану — яшчэ даводзіць да належнага кшталту адмысловае тэатральнае асвятленне і пляцоўку. Генадзю Аўсяннікаву, Валерыю Філатаву, Ігару Дзянісаву, Сяргею Краўчанку, Алегу Гарбузу з паплечнікамі — таксама працягваць сваё: разумецца з нагоды скакання "камарынскага", маральнасці, спагадлівасці ды артыстычнасці.

**Ж. Л.**

*Фота А. ПРУПАСА*

АБСЯГІ

*ГРОДНА...*

## Дзень маці

14 кастрычніка ў Гародні прайшоў Дзень маці. Мерапрыемствы ладзяцца гарвыканкамам і адміністрацыямі двух гарадскіх раёнаў. Светлы вобраз маці ў чарговы раз будзе ўшанаваны ў арганізацыях і на прадпрыемствах. А ў гарвыканкаме ў гэты дзень пройдзе сустрэча з маці, дзеці якіх заўчасна загінулі выконваючы вайсковы інтэрнацыянальны абавязак, пры іншых абставінах. Жанчынам будзе выдзелена матэрыяльная дапамога.

**Ірына ІВАНОВІЧ**

*ВІЦЕБСК...*

## Прывітанне рускага пісьменніка

У Верхнядзвінску ствараецца літаратурны музей. Дапамагае сабраць цікавыя матэрыялы пра землякоў-літаратараў паэт Сяргей Панізнік, які сам нарадзіўся на берагах Дзвіны.

— У нас створана літаратурная карта, а паэтычныя вечарыны сталі ўжо традыцыйнымі, — гаворыць дырэктар бібліятэчнай сістэмы Верхнядзвінскага раёна Валянціна Крук. — Праходзілі цікавыя сустрэчы з творчасцю нашых землякоў Эдуарда Самуйлёнка, Генадзя Героднікa, Ігнація Храпавіцкага. І вось апошняя вечарына "Лёсам далучаныя..."

У Верхнядзвінск прыехала дачка расійскага пісьменніка Сяргея Сартакова — Таццяна. Справа ў тым, што ў вёсцы Мушына нарадзілася яго маці — Ганна Якаўлеўна Нарубіна. На пачатку XX стагоддзя яна паехала ў Сібір і выйшла замуж за Сартакова. Самі Сартаковы на Верхнядзвіншчыне не былі. І вось дачка пісьменніка прывезла ў будучы літаратурны музей шасцітомны збор сачыненняў бацькі, а таксама пісьмо-прывітанне да яго. Сёлета пісьменніку споўнілася 90 год.

## З аднаго фестывалю на другі

На гэтым тыдні Беларускі тэатр "Лялька" адкрывае свой 14-ы сезон. Днямі віцебскія лялечнікі прывезлі Гран-пры міжнароднага фестывалю "Белая вежа", які праходзіў у Брэсце, а ў верасні ўдзельнічалі ў фестывалі ў Тэгеране, які сабраў тэатры лялек з 21 краіны.

— Наш тэатр — новая старонка гэтага фестывалю, — гаворыць мастацкі кіраўнік Віктар Клімчук. — І нашым акцёрам было чаму павучыцца, калі мы глядзелі пастаноўкі в'етнамскага тэатра лялек на вадзе, традыцыйнага кітайскага тэатра.

У лістападзе "Лялька" павязе "Брэменскіх музыкаў" у Гродна, дзе будуць паказаны лепшыя спектаклі рэспублікі.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## Сустрэча з героямі "Памяці"

Сустрэчу з героямі кнігі "Памяць", якая прысвечана Магілёву, правёў гарадскі цэнтр культуры і вольнага часу. Пра гераічнае падполле ў гады Вялікай Айчыннай вайны расказалі яго ўдзельнікі муж і жонка Валянцін Яўменавіч Готвальд і Аза Мікалаеўна Жывапісцава. Ад імя тых, хто будаваў Магілёў, выступію былы кіраўнік знакамітай у свой час брыгады, заслужаны будаўнік Беларусі, Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Паўлавіч Старавойтаў. Воінаў-афганцаў на сустрэчы прадстаўляў Уладзімір Тоісцаў. На вечары гучалі песні ў выкананні камернага хору горада і фальклорнага ансамбля "Пацеркі" клуба камбіната сілікатных вырабаў.

## "Ад усяе душы"

Так называўся чарговы канцэрт членаў клуба бардаўскай песні "Новы горад", які дзейнічае пры Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу. Клуб узнік у 1993 годзе як секцыя беларускай культурна-асветнай суполкі "Машэка". У ім 27 чалавек. На яго рахунку шмат цікавых імпрэз: праграмы "Калядныя дзівацтвы", "Лампада сноў", "Сцежкамі Янкі Купалы", "Калі вам не да смеху" і іншыя. Прэзідэнт клуба Сяргей Кулягін і яго сябры Алеся Бердніківа, Уладзіслаў Галубінскі, Марыя Якубоўская, Наталля Коршакава, Аляксандр Баль, Наталля Зайцава і іншыя прапагандуюць бардаўскую песню. Сярод іх ёсць і аўтары такіх твораў.

**Іван ПЕХЦЕРАЎ**

*БРЭСТ...*

## Першая ластаўка

Яшчэ адным важным унёскам у станаўленне Брэсцкага дзяржуніверсітэта як акадэмічнае ўстановы вышэйшага тыпу з'явіцца выхад першага нумара новага навукова-тэарэтычнага часопіса "Веснік Брэсцкага універсітэта". Маладыя даследчыкі, выкладчыкі і супрацоўнікі ВНУ атрымалі добрую магчымасць для публікацыі вынікаў сваіх даследаванняў. Новае выданне, як падкрэсліваецца ў вітальным слове рэдкалегіі, запрашае да супрацоўніцтва не толькі універсітэтаўцаў, але і вучоных з іншых ВНУ горада, краіны, замежжа. У першыны жадаючыя сустрэнуцца з артыкуламі па псіхалогіі, літаратура- і мовазнаўстве, гісторыі, этнаграфіі. Ёсць раздзел "Хроніка. Інфармацыя".

## Чысты калодзеж

Толькі што, дзякуючы ўпраўленню інфармацыі Брэсцкага аблвыканкама, выйшаў з друку новы зборнік вершаў Ніны Мацяш "Я вас люблю...", у якім змешчаны ўсе вершы-прысвячэнні, напісаныя паэткай да гэтага часу.

Своеасаблівa адгукнулася на такую падзею абласная беларускамоўная газета "Народная трыбуна", якая на сваіх старонках змясціла побач анатацыю на зборнік і артыкул пра творчасць Ніны Мацяш берасцейскага прафесара Веры Ляшук "...Адзіна праца і каханне". Усё ў сукупнасці з'явілася важкім падарункам Ніне Іосіфаўне да яе 55-годдзя.

А што да новага выдання, то анансаваць вершы Ніны Мацяш — справа, як вядома, няўдзячная. Новую кніжку паэзіі трэба чытаць, спакваля ўваходзячы тым самым у свет, дзе пануюць гармонія і суладдзе, наталяючы пры гэтым сваю душу і чэрпаючы жыццёвыя сілы.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬ...*

## Яднала сэрцы музыка...

Мясцовы сімфанічны аркестр (мастацкі кіраўнік — Валянцін Краўцоў) даў канцэрт у вялікай зале Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. У ім прыняў удзел скрыпач з сусветным іменем, прафесар і акадэмік музыкі Майкл Грубэ з Эквадора. Ён выконваў творы Шуберта, Мендэльсона і іншых аўтараў.

З вялікім поспехам прайшлі выступленні і заслужанага артыста Беларусі, лаўрэата міжнароднага конкурсу баяністаў Мікалая Сердзюкова. У яго бліскучым выкананні гучала музыка рускіх, беларускіх і замежных кампазітараў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

# Ладзіцца канферэнцыя

22—23 кастрычніка 1998 года Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Федэрацыяй прафсаюзаў Беларускай і Беларускім інстытутам праблем культуры ладзіцца рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя на тэму: "Аматарская творчасць: устойлівыя і новыя тэндэнцыі". Да ўдзелу у канферэнцыі запрашаюцца вядучыя навукоўцы, кіраўнікі самадзейных калектываў, адміністрацыйныя работнікі.

Месцам правядзення канферэнцыі вызначаны Рэспубліканскі Палац культуры ветэранаў (вул. Янкі Купалы, 21). У першы дзень адбудзецца пленарнае пасяджэнне, у другі — работа па секцыях.

23 кастрычніка ў 16 гадзін усе ўдзельнікі канферэнцыі прымуць удзел у адкрыцці выставы "Беларускі ручнік" у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі па адрасе: г. Мінск, вул. К. Маркса, 12.

**Л. СІВУРАВА,**
**навуковы супрацоўнік БелІПК**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

З размахам, па-заліхвацку сем дзесяцігоддзяў запар прыватніцкую ўласнасць ператваралі ў грамадскую. Цяпер грамадскія ў нас галоўным чынам туалеты, ды і тыя здымаюцца з бюджэту і перадаюцца прыватным. Ці грамадскае ўжо тое жабрацкае, дзе ўваход платны?

●

— Вывучаць жыццё недзе за гарамі? — здзівілася курыца. — Вывучаць трэба тое, што пад нагамі варушыцца і курыцца.

●

— Алё, гэта магазін? — Сам ты магазін, крэцін, каб на цябе хаўтуры, гэта — Інстытут культуры.

●

Як мяняюцца рэкламныя абвесткі! Раней прапаноўвалі тавары, а цяпер паездкі. Курорты Германіі, Італіі, Францыі. А ў нас такая сітуацыя, што нам не да санацыі. Адзіны выхад са становішча — адпачынак у Ждановічах. Яно і для французаў, немцаў, італьянцаў не страчаны шанцы. Нясіце толькі шпарка ліры, франкі, маркі. Дык жа не, няма ў сродках масавай інфармацыі абвестак аб нашым месцы санацыі.

●

Кот, які не адчувае ў мышах смаку? Гэта ўжо не кот, а сабака. Сабака, які разваліўся ў гаспадарскім ложку? Гэта ўжо не сабака, а кошка. Адно чалавек зрабіць не ў стане: перарабіць таракана.

АНОНС

# У чаканні "польскага цуду"



Пяць гадоў таму ў Мінску, Варшаве ды Гданьску адбылося некалькі канцэртаў, паядналых агульнай ідэяй, агульнай назвай: "Беларуска-польскія музычныя сустрэчы". Мы пісалі пра іх падрабязна і з захапленнем, бо захапляцца было чым: майстэрствам гасцей (ансамблі "Ars nova", "Collegium vocale"), годнасцю нашых таленавітых суайчыннікаў (Ансамбль салістаў "Класік-Авангард", гітарыст Валерый Жывалеўскі, спявак Віктар Скарабагатаў), гарманічнасцю канцэртных праграм, гасціннасцю і разуменнем, якімі сустрэлі нашых музыкантаў у Польшчы, узроўнем арганізатарскай працы творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" ды польскіх дыпламатаў...

Шкада, што тая прыгожая і сур'ёзная міжнародная культурніцкая акцыя не атрымала чаканага развіцця. Аднак перапыніць музычныя стасункі суседзяў, у чыёй гісторыі багата агульнага, немагчыма. Калі-нікалі адбываюцца ў Мінску адметныя канцэрты, дзе нашы выканаўцы граюць польскую музыку; а бывае ж, і музыка беларускіх кампазітараў гучыць у праграмах польскіх гасцей. Сёлета прадстаўнікі нашай краіны годна паказалі сябе на міжнародным фестывалі новай музыкі ў Кракаве...

І вось — годны працяг беларуска-польскіх музычных сустрэч: 20 кастрычніка ў Мінску адбудзецца першы канцэрт з новага цыкла "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя". Яго рыхтуе Польскі інстытут у Мінску пры ўдзеле Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, Беларуская дзяржаўная філармонія.

На стварэнне гэтага цыкла канцэртаў, тлумачыць У. Байдаў, падштурхнула тое, што ў складанай музычнай атмасферы XX стагоддзя польская кампазітарская школа заваявала найвялікі аўтарытэт ва ўсім свеце. Сусветную вядомасць набылі В. Лютаслаўскі, Г. Бацэвіч. Т. Бёрда, К. Пендэрэцкі, К. Сяроцкі, Р. Твардоўскі, Х. Гурэцкі — кампазітары са сваім непаўторным почыркам, розных стылявых арыентацый. Апошнім часам у перыёдыцы часта ўжываецца выраз "польскі музычны цуд". Высокая змястоўнасць, яскравая вобразная прырода музычнай мовы і яе эмацыянальная выразнасць, клопат пра ўзаемадзеянне музыкі са слухачом, яе камунікатыўнасць, — удалае спалучэнне гэтых аспектаў і сталася прычынай сусветнай вядомасці твораў некаторых польскіх кампазітараў. Аднак мы не маем дастатковa інфармацыі пра стан музычнай культуры нашых бліжэйшых суседзяў, можам назваць толькі 2-3 прозвішчы яе вядучых прадстаўнікоў.

Стваральнікі цыкла маюць на мэце пазнаёміць слухачоў з кампазітарамі розных напрамкаў і стыляў, не прэтэндуючы на вычарпальнасць, даць першае, самае агульнае ўражанне пра музычную культуру сучаснай Польшчы і найбольш адметных яе прадстаўнікоў. У першым канцэрце прагучаць творы Мацея Малецкага, Паўла Бучыньскага, Яна Аляшковіча ды Хенрыка Мікалая Гурэцкага. Наведнікі Залы камернай музыкі змогуць набыць праграму з падрабязным анатацыйным матэрыялам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымку: "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава.*
*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

## Жыццё пасля смерці



**Апошняя восень напаткала Леаніда Марчанку нечакана і вельмі рана, калі яшчэ кіпелі задумы і штодзень пісаліся глыбокія, пранікнёныя творы. Персанальная выстава мастака ў Нацыянальным мастацкім музеі, прымеркаваная яго памяці, адбылася ў снежні 1997 года, на жаль, ужо пасля яго смерці. Выстава, што праходзіла ў ліпені гэтага года ў Магілёўскім мастацкім музеі, а пасля ў Бабруйскім краязнаўчым музеі (на радзіме Леаніда Максімавіча), мела вялікі поспех. У кнізе водгукаў наведвальнікі пакінулі шчырыя словы ўдзячнасці майстру. Вось некалькі з іх: "Які элегантны, чуйны і просты Мастак. Яго мастацтва мяжуе з музыкай, самай чыстай і мілагучнай. Мінорныя і мажорныя творы Мастака "гучаць" — успрымаюцца як санаты, як гімны, яны зачароўваюць, клічуць да хараства..."; "Можа быць, Вам пашчасціла: ад Вас застаўся доўгі, яркі і моцны след. Нехта гаварыў, што любімцы Бога паміраюць маладымі"...**

**Леанід Марчанка раптоўна, толькі на сваіх пасмяротных выставах, раскрыўся як шматгранны талент. Заваражвае патаемная сімвалічнасць яго графічных лістоў, маляўнічасць і мяккасць штрыха, уменне знайсці еапраўдную пастаку ў будаўнічых тэмах, гарадскіх пейзажах (цыклы "Лета ў Залацінцы", "Зямля і людзі", "Мой край азёрны", "Горад Мінск", "Палярны круг" і іншыя). Непаўторнай сакавітасцю вылучаюцца і акварэлі мастака, гарманічныя, жывыя, сапраўдныя лірычныя сюіты ("Нарач", "Цішыня", "Туман"). І паўсюль скрозь валёрнасць таноў, праз багацце штрыхоў, праз спакойны сюжэт прарываецца вобраз працавітага чалавека, нястомнага вандроўніка і цікавага мастака.**

**Галіна ФАТЫХАВА**

## Наша кніга — дзецям, пацярпелым ад Чарнобыля

**Вось ужо дзесяць год на базе былога санаторыя "Аксакаўшчына" працуе клініка НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі. Тут праходзяць планавае аздараўленне пацярпелых ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы, лечацца дзеці ліквідатараў і тыя, каму выпала жыць на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі.**

**Разам з клопатам пра фізічнае здароўе падрастаючага пакалення дбаюць тут і пра здароўе духоўнае: праводзяцца шматлікія мерапрыемствы культурнага кшталту, створана пакуль што невялікая бібліятэка.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў прапануе на шэфскіх пачатках паспрыяць папаўненню гэтай бібліятэкі новымі творамі айчыннай літаратуры. Просьба ахвяраваць на гэтую высакародную справу свае кнігі (пажадана з аўтографамі), а таксама кнігі з асабістых збораў. Яны так патрэбны маленькім пацыентам клінікі — дзецям, што шукаюць надзею ў жыцці.**

**Запачаткуем і падтрымаем акцыю "Беларуская кніга — дзецям, пацярпелым ад Чарнобыля".**

**Кнігі можна здаваць па адрасе: Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакой 307 або непасрэдна ў НДІ радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі ў Аксакаўшчыне.**

**САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

# Сямёра — з Беларусі

### З 15 ПА 20 КАСТРЫЧНІКА МІНСК ПРЫМАЕ III МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МОНАСПЕКТАКЛЯЎ "Я"

Падтрымку і патранаж ЮНЕСКА наш фестываль атрымаў ад свайго пачатку тры гады таму. Дзякуючы гэтай міжнароднай арганізацыі, а таксама Беларускаму нацыянальнаму цэнтру Міжнароднага інстытута тэатра (генеральны сакратар — Антаніна Міхальцова) фестываль не страціў ні вядомасці, ні геаграфічнай разнастайнасці. Ёсць пэўнасць, што і ўзровень фестывальных прапаноў збольшага застанецца высокім.

Гэтым разам Беларусь са сваімі творчымі "я" прадстаўлена багата. Галіна Бальчэўская, адна з самых сталых актрыс першай драматычнай сцэны рэспублікі, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, — спектаклем "Дагарэла свечачка" А. Петрашкевіча. Як мяркуе сама актрыса, гэты спектакль у рэжысуры Рыгора Баравіка — натуральны працяг таго, што яна ўжо паспяхова ўвасабляла на купалаўскай сцэне.

Ларыса Антосева і Фёдар Шмакаў, акцёры акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа, прывезлі спектакль у рэжысуры Валерыя Маслюка "Размова ў доме Штайн..." П. Хакса ды "Лебядзіны спеў" паводле А. Чэхава ў пастаноўцы Уладзіміра Матросава.

Дэбют Антосевай у знакамітых дударускіх "Радавых" яшчэ памятаюць заўзятыя тэатралы. Сама актрыса марыць выявіць беларускі нацыянальны характар праз асаблівасці тэатра інтэлектуальнай драмы, якому даўно аддае перавагу, і спасылаецца на досвед рэжысёраў Барыса Эрына, Валерыя Мазынскага, Віталя Баркоўскага.

Рэпертуару, які перайграў Фёдар Іванавіч Шмакаў з дня свайго першага выхаду на сцэну ў 1939 годзе, хапіла б на добрых паўтузіна тэатраў. Тым цікавей пабачыць акцёра... на поўнай адзіноце ў начным тэатры пасля бенефісу. Шмакаўскі герой Светлавідаў разважае пра хвіліннае глядацкае здавальненне ды пра адвечнае мастацтва, якое непадуладна марнасці й мітусні.

Галіна Дзягілева, чыімі намаганнямі ў 1989 годзе ў Мінску з'явіўся тэатр аднаго акцёра "Зніч", другі раз прапануе на фестывальны конкурс плынь успамінаў ды пачуццяў Рагнеды, пераасэнсаванне ёю чужых ды ўласных учынкаў, развагі пра хуткаплыннае ды адвечнае, — "Выгнанне ў рай" у рэжысуры Віргініі Тарнаўскайтэ (паказ спектакля тры гады таму няможна лічыць удалым). "Зніч" прапануе таксама дзіцячы спектакль у выкананні Вячаслава Шакаліды і рэжысуры Галіны Карбаўнічай "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага" П. Васючэнкі і С. Кавалёва.

Эмілія Пранскутэ, актрыса Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі, падставаю для свайго спектакля "Пацукалоў" абрала аднайменную паэму Марыны Цвятаевай, — пераствораную старажытнагерманскую легенду пра музыку, які вызваліў горад ад пацучынага нашэсця, але не атрымаў абяцанай гараджанамі ўзнагароды. Тады музыка звёў з сабою ўсіх дзяцей горада...

Віктар Сінайскі, адзін з тых, хто яшчэ ў шасцідзесятыя гады абраў полем сваёй творчай дзейнасці беларускую эстраду, распавядзе "Гісторыю кахання" паводле "Маленькага прынца" Антуана дэ Сента Экзюперы.

Бірутэ Марцінкявічутэ (Літоўскі нацыянальны драматычны тэатр) звярнулася да вядомай п'есы Сэмюэля Бекета "Шчаслівыя дні",ператварыўшы іх у "Словы ў пяску". Мяркуючы па тым, наколькі шыроказвядомы змест Бекетавай п'есы, можна чакаць вытанчанага, нават эстэцкага яе вырашэння.

Ласма Кугрэна, паводле латышскай крытыкі, з тых актрыс, якім немагчыма адшукаць роўню або замену. Яе ўдзел у любой імпрэзе гарантуе цікавасць. Спектакль Ласмы "Маленькая Бойе" апавядае пра адну з самых улюбёных шведскіх паэтак Карын Бойе (нарадзілася ў 1900, учыніла самагубства ў 1941) і базуецца не толькі на дзіцячых вершах Карын, але і на сапраўдных падзеях дзяцінства паэткі.

Шмат арганізацый, — фондаў, фестываляў, — прадстаўляюць расійскіх удзельніц Ніну Добрыкаву (дарэчы, вучаніцу нашага Канстанціна Саннікава, выпуск 1962 года) ды Ніку Касянкову, знаўца спецыяліста па тэхніцы маўлення, рэжысёра, педагога, прэзідэнта фонду "Метамарфозы — XXI стагоддзе". Добрыкава прапануе спектакль "Баба на пераправе", Касянкова — "Фенікс" ("Канец Казановы") паводле Марыны Цвятаевай.

Знаны малдаўскі акцёр Думітру Фусу, стваральнік тэатра аднаго акцёра ў Кішынёве, рэжысёр тэатра і кіно, падзеліцца з публікаю сім-тым "З гісторыі чалавека і чалавецтва" паводле шмат якіх класікаў і некласікаў паэзіі ды драматургіі.

Дамір Шабан з Маладзёжнага тэатра Загрэба (Харватыя) у сваім прадстаўленні "Гасталон" распавядзе аб прыгодах вядомага харвацкага пісьменніка, журналіста, паэта А. Маташа (1877—1914). Клоунам-бадзягам ён сноўдае па ўсім свеце, яго можна заспець то ў Парыжы, то ў Каіры...

Два спектаклі Іяланты Козак (Кіль, Германія), вучаніцы знанага Ежы Гратоўскага, перадусім дадуць магчымасць пачуць... лацінскую мову. "Пігмаліён" паводле Б. Шоу Іяланта як мага наблізіла да Авідзія, а "Апакаліпсіс" складаюць аўтэнтыкі першай нямецкай паэткі Харцвіты з Гандэрхайма (у раннім сярэднявеччы яна, натуральна, аддавала перавагу лаціне).

Алекс Лэтам, англічанін па паходжанні, абраў сабе Будапешт і тэатр "Калібры". Ягоная сцэнічная гісторыя, выкладзеная паводле Бары Грэхема (Шатландыя), спалучае сабою дзве культуры, англійскую (англамоўную) ды венгерскую.

Манік Шнайдэр са швейцарскага Берна, гімнастка, акрабатка, актрыса, падставовай ідэяй свайго спектакля "Паяча" назвала... тэатральны касцюм клаўнэсы. Вялікага памеру камбінезон-мех з доўгімі калашынамі і рукавамі. Яе Паяча (жанчына-клоун) расце разам са сваім клоунскім строем, перажывае ўсе перыяды чалавечага жыцця і канае, але не скідае сваёй апранахі.

Караліна Хэрэз з Чылі ў Мінску адкрыта назавецца сваім імем, між тым яе калектыў у Санцьяга мяняе сябе "Ананімным калектывам". З дапамогаю драматурга Марсела Мелада і рэжысёра Рыкарда Баліса актрыса прадстаўляе колькі эпізодаў з жыцця былой тэатральнай зоркі, якая ладзіць парадыйна-крытычную праверку свайму жыццё.

Застаецца дадаць хіба адно: на чале фестывальнага журы стане доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі, а ў склад, акрамя прадстаўнікоў Беларусі, увойдуць спадары з Германіі, ЗША, Швейцарыі ды Расіі.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

ІМПРЭЗЫ

# У новы сезон — з беларускай ідэяй

Цяпер і ў нас ёсць музычны калектыў, ганараваны званнем "заслужаны". Як мы паведамлялі, у гэтым новым статусе пачаў свой чарговы сезон Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны Міхала Фінберга. Нядаўна маэстра правёў прэс-канферэнцыю, падчас якой падзяліўся з журналістамі і першымі набыткамі новага сезона, і творчымі планамі аркестра.

Такім чынам, заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь, знаны і папулярны аркестр сваю добрую славу пацвердзіў ужо на пачатку восені. Ён удзельнічаў у вялікай музычнай імпрэзе, што адбывалася ў Італіі і складалася з фестывальных выступленняў ды творчых спаборніцтваў паводле розных намінацый. Камерны аркестр, якім кіруе заслужаны артыст Беларусі Валерый Сарока і які ўваходзіць у структуру Дзяржаўнага канцэртнага, меў выключны поспех і быў адзначаны І прэміяй. Да таго ж, атрымаў запрашэнні зноў выступіць у Італіі, а таксама ў Турцыі і Германіі.

А "дома"? Праца ў разгары! Прайшлі канцэрты ў Салігорску, у Жодзіне (з нагоды юбілею БелАЗа); у Мінску — аўтарская вечарына кампазітара Алега Елісеенкава. Па-ранейшаму стратэгію мастацкай працы маэстра М. Фінберга і яго аркестра вызначае ўвага да нацыянальнай адметнасці беларускай культуры, і таму пачалася падрыхтоўка "фірмовых" фестываляў — "Музы Нясвіжа" ды "Спяваем з аркестрам..."

На баль у некаранаваную беларускую сталіцу — Нясвіж збяруцца музы знаных у розныя часы культурных асяродкаў: Вены, Вільні, Парыжа, Пецярбурга, Слоніма... Плануецца, што ў вялікай канцэртнай праграме ўпершыню возьме ўдзел Акадэмічны хор Белтэлерадыё пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды, што адзін фестывальны вечар будзе прысвечаны маладым талентам краіны — навучэнцам Рэспубліканскага каледжа пры Акадэміі музыкі, сярод якіх і музыканты Камернага аркестра пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна. З новай праграмай выступяць і калектывы Дзяржаўнага канцэртнага аркестра: Камерны на чале з Валерыем Сарокам ды Актэт драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Барыса Нічкова. Як і заўсёды, адбудзецца навуковая канферэнцыя.

Фестывалю "Спяваем з аркестрам..." надаецца асаблівая ўвага, бо гэта адзіная музычная імпрэза, дзе ў выкананні дзяцей гучаць эстрадныя песні, створаныя на беларускія тэксты, прытым спяваюць юныя салісты без выкарыстання фанаграмы і ў суправаджэнні сапраўднага вялікага аркестра.

Прэстыжу айчыннага джазавага выканальніцтва спрые Міжнародны фестываль джаза, які праводзіцца ў Мінску па ініцыятыве аркестра. Ён мае адбыцца ў лютым і сабраць поруч з беларускімі джазменамі гасцей з Летувы, Польшчы, Расіі, Украіны. А на БТ рыхтуецца новая штомесячная праграма Дзяржаўнага канцэртнага аркестра "Джаз апоўначы", якая будзе ісці ў "жывым" эфіры.

Папулярызацыя творчасці нацыянальных кампазітараў і паэтаў, бенефісы салістаў аркестра — аснова яго бліжэйшых і перспектыўных планаў. Напрыклад, сёлетні "Залаты шлягер" уключае два канцэрты (2 і 3 лістапада, у Мінску і ў Магілёве), прысвечаныя 60-годдзю вядомага джазавага музыканта Аркадзя Эскіна, які за тры дзесяткі гадоў працы на беларускай эстрадзе ўдзельнічаў у розных фестывалях і неаднаразова станавіўся лаўрэатам. Рыхтуецца праграма з твораў Ігара Лучанка, прысвечаная яго юбілею.

Што да паэтаў, чыя творчасць натхняла і натхняе нашых кампазітараў на песні, — аркестр не абміну ўвагай, здаецца, ніводную значную асобу. І, каб не паўтарась колішня аўтарскія праграмы, вырашана кампанаваць на іх аснове новыя — з лепшых песень на вершы трох-чатырох паэтаў. Такім чынам у канцэртах аркестра з'явіцца адметныя песенныя партрэты Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна ды ўсіх іншых майстроў крылатага радка, што паяднаўся з музыкай.

Пад гэтую ўмоўную пакуль рубрыку "Творчыя партрэты" цалкам падпадае імя Уладзіміра Някляева, але песням на ягонь вершы будзе прысвечана асобная аўтарская вечарына — своеасаблівая акцыя ў падтрымку паэта, вылучанага на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Паводле слоў М. Фінберга, рыхтаваць аўтарскі канцэрт У. Някляева і лёгка, і няпроста. Ёсць паўтары сотні самых розных песень на ягоныя вершы, запісаных на радыё, з іх у рэпертуары салістаў аркестра — каля ста. Значыць, не трэба ствараць штосьці "да нагоды", трэба проста выбраць "самае-самае". Але ж выбраць — няпроста!

"Я прыйшоў з беларускай ідэяй..." — казаў у колішнім лімаўскім інтэрв'ю маэстра М. Фінберг, разважаючы пра свой чын мастацкага кіраўніка аркестра. Наколькі слушнай застаецца для яго гэтая ідэя, сведчаць планы новага сезона. І перадусім — бліжэйшая прэм'ера, што мае адбыцца 16 лістапада ў Вялікай зале сталічнай філармоніі.

Прэм'ера прысвячаецца 200-годдзю Адама Міцкевіча і абяцае стацца сур'ёзнай культурнай падзеяй. Дзяржаўны канцэртны аркестр, яго салісты рыхтавалі яе на працягу года, у садружнасці з Саюзам пісьменнікаў. Аснова новай працы — 14 песень Эдуарда Зарыцкага на вершы Адама Міцкевіча ў перакладзе Васіля Жуковіча. Гэта будзе не проста канцэрт, гэта будзе сугучная нашаму часу імпрэза з удзелам драматычных акцёраў, у адмысловым сцэнічным афармленні (рэжысёр-пастаноўшчык Ніна Осіпава).

Міцкевіч на эстрадзе... Інтрыгуе? А чаму ж не быць яму ў сённяшнім песенным свеце, дзе жывуць, пачуваючы сябе нашымі сучаснікамі, лірычныя вобразы Купалы, Коласа, Багдановіча... Да прэм'еры — месяц зацікаўленага чакання.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ДУША

# Ішоў кныр з кныранятамі...

## ЯШЧЭ РАЗ АБ ПРЫРОДЗЕ ЧАЛАВЕЧЫХ ІНСТЫНКТАЎ

НІЯК НЕ СПРАЎЛЮСЯ з гэтай дзіцячай скорагаворкай. Ішоў кныр з кныранятамі... Які ўжо час не атрымліваецца. З дыкцыяй штосьці. А, можа, яшчэ ў чым справа? Вымавіць палюдску не магу, але карцінку ўяўляю цудоўна. Ідзе свінячая сям'я хвост у хвост, лычамі ў зямлю, глыбакадумна парохквае і павісквае. Ідзе напралом, не зважаючы па кнырынай канстытуцыі сваёй, што паўзверх галоў робіцца. Ідзе мэтанакіравана, пераўтвараючы роўнядзь у калдобіны і пакідаючы пасля сябе зусім не водарныя выдаткі свінячага жыццеіснавання. Не бясполыя істоты, фіналам якіх — смажаніна на шчодрай патэльні, а зацятыя ў сваіх натуральных жаданнях шчаціністыя звяры. Не мяккацелыя і лёгкаранімыя творцы, а самаўпэўненыя ды самаўлюбёныя вытворнікі...

Словам, карцінка яшчэ тая. Нібы з-пад пэндзля Босха цьмяным пахмельным ранкам. Вось табе і скорагаворка. Не, ніяк вымавіць як след не магу. Усе гэтыя К, Н, Р наліпаюць на язык, нібы табачыны ад "беламору" — толькі і адплёўваешся. Кепская дыкцыя. Таму стараюся менш гаварыць, больш слухаць і, калі Бог дае, больш пісаць. Пра жыццё, у якім так шмат бруду, пра бруд, без якога ўжо не ўяўляеш жыцця, пра чалавека, у асобе якога пачаргова і Усявышні і Люцыфер. Усё гэта, здаецца, і называецца публіцыстыкай...

Розуму ніяк не дабяру наконт высноў Льва Талстога: "Няма ў свеце вінаватых. Хто шчаслівы, таго й праўда!" Згаджаюся з бліскучым у бязлітаснай шчырасці Васілём Розанавым: "Чым я больш за ўсё ўражаны ў жыцці? Невысакароднасцю. І — высакароднасцю. І тым, што высакароднае заўжды ў прыніжэнні. Свінства амаль заўжды бярэ верх. Зневажальнае свінства..." Так, так. Мамантавыя свінні, свінячыя маманты, старажытныя выкапні і сучасныя паслячарнобыльскія ўтварэнні-мутанты... Як бы хто ні круціў незадаволена носам — а гэта ж нашае, амаль класічнае, нацыянальнае і спрадвечна бясконцае. Арганічнае зліццё (у часіну бяздумных перамен) нораваў жывёльных з норавамі чалавечымі. Вялікі эксперыментальны заапарк пасярод Еўропы. І поўны набор інстынктаў, рэфлексаў і рэфлексій.

Звярэем ад усведамлення ўласнай бездапаможнасці. Каго з вас, да прыкладу, не выклікаў у кабінет кіраўнік (калгаса, фабрыкі, канторы...) і не кідаў катэгарычна, калі не ў вочы, дык празрыстым намёкам: "Я — начальнік, ты — дурань!" І колькі начальніцкага шчасця ў праявах такога, амаль бязмежнага ўладарання над вінцікамі-людзьмі! Няўжо паталстоўску сапраўднага? Зноў-такі, каго з вас не спыняў на дарозе жвавы даішнік з "нестатутнай" цыгарэтай у зубах і непрыхаванай прагай амаль планавага хабару? Каго з вас не прыніжалі і не абражалі пад высакароднымі, здавалася б, лозунгамі ўмацавання ўсеагульнага дабрабыту і дзяржаўнай непахіснасці? У крамах, бальніцах, дамах бытавога абслугоўвання. Вялікія і дробныя кіраўнікі-выканаўцы нашых жыццёвых жаданняў і памкненняў, чаму вас так шмат?! "Начальніку нашаму палец у рот не кладзі — усю руку адхопіць, — расказвае абурана адзін з працаўнікоў немалаважнага для сталіцы прадпрыемства. — За тое, што шмат патрабуем, на адным з апошніх прафсаюзных сходаў быдлам нас назваў не прыхоўваючыся..."

Ці мае рацыю доўжыць несуцяшальныя прыклады далей? Хопіць рытарычных пытанняў. Няма сэнсу. Бо не ў начальніках і начальнічках справа! Бог з імі. Справа ў нас саміх. Гэта ж мы іх выбіраем, вылучаем, падтрымліваем, галасуем за іх аберуч і з гатоўнасцю ідзём пад іхнімі бюракратычнымі штандарамі ў чарговы бой за сваё, кроўнае. А ў выніку змагаемся з самімі сабой, і ў бітве гэтым ніколі не бывае перамог. Адны беззваротныя і балючыя страты. Пасля чарговага паражэння з законапаслухмянай гатоўнасцю абвінавачваем ва ўсім Захад з яго нахабным долярам і ўпартымі падкопамі па рассакрэчванні таямніц нашай калгаснай вытворчасці, ківаем на народны фронт з яго крывавым жаданнем штосьці там адрадзіць... Абвінавачваем усіх, толькі не сябе. Своеасаблівы інстынкт захавання знешняй прыстойнасці пры поўным няўменні рэальна ацэньваць тое, што робіцца наўкола. Таму пра сумленне сарамліва не ўспамінаем. Ад праяў хоць нейкага здаровага сэнсу адмахваемся, як ад надакучлівай восеньскай мухі. Сабе даражэй. Паступова, але ўпэўнена становімся ідэальнымі жыхарамі сённяшняй Беларусі — сляпымі, глухімі і нямымі. Поўная адсутнасць памяці ў спалучэнні з нежаданнем планаваць будучыню канчаткова замацоўваюць жадаемы эфект. Пагалоўе аматараў зневажальнага ўласнага свінства павялічваецца амаль штодня.

Калі эканамічныя і прававыя законы не дзейнічаюць, верх бяруць істэрычныя эмоцыі, жывёльныя інстынкты. Усё роўна як статак без пастуха ператвараецца ў зграю. Калгаснік, співаючыся, абкрадвае ўласны калгас, рабочы, упарта не цвярэзеючы таксама, па выхадных шукае чарговую "шабашку". "Быдла!" — крычыць начальнік. "Натоўп!" — іранізуе інтэлігент. Народ, шалеючы ад абодвух, не паспяваючы за імклівым ростам цэн, бязлітасна змагаецца сам з сабою. Прагназаваць трагічны вынік гэтай барацьбы — усё роўна як прадказваць, што пасля вясёлай нядзелі прыйдзе млосны панядзелак.

Пры адсутнасці духоўнай еднасці паміж бюракратамі, інтэлігентамі і народам высакароднае застаецца ў лозунгах, абяцаннях, працягвае няўпэўнена цепліцца на старонках літаратурных твораў, на тэатральных падмостках, на элітарных экранах кінатэатраў і на палотнах жывапісцаў. У высакароднае паступова перастаюць верыць самі мастакі. Духоўнае, чалавечае не дае ўпэўненасці нават у сённяшнім дні. Жыццё рэальнае і жыццё, штучна расфарбаванае прафесіяналамі-эстэтамі, паступова кангламеруюцца ў адзінае непрыглядное існаванне. Яшчэ раз на практыцы пацвярджаецца колішняе класічнае: "Мысль изречённая — есть ложь".

На сваёй кніжцы Віктар Стрыжак пакінуў мне шчырае пажаданне: "Шчаслівага табе бяссоння..." Бяссоння хапае, але ці шчаслівае яно? Зайздрошчу паэтам. Яны нястомна будуюць уласную дзяржаву ў межах непаўторна асабістай свядомасці, уздымаюцца высока над побытам, п'янеюць у гэтым бязважкім палёце, адчуваючы душой зямную чалавечую еднасць. Ідэалісты! Яны з гатоўнасцю, дадзенай Богам, будуюць гэты свет для ўсіх, а атрымліваецца часцей за ўсё — толькі для сябе. Колькі ў выніку неажыццёўленых спадзяванняў, колькі асабістых трагедый. Для нас, затлумленых побытам, зразумець не тое што бліжняга, самога сябе — за мяжой магчымага. Кіруемся толькі інстынктамі: "Ты куды пабег? А я!" І ўслед, займаючы месца, выпрошваючы і штосьці выбіваючы. Прыслухоўваемся толькі да эмоцый: "Ну паганцы! Ну хапугі!" І зноў услед, з кроку пераходзячы на імклівы мэтанакіраваны бег. За сваім, за кроўным, дзеля якога не шкада ні сіл, ні здароўя, ні сумлення з добрапрыстойнасцю.

Ваяўнічае, зневажальнае свінства... У чым яго прырода? У нежаданні ці няўменні застацца самім сабой? У спрадвечным жывёльным страху перад няпэўнасцю, перад нечаканай згубай шчаслівага ўладарання хоць над кім-небудзь? Відаць, так. Сапраўды, каго вабіць няпэўнасць? Заўжды, хочацца канкрэтнага: хлеба, да прыкладу, і відовішчаў. Гарантаванай хлебнай пайкі (пажадана з маслам), выпечанай на вогнішчы, раскладзеным у якасці відовішча, скажам, з "апазіцыйных" беларускамоўных кніг... І якім па-інтэлігенцку недаравальна мяккім выглядае на фоне ўсяго гэтага колішняе мележаўскае: "Горш за ўсё ў жыцці — няпэўнасць. Аддаю перавагу яснасці.. Няхай цяжкай. На жаль, жыццё складаецца амаль цалкам з няпэўнасцей. І людзі нярэдка садзейнічаюць няпэўнасцям: ухіляюцца ад адкрытых рашэнняў, дзейнічаюць няшчыра..."

Мы, якія пастаянна "ўхіляемся ад адкрытых рашэнняў, дзейнічаем няшчыра", каб дагадзіць начальству, падлашчыцца, падмануўшы сумленне, да занядбанага жыцця! Давайце прыслухаемся да сябе! Ці не ўзводзім мы зневажальнае да ўсяго свінства — невуцтва ды абыякавасць — у ранг асабістай добрапрыстойнасці? Ідзе кныр з кныранятамі... Ці не мы гэта з вамі? Па чужых галовах, лёсах, марах? Няўжо не мы? Але з якой хваравітай прагаю (ці не праўда, спадары?) хочацца іншым разам уліцца ў гэтыя шэрыя, не надта прыемна пахнучыя шэрагі! Ісці немаведама куды, па загадзе, хвост у хвост, лычамі ў зямлю, раз ад разу прыпадаючы да кармушкі. Надзейнай, гарантаванай, заўжды поўнай (няхай сабе долар ужо і за сто беларускіх тысяч). Груба, неэстэтычна? Але па законах славутага сацрэалізму. Тым больш, што сапраўды ўліваемся, прыстройваемся, прыкормліваемся, становімся ручнымі, выдзяляем сліну па загадзе зверху і ў чаканні пайкі. Рохкаем і вішчым, абступіўшы карыта. Б'ём, сыта ікаючы, у набат, ратуем невядома ад каго радзіму, не зважаем, што — ад сябе. І паглядваем пераможна на тых, якія ўнізе і па-ранейшаму галодныя: "Для нас, прадбачлівых, вяршыні ўжо скарыліся, шчаслівае жыццё ўдалося!"

Народ у абцугах дзяржаўнасці ўтрымліваецца надта лёгка на інстынктыўна-фізіялагічным узроўні. Напрыклад, так: "Ветэраны! Пра якую будучыню гаворка, калі ўсё ваша светлае — маладосць баявая, першае і апошняе каханне — у мінулым. Наперад да мінулага!" Альбо гэтак: "Патрыятычная моладзь! Няўжо не падтрымаем ветэранаў? З баявым задорам, юнацкай няўрымслівасцю і непрымірымасцю да ворагаў радзімы!" Моладзь, стомленая барацьбой за бяспечны секс, з недаверам пазірае на Малады фронт, з практычнай цікаўнасцю пачынае прыглядацца да тых жыццёвых прынцыпаў, якія "заўжды бяруць верх".

Усе мы, замбіраваныя абяцаннямі ўлад, што крызіс Расіі ніяк не паўздзейнічае на беларускую эканоміку, асалавела вышукваем адказы на жыццёвыя пытанні ў навязлівых тэлевізійных рэкламах; часовае супакаенне для заўжды напружаных нерваў знаходзім у мексіканскіх серыялах; шануючы ворагаў, паступова забываем сяброў; нястомна падлічваем грошы, якіх няма і, відаць, ужо не будзе; маўкліва згаджаемся з тымі "шчаслівымі", што ледзь не кожны дзень здзекуюцца з нас; прызвычайваемся, як мележаўскі Васіль Дзяцел, трываць; не заўважаем сарамліва, што ператвараемся ў гарлахвацкіх і скуратовічаў; нястомна шукаем у жыцці доказы таму, што чалавек чалавеку — воўк; цягнемся ў прыцемкі мінулага маўклівай, сляпой і панурай чарадой. Хвост у хвост... А праявы чалавечага (радасці, што камусьці ў свеце добра, смутку ад таго, што нехта заплакаў) — як рэдкія праблескі сонейка ў бясконца пахмурны дзень...

Пры поўнай адсутнасці хоць нейкіх ідэалаў імкліва мяняюцца фармулёўкі інтэлігентнасці. Тэрміналагічнай карэкцыяй займаюцца, натуральна, толькі тыя, хто лічыць сябе "сумленнем нацыі". Працэс працаёмкі і пакутлівы. У чым, сапраўды, сутнасць інтэлігентнасці? Безумоўна, не ў адукацыі. Безумоўна, не ў капелюшы з акулярамі, не ў прадстаўнічым гальштуку. "А ў чым жа тады?" — азадачана чухае патыліцу сярэднестатычны жыхар Беларусі, які так і не здолеў стаць сапраўдным яе грамадзянінам. Пытанне бездапаможна завісае ў паветры. У чаканні летуценных "дзекабрыстаў" пустуюць "сенацкія" плошчы, і па-ранейшаму баль правіць долар, і штосьці няўлоўна беларускае беззваротна вылятае ў газпрамаўскую трубу, і бойка па жорсткіх жывёльных законах выжывання ўпарта працягваецца. Бойка з самімі сабой...

Як мала сярод нас сапраўдных купалаўскіх "мужыкоў"! Якія ні на хвілю не забываюць на тое, "што хоць мной кожны пагарджае, я буду жыць — бо я мужык". Мужыкоў з сялянскай прадбачлівасцю, дзяржаўнай непахіснасцю ў думках і ўчынках, падарэвалюцыйнаму сумленных і адкрытых, з пажыццёвай здольнасцю не вышукваць ворагаў побач, а знаходзіць "іх" унутры сябе: "Так, гэта мая памылка! Так, я бяру на сябе ўсю адказнасць! Прэч інстынкты! Я — за Беларусь!" Мала мужыкоў, шмат асоб мужчынскага полу. Высакароднае застаецца дзесьці ззаду, ледзьве не ў часінах Вялікага княства Літоўскага. Спробы рэанімацыі не вельмі ўдалыя, бо грашовых прыбыткаў не гарантуюць... Збіўшыся ў натоўп, адштурхваючы адзін аднаго локцямі, мы не збіраемся жыць, мы рыхтуемся бясслаўна выжываць. З уласнай дзіравай кішэні адчайна-высакародна кормім калгасы, так і не знайшоўшы "новай" зямлі, забіваем пырнікам і асотам старую, удасканальваем "трасянку", цешым і гадуем зневажальнае ўласнае свінства...

З Вайсковых могілак пазіраюць з горыччу на Беларусь гранітныя Купала з Коласам. У колішніх беларускамоўных першых класах нававыпечаныя вучні для паляпшэння дыкцыі і ўмацавання моўнага апарата спрабуюць засвоіць рускую скорагаворку: "Карл у Клары украл кораллы..." Спрабуюць засвоіць, як інструкцыю для будучага выжывання? Чаму б і не? Справа для нас заўжды актуальная. А Купала з Коласам нават пасля ўласнае смерці спрабуюць зазірнуць нам у вочы. Маўляў, калі ўжо так пестуеце інстынкт самавыжывання, дык за родную глебу чапляйцеся. Не сквапнымі рукамі, дрыжачымі ў прадчуванні чарговай пажывы, а духоўнымі каранямі. Каб сябе як нацыю, а не як зграю захаваць. І на роднай глебе гэтай не шыкоўныя катэджы-замчышчы невядома за чый кошт узводзіць, а з руінаў па крупінках падымаць сваё асабістае "Я".

Аднак — не. На першым месцы — страўнік. Хоць мары аб прыстойным дабрабыце ў выглядзе таннай каўбасы — не больш чым фікцыя. Адкуль узяцца той таннай каўбасе, калі так прыціскаюць рэфлексы з інстынктамі: чым больш абыякавы да ўсяго, тым большы шанц выжыць, навошта карпатліва наладжваць вытворчасць, калі "прыкарміцца" і пракарміцца можна элементарным махлярствам — духоўным, валютным, гаспадарчым... Выжывае той, хто больш нахрапісты — перад такой статкавай высновай пакутліва пасуюць "скрыпачы і паэты", якіх больш, "як у краіне маёй каласоў"... Змаганне за беларускую душу і ідэю ўсё больш нагадвае спрэчку з асабістым ценем. Расійскі эканамічны крызіс, накладваючыся на беларускую духоўную нішчымніцу, пагражае далёка ідучымі разбуральнымі наступствамі.

Дык, мабыць, ужо і не існуе беларускай нацыі?! Народ без еднасці ў межах безасабовай дзяржавы, народ, які думае і размаўляе па-руску, а жыць імкнецца (нягледзячы на хісткую і непрадказальную эканоміку) толькі па-беларуску добра. Якая нязграбная рознанакіраванасць у памкненнях! І ўсё па прычыне той самай прадвызначанасці "заапаркавага" існавання.

Мы — унікальны народ! Адсутнасць нацыянальнага ў свядомасці дакладна адлюстроўвае нашу сённяшнюю ментальнасць, высвятляе да самых непрыемных драбніц наш характар. Абыякавы, няўпэўнены, самаразбуральны. Пакінуўшы мінулае высакароднае ў музеі, мы "склаліся" і працягваем (вось ужо больш за 70 год) "складвацца" на падставе сацыялістычнага спосабу вытворчасці (чытай — планавага калгаснага самазнішчэння), "узніклі" на базе "двухмоўя". Адзінае, што нас зараз злучае — псіхічны склад розуму, уяўленняў, рэфлексаў і інстынктаў. Той самы славуты "беларускі характар", хоць, згадзіцеся, спалучэнне "беларус з характарам" гучыць сёння больш чым здзекліва. Гэта вам не старажытны свядомы грамадзянін Літоўска-Беларускай дзяржавы з мовай (па Усеваладу Ігнатоўскаму) "культурнай і дзяржаўнай", з дакладна вызначаным у "Статуце ..." беларускім правам, з еднасцю, збудаванай "больш шляхам згоды, чымся шляхам уціску і вайны..." Дык, мабыць, і не беларусы мы сёння, а проста жыхары невядома якой дзяржавы? Не ўчарашнія высакародныя барацьбіты за Бацькаўшчыну, штохвілінна гатовыя ў пагоню-выратаванне за кожным яе сынам, а сённяшнія абыякі, не вартыя нават жалю. І які нам, збяднелым на Беларушчыну, клопат да таго, што сыны нашы, унукі ці праўнукі будуць піць з калодзежа, у які мы так старанна плявалі і працягваем пляваць.

А што будуць піць, смагу не спаталяючы, і сумневу няма. Усё у гісторыі вяртаецца на кругі свае. І банальна гэта ў сваёй прастаце. Толькі кошт такому вяртанню занадта вялікі. А выплачваць па гэтым жорсткім рахунку даводзіцца, як бачна, ужо сёння. Згубленым ды даведзеным да інстынктаў уласным сумленнем.

Якой быць Беларусі? Здаецца, сэнсу пытанне не мае. Якімі павінны быць мы?! Каб вярнуцца, дайсці да Беларусі... Ісціна нараджаецца паступова. І не ў спрэчках, пасля якіх — адны гузакі і сукравіца. А, відаць, у асабістым пакутлівым выцісканні з уласных душ статкавага рабства. А шанц "людзьмі звацца" заўжды напагатове. І мова родная, як бы мы ні адбіваліся ад яе ў пошуках таннай каўбасы, пануе ў падсвядомасці генетычна. І як ні стараемся "ачалавечыцца" ды "падрасііцца", усё роўна цэкаем, дзэкаем, чэкаем. І зямля наша, хацелі б мы таго ці не, у старасвецкіх дубровах, азёрах і палетках, у старых паўразбураных замчышчах ашчадна і дальнабачна захоўвае магутную энергію менавіта беларускага духу. І грамадзян, якія сілкуюцца штодня гэтым гаючым водарам, яшчэ, дзякуй Богу, хапае. І не жадаюць яны быць ні глухімі, ні нямымі, ні невідушчымі.

Ішоў кныр з кныранятамі...
Ішоў і будзе ісці?

**Яўген РАГІН**

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Па шляхах старажытных родаў"



**"Па шляхах старажытных родаў" прайшла навуковая экспедыцыя, якую правялі работнікі Веткаўскага музея народнай творчасці. Мэтай яе было абследаванне берагоў ракі Бесядзь, пачынаючы з самага вусця ў Смаленскай вобласці да ўпадзення ў Сож у Веткаўскім раёне. У час экспедыцыі, шлях якой пралягаў па Смаленскай, Магілёўскай, Бранскай абласцях, удалося прасачыць распаўсюджанне традыцый, абрадаў, сабраць унікальныя прадметы адзення, упрыгожвання, запісаць фальклорныя творы, абрадавыя песні. Цяпер у музеі вядзецца апрацоўка гэтага матэрыялу.**

*На здымку: загадчыца Цэнтра па захаванні рамёстваў Людміла Новікава і навуковыя супрацоўнікі Ларыса Мазейка і Генадзь Лапацін — члены экспедыцыі даследуюць сабраны матэрыял.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "Вольнаму птаху" — вольнага лёту!

**Імя Леаніда Пранчака добра ведаюць нават тыя, хто асабліва не цікавіцца літаратурай. Больш за тое — сустракаюцца з ім ці не штодня. Дастаткова ўключыць радыёпрыёмнік і з рэпрадуктара абавязкова загучыць адна з песень, што апошнім часам сталі сапраўднымі шлягерамі — "Каханая", "Даставай, Язэп, гармонік", "Сумны саксафон", "Паклонніца", "Найлепшая ў свеце жанчына", "Цёмнавокая пані" і іншыя. Аўтарам вершаў, якія пакладзены ў аснову гэтых музычных твораў, і з'яўляецца Леанід Іванавіч. Усяго з-пад яго пяра з'явілася больш за 200 тэкстаў, якія прывабілі ўвагу кампазітараў Леаніда Захлеўнага, Эдуарда Ханка, Валерыя Іванова і іншых. Ды і выканаўцы не менш знакамітыя — Іна Афанасьева, Валерый Дайнека, Анатоль Ярмоленка, Якаў Навуменка, ансамблі "Верасы", "Сябры", Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі.**

**Толькі што "Бібліятэка часопіса "Маладосць" папоўнілася кнігай Л. Пранчака "Вольны птах", змест якой якраз і склалі вершы, што сталі песнямі. Свайго роду эпіграфам да зборніка гучаць гэтыя радкі:**

*Жыву, як вольны птах,*
*Між небам і зямлёй.*
*Згубіў усякі страх,*
*Ды не знайшоў спакой.*

*Вось так: ні там, ні тут.*
*Здаецца ява сном.*
*У Менску родны кут,*
*На небе родны дом.*

**У кнігу ўвайшлі творы розных гадоў (дагэтуль, дарэчы, Л. Пранчак быў прадстаўлены падборкай "Ясак любві" ў калектыўным зборніку "Лагодны прамень", мае кніжку "Першапутак", выдаў аўдыёальбом песень "Талака" і кампакт-дыск "Галоўныя словы", а таксама кнігу публіцыстыкі, нарысаў "Беларуская Амерыка"), але ўсе яны, — як слушна піша ў прадмове "З богам гаварыў на роднай мове..." Віктар Гардзей, — аб'яднаны гарачай любоўю да свайго роднага беларускага краю і таму вельмі прыемна, што даўні паэтычны радок, вынесены ў загаловак гэтай нататкі, не стаўся для творцы толькі гучнай дэкларацыяй".**

**Талент Л. Пранчака — лірычны па сваім складзе. І ў гэтым упэўніваюць нават тыя творы, у якіх унутрана прысутнічаюць публіцыстычныя матывы. Яны ўсё адно не поклічна-бунтарныя, а засяроджана разважлівыя. Ды нездарма кажуць, што ціхім голасам можна сказаць куды больш, чым узяць крыкам. І таму так блізка кладзецца на сэрца паэтава пажаданне, якім напоўнены верш "Закліканне":**

*Любоўю Беларусь мы здолеем сагрэць*
*У еднасці людзей, а не ў зацятай змове.*
*Каб не памерці нам і каб не анямець,*
*Давайце гаварыць на беларускай мове!*

**А. М.**

# Скрыпка і рапіра

## АБРЫС ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА Алеся КАСКО

"Той вечар скрыпкі пачыналі, той вечар скончылі рапіры". Такім антынамічным спалучэннем заканчваецца "Старадаўні раманс" Алеся Каско — верш, у якім на працягу многіх строф пануе скрыпка, гучыць зладжаная мелодыя і ў мяккую інструментоўку якога — "былі тут возера і востраў, прыліў пад месячна святлынню", — раптоўна ўторгваюцца жорсткія гукі: "...і зводдаль позіркі два воі перакрыжоўвалі варожа". Ці выпадковасць гэта? Калі ўважліва прыгледзецца да паэзіі Алеся Каско ў цэлым, дык няцяжка заўважыць, што і ўся яна пранізана антытэзамі: скрыпкі і рапіры, росквіт і адцвітанне, чарната асфальту і чыстыя фарбы на карціне мастака... такія супрацьпастаўленні складаюць дамінанту творчасці А. Каско, надаюць ёй жыццёвасць і сілу. І не толькі паэтыка ўвогуле, але і паэтыка душы грунтуецца на антыноміі, антытэзе, імі кіруецца: "...мой прагны радок здатны падыхаць чаромхай так, каб балючы пылок лёг на прадымленых бронхах". Тут мне прыгадваецца ясенінскае: "Если черти в душе селились, значит, ангелы жили в ней". І сапраўды: скразнымі ў творчасці берасцейскага паэта з'яўляюцца вобразы слаты, холаду, снегу і да т.п., але яны амаль заўсёды суседнічаюць з чысцінёю, святлом, шчымлівымі гукамі ў цішы. Пошук святла ў цемры — гэтае імкненне-імпульс выразна або падтэкстава прысутнічае ў большасці твораў, з'яўляецца стваральным: "Няхай не была непазбежнаю бездань — я нешта світальнае вынес з яе".

У канцэпцыі душы лірычнага героя А. Каско з яго дваістасцю, імкненнем да пераадолення хаосу, чарнаты і бруду, выказаным пры гэтым простымі і яснымі словамі, скрыпка і рапіра вылучаюцца як канстанта. Яна можа мець шмат тлумачэнняў, але сутнасць зводзіцца да наступнага: скрыпка — увасабленне чуйнасці і чуласці, рапіра — цвёрдасць і суровасць. Гэтыя палярныя сімвалы ўгадваюцца нават тады, калі няма і намёку на іх у змесце. Яны прысутныя ў самой пабудове радкоў, строф, прарастаюць у гукавым ладзе вершаў, як, напрыклад, у "Беларускай элегіі":

***Быццам прожылак рукі —***
***след зімовае ракі,***
***ледзь відно, як над стагамі***
***снег снуецца трапяткі.***

Рытміка гэтай страфы пластычная і зменлівая, як у народнай песні. Тэмп, мерны і цяжкаваты ў першых двух радках, раптоўна паскараецца, драбнее — адпаведна зместу. А ўжо ў наступнай страфе, праз кароткую паўзу, на поўную моц гучыць асноўная тэма:

***Белы край, ды светлай гамы***
***не стае яму, на жаль,***
***вечна ён — між берагамі,***
***доля па-над ім — кругамі,***
***і не бачна, дзе мяжа.***

Паэт не раз намякае на сувязь сваёй творчасці з музычным мастацтвам ("усё пра тое ж і пра тое ж струна танюткая звініць"), зноў і зноў у яго вершах паўстае вобраз скрыпача: "Скрыпку выпусціць з рукі, і заціхне пульс ракі..." Мусіць, і сам аўтар адчувае сябе гэтакім жа скрыпачом, ад музыкі якога залежыць нешта значнае. І таму не выпускае скрыпку з рук яго лірычны герой, не выпускае нават тады, калі навокал цемра і марак, а відаць толькі "снег, як бінт на хворым" ды "дрэва мерзлага шкілет". Жаданне "зламаць пяро" (скрыпку) успрымаецца як часовае, нязбытнае. Бо яна паклікана і ўмее гучаць, скрыпка Алеся Каско! Не толькі рэфлексійна і элегічна. Для кожнага настрою паэт знаходзіць адпаведныя гукавыя колеры, ствара аб'ёмныя малюнкі, насычаныя алітэрацыямі і асанансамі: "церпкі прыцемак, трымценне чашы скрушнае, а ў ёй ледзь улоўны, плыўкі цень мой ды мінулае маё"; "залапаталі, ажно зазвінелі лістота прысадаў і лісце капусты, забулькатала вада пад бульбоўнікам". Часам вершаваныя радкі нагадваюць кароткія "піццыката" скрыпак: "Бляхнуць ліхтары: белы холад. Лапкі дагары — мёртвы голуб". Ёсць і такія прыклады віртуознага валодання паэтычным майстэрствам, калі ўся страфа — гэта адзін суцэльны сказ, а гук, як пры гранні на скрыпцы, доўжыцца і доўжыцца, дакуль халае смычка. І што ні страфа, дык усё больш працяглае гучанне, узрастанне эмацыйнага напалу:

***Няхай бы вярбіна-віталыніца***
***так і пагойдвала голле ля крайняе хаты,***
***даруючы і караючы дотыкам***
***мякказялёным***
***за нячастасць вяртанняў маіх.***

***Няхай бы дарога, што вуліцай стала,***
***так і паблісквала золатцам жвіру,***
***не паддавалася ветру, спякоце, паводкам***
***ды ўправе дарожнай, якой даспадобы***
***чорны жалобны асфальт...***

Верш "Няхай бы...", як і многія іншыя творы паэта, прысвечаны роднаму дому. Матыў радзімы, дзяцінства кутка — адзін з галоўных у А. Каско. Дом — увасабленне бяспекі, утульнасці, родны дом — гэта вяртанне ў далёкае мінулае, да светлых жыццядайных вытокаў, якія часам бываюць адзіным суцяшэннем у дарослым жыцці, поўным "грэшных дум і сумятні". Сягае неспакойнаю думкаю паэт і да перадвытокаў сваёй любові да айчыны — звяртаецца да нацыянальнай міфалогіі, ствараe цэлыя нізкі вершаў на гістарычную тэматыку, якія склалі, у прыватнасці, адметныя раздзелы зборнікаў "Набліжэнне" (1989) і "Час прысутнасці" (1994). Ён то выклікае "бязважкія і адзінокія" духі безыменных продкаў, то спрабуе ўзнавіць рэальныя моманты з трагічных лёсаў Кастуся Каліноўскага і Ігната Грыняві цкага, Багдановіча і Купалы, то нярэдка і ў любоўную ды пейзажную лірыку ўводзіць матыў мінуўшчыны — скрыпкі "крыўскіх стрaдывары", храмы "над цёмнай роўняддзю" вады, куткі "быллём параслага жыцця" і інш.

У інтымнай лірыцы А. Каско сустракаецца найчасцей з зямным каханнем, не пазбаўленым цялеснай пачуццёвасці. Некаторыя вершы занадта заземленыя, разам з ірoніяй аўтар дазваляе сабе пэўную фрывольнасць. І ўсё ж ягоны лірычны герой не

КНІГАРНЯ

# "Глядзі ў радаслоўны корань!"

"Калі не ведаеш, адкуль прыйшоў, то не ведаеш, куды пойдзеш", — гэткім народным выслоўем, вынесеным у эпіграф, адкрываецца кніга Уладзіміра Ліпскага "Я: Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод" (Мінск, "Беларусь", 1998). Відавочна, гэтая ісціна даўно адкрыта пісьменнікам. Болей таго — праверана жыццёвым вопытам, асэнсавана значным адрэзкам жыцця. У. Ліпскі зрабіў тое, чаго дагэтуль у такім аб'ёме, з такім размахам не рабіў ніхто. Ён, пісьменнік, актыўны грамадскі дзеяч, рэдактар папулярнага дзіцячага часопіса, адважыўся на працу, якая, здаецца, не кожнаму навукова-даследчаму інстытуту пад сілу. Аўтар кнігі "Я", выправіўшыся ў вялікую дарогу пошукаў, сабраў разам, пад адну кніжную страху сваіх самых блізкіх суродзічаў: "Шмат гадоў збіраў па зярнятку радавод людзей, якія носяць прозвішча Ліпскі. Карані іх адшукаў амаль ва ўсіх раёнах Беларусі, у Польшчы, Літве, Германіі, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі..." І далей: "Адразу агаварыся: не дзеля свайго Я вывучаў розныя дрэвы Ліпскіх. Мне цікава было вывучаць усіх людзей пад дахам гэтага прозвішча. Яны, аказваецца, здаўна атабарыліся на Беларусі, жывуць, самі таго не ведаючы, пад шматлікімі гербамі. Сотні іншых прозвішчаў уведзены ў гэту радаводную планету, парадніліся з Ліпскімі. Цэлы пласт людзей закрануў сваім даследаваннем. І здабытыя "на-гара" навіны спяшаюся перадаць цікаўным і дасціпным чытачам".

У. Ліпскі кропля за кропляй насычае фактамі, іменамі кніжную прастору. Сурodзічы збіраюцца разам. У першым раздзеле — "Цюхаі" — пра Цюхаеў-Ліпскіх. Першаштуршком сталася знаходка ў Нацыянальным архіве Беларусі "Справы N 53" Мінская дваранская дэпутацкая сходу аб дваранскім паходжанні роду Цюхаеў-Ліпскіх. На вокладцы — выразная пазнака пячаткі: "Снежня 23 дня 1802 года". Займальна, з адступленнямі на развагі, на расповед, як праходзіў пошук, падае пісьменнік радавод Ліпскіх. Часам досыць лаканічна, інфармацыйна. Але аўтара можна зразумець. Скрапісс — не з-за адсутнасці матэрыялу, а з-за багацця імёнаў, людзей, якіх адкрывае літаратар. І ўжо з першых старонак кнігі разумееш, што дарэмнае папярэджванне аўтара, дарэмныя прабачэнні яго, "Даруй, чытач, што стамляю такой дакладнасцю пра невядомых табе асоб. Якая, урэшце, розніца, хто калі нарадзіўся. Але ж радасць у іншым. Зірні, як даўно жылі тыя Цюхаі. А метрыкі іх захаваліся. І праз столькі гадоў мы варушым памерлых у сваёй памяці. Такое ўражанне, што яны ажываюць і вось-вось загавораць, раскажуць пра сваю эпоху, пра што думалі, клапаціліся". Наадварот — цікавасць уяўляе кожная драбнічка, кожная дэталь.

І правільна робіць У. Ліпскі, падкрэсліваючы ў сваіх расповедах, каментарыях да архіўных адкрыццяў маральныя, чалавечыя якасці сваіх прашчураў! Чаго варта адна толькі гісторыя пра Фларыяна Юзэфавіча Цюхая-Ліпскага, пра чалавека, які дзесяцігоддзямі служыў цару, чыноўнікам, суседзям, усяму свету даказваў сваю прыналежнасць да дваранскага роду. І даказаў. Выпатрабаваў справядлівасць не толькі для сябе, але і для блізкіх людзей, для сваіх наступнікаў.

Кніга "Я" цікавая, чытабельная і таму, што ў адначассе аўтарскі тэкст раскрывае працу не толькі архівіста-шукальніка, але і публіцыста, празаіка. Дзякуючы гэтаму, услед за У. Ліпскім чытач судакранаецца з трагедыямі, драмамі, з рэальным жыццём, з рэальным каханнем Ліпскіх. Услед за пісьменнікам мы трапляем у вёску-радзіміцу Цюхаеў-Ліпскіх — у Альпень. "Вёска адметная хіба тым, што ў ёй — ажно пятнаццаць вуліц і завулкаў. Яны так пераплецены, што амаль усе сядзібы маюць індывідуальную, незалежную забудову. У Альпені кожны ўладар "маёнтка" імкнецца нечым адметным вылучацца ад свайго суседа. Адсюль — непаўторнасць..."

Альпень, якую адкрывае пісьменнік, ужо мае чы за плячыма багатую архіўную інфармацыю, — гэта і сучасныя Ліпскія. Простыя, звычайныя, радавыя людзі, ужо не дваранскага племені. Але не меней цікавыя і сімпатычныя гэтыя Ліпскія, і ім месца знаходзіцца ў кнізе.

Сярод асобных старонак "энцыклапедыі аднаго прозвішча", альбо "энцыклапедыі Ліпскіх" — самы грунтоўны і, відаць, самы важкі раздзел "Дунін-Марцінкевіч і "Пінская шляхта". Старшыня Камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, сустаршыня Беларускага генеалагічнага таварыства, кандыдат гістарычных навук Аляксандр Міхальчанка заўважыў у пасляслоўі да кнігі: "Кожны літаратуразнаўца можа пазайздросціць У. С. Ліпскаму. Літаратурнае адкрыццё! Знойдзены архіўныя справы, якія раскрываюць вытокі "Пінскай шляхты" Дуніна-Марцінкевіча. Такім чынам, персанаж шляхты Цюхай-Ліпскі дапамог нам пазнаць прататыпы бессмяротнай камедыі".

Уважлівае прачытанне старонак, звязаных з Дуніным-Марцінкевічам, пераконвае, што даследаванне напісана на мяжы спалучэння розных жанраў — літаратуразнаўства, гісторыі літаратуры, літаратурнага і гістарычнага краязнаўства, гістарыяграфіі, публіцыстыкі. У. Ліпскі ў сваіх пошуках, што датычацца згаданага раздзела, працягвае лепшыя традыцыі беларускіх шукальнікаў гісторыка-літаратурнай памяці — Генадзя Кісялёва, Адама Мальдзіса, Язэпа Янушкевіча...

Ведучы размову пра зробленае У. Ліпскім, нельга абысціся без высокіх і гучных слоў. Шмат хто ў апошнія гады займаўся вывучэннем радаводных галін, стварэннем радаводных дрэў. Але, відаць, ніхто не прарабіў працу, роўную зробленаму пісьменнікам, у дачыненні да аднаго прозвішча. І з'яўленне на свет кнігі "Я" важна яшчэ вось чым — работа У. Ліпскага і астатніх цікаўных людзей справакуе на падобную працу, на стварэнне іншых "энцыклапедый аднаго прозвішча". Слушна заўважыў у згаданым ужо пасляслоўі "Усе мы — аднакроўцы" і А. Міхальчанка: "Мне здаецца, што гэта кніга дасць пачатак пэўнаму руху сярод дзяцей. Ужо кожны школьнік Ізраіля абавязкова піша сачыненне па гісторыі сваёй сям'і. Чаму б у нас не распаўсюдзіць такую высакародную мэту? Грамадская арганізацыя "Беларускае генеалагічнае таварыства", якая створана з архівістаў установ Камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, вядзе тлумачальную работу, метадычна дапамагае ў напісанні радаслоўнай. Дык, можа, паспрабуем? Даведаемся пра свой род хаця б "да чацвёртага калена". Паслухаемся заклiку Казьмы Пруткова "Глядзі ў корань!", крыху перайначыўшы яго: "Глядзі ў радаслоўны корань!", як гэта зрабіў Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі".

Дык, можа, паспрабуем?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

абдзелены рамантычнымі ўяўленнямі пра каханне, здатны лавіць "шчымлівы гук" у цішы, бачыць светлыню, якая прагне прабіцца скрозь "палыновы дол", "шэрую тугу" і "цяжар віны":

***Я хутка пайду...***
***Затрымай на хвіліну,***
***такія спагадныя рукі ў цябе!***
***Такімі, напэўна, замешвалі гліну***
***на першай любові, на першым цяпле.***

Айчына, паэзія, самакаштоўнасць чалавечага існавання, краса прыроды і жаночая краса — тыя святыні, пра якія і дзеля якіх не стамляецца співаць скрыпка Алеся Каско. Дзе-калі яе гучанне набірае такую вышыню, што, здаецца, не вытрымае душа, суперажываючы з аўтарам: "Целам жыў — і шкадаваў душы, і маліўся над духмянай пожняй: дай зялёным крыкам даражыць да апошняй зёлкі, да апошняй!" (верш "Травакос").

Варункі нашага недасканалага жыцця і грамадства час ад часу прымушаюць паэта адкласці і скрыпку, і сялянскую касу, каб узяцца за рапіру. У пераносным і прамым сэнсе. "Потым суддзя Сіманаў павёў допыт паэта Алеся Каско..." — чытаем у артыкуле У. Калесніка "Калі суду не трэба сведак" (кніга "Усё чалавечае") пра паэта як аднаго з арганізатараў берасцейскіх Дзядоў напрыканцы панавання камуністычна-атэістычнай ідэалогіі. У ролі ваяроў пабывалі, напэўна, усе беларускія паэты — на гэта правакуе складанае становішча ў нашай культуры, якая ўвесь час знаходзілася пад ціскам і была падуладная разбуральным працэсам. Але паэт павінен заставацца паэтам, пра што б ён ні пісаў. Колькі ўжо створана плакатна-публіцыстычных вершаў, якім акурат было б ператварыцца ў газетныя артыкулы. Ды мала хто змог выказаць свае думкі і сваю грамадзянскую пазіцыю дакладна і метафарычна, без зніжэння мастацкіх вартасцей паэзіі. Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Уладзімір Някляеў... Сярод гэтых нямногіх, як мне здаецца, Алесь Каско: "Гідка мне: герб — уласны горб, а не нечы ці вечны нейкі". Або: "Пад рабром меч Пагоні — лепш, чым вянок, як пятля, на глотцы". І ўжо зусім аглушальна: "Гідка думаць, што я паэт — на айчыне, ды без айчыны". Усё гэта радкі аднаго верша — "Можна ў дождж абмакнуць пяро..." Маўчыць скрыпка — пануе рапіра ў вершы "Двубой". Набывае фантасмагарычнае, жахлівае гучанне верш "Тут..."

***Тут, дзе жыву, —***
***у кожнага чалавека***
***сядзіць па-за каркам***
***пачвара —***
***павойныя лапы,***
***кіндзюк расцягучы***
***ды пашча,***
***адна толькі пашча —***
***няма галавы...***

Твор працягвае традыцыі еўрапейскага белага верша, але сапраўдныя яго карані трэба шукаць у старажытных уяўленнях нашых продкаў пра добрых і ліхіх духаў. Паганскія вобразы дасюль трывалыя ў беларускай паэзіі, аднак напаўняюцца сучасным зместам, выкарыстоўваюцца як узмоцненая метафара. Мне здаецца, што і далейшая творчасць Алеся Каско будзе развівацца ў скіраванасці да метафізічнага, сакральнага і таямнічага, у пошуку новых форм мастацкага ўвасаблення якраз на нацыянальным міфалагічным грунце, прыдатным для агульнаеўрапейскай традыцыі і мадэрна. Пра гэта засведчылі апошні ягоны зборнік "45" (выйшаў у 1996 годзе ў Брэсце), публікацыі ў "Крыніцы", "ЛіМе", іншых выданнях, і асабліва яскрава — вершы "Садоўнік", "Старац", "Чорны вір і жоўты месяц...", "Шкарлупіна", "Спушчуся ўніз, да крайняе прыступкі...", "Пераменнаець". Вось заключныя дзве страфы з апошняга:

***Святла шукаю ў чарнаце,***
***якая хіжа іклы шчэрыць.***
***Баюся, гладжу ноч, бы звера,***
***шарсцінкі страху на руцэ.***

***Свой час я мушу прычакаць...***
***Ну, а пакуль што вочы ў вочы***
***стаю насупраць чорнай ночы,***
***як звер, гатовай да скачка.***

А. Блок некалі гаварыў: "Першай і галоўнай адзнакай таго, што гэты пісьменнік велічыня невыпадковая і значная, з'яўляецца пачуццё шляху". Архетып шляху, споўнены духоўнымі згрызотамі, сумненнямі і стратамі, пралягае праз многія паэтычныя творы А. Каско: "Шчэ іду — безвыходнасць людская шчэ пранізвае, не абцякае". Вось таму, што "не абцякае", не перастае адчуваць музыку паэт, пераадольваючы безвыходнасць то мілагучнасцю скрыпкі, то пазваньваннем рапіры, у якім таксама ёсць і мелодыка, і сэнс.

**Галіна ГЕДЗІК**

*г. Брэст*

# ...І ў сябе ўслухацца

Мы паведамлялі ўжо, што ў час афіцыйнага візіту генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра на Беларусь яму была падорана кніга ягоных вершаў "Быць чалавекам", выпушчаная выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў перакладзе на беларускую мову Зміцера Коласа і Алеся Істоміна. Наклад зборніка — усяго 500 экземпляраў. Тым не менш, думаецца, з ім змогуць пазнаёміцца сапраўдныя аматары паэзіі. І адкрыюць для сябе яшчэ аднаго цікавага паэта.

А які ён, паэт Федэрыка Маёр? Пра гэта можна даведацца і з невялікай прадмовы "Слова пра навукоўца, барацьбіта і паэта", напісанай міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь І. Антановічам. Разважаючы аб паэзіі Ф. Маёра, ён паказаў сябе неблагім знаўцам літаратуры. Ва ўсякім разе яго асноўныя вывады, калі ўважліва пазнаёмішся з кніжкай, добра падмацоўваюцца самімі творамі: "Гэтыя іпастасі (маецца на ўвазе шырыня абсягаў міжнароднай і навуковай дзейнасці Ф. Маёра. — **Я. Л.**), безумоўна, уплываюць на адну, уздзейнічаюць на светапогляд, лад мыслення, тэматыку творчасці, таму ў паэзіі Федэрыка Маёра адлюстроўваюцца і інтэлектуальныя пошукі асэнсавання чалавечай існасці і шляхоў чалавецтва, рэльефна акрэсліваецца значнасць чалавечай годнасці, і ўсюды — буяная квецень палкасці пачуццяў, глыбіня любові да чалавека, бязмежнага кахання і павагі да жанчыны".

Быць чалавекам для лірычнага героя Ф. Маёра — перш-наперш быць самім сабой:

***І задумацца,***
***і ў сябе ўслухацца,***
***каб даведацца,***
***ці кажу я,***
***што думаю,***
***і ці думаю,***
***што кажу.***

І патрабуючы многа ад іншых, ён спачатку прад'яўляе высокія патрабаванні сабе, задумваючыся над светам і людзьмі ў гэтым свеце, асэнсоўваючы іх учынкі, паводзіны, жадаючы зразумець сутнасць чалавечага індывідуума, каб праз гэта спасцігнуць і тое глабальнае, што сведчыць аб людскім родзе ўвогуле. Творы Ф. Маёра філасафічныя ў сваёй аснове. Ды гэта не ўскладнёнасць паняццяў, якія закранаюцца, а тая напоўненасць радка, калі непазбежна нараджаецца жаданне глыбей пранікнуць у сэнс сказанага. Тады ж, калі пераканаешся, што хацеў сказаць паэт, нанава адкрыеш для сябе ісціну, што ўсё складанае разам з тым і простае:

***Няважна,***
***што нашыя***
***крокі —***
***гэта сляды***
***на пяску.***
***Іншыя крокі***
***і іншыя,***
***іншыя***
***таксама пакінуць,***
***свой след***
***і ўтвораць дарогу.***

Дарэчы, першы радок кожнага верша з'яўляецца і яго назвай, таму адпаведна і выдзяляецца.

Арыгінальныя ў Ф. Маёра вершы пра каханне. Лірычны герой у іх паўстае гэткім жа, як, бадай, і ўсе, да каго прыходзіць усёпаглынальнае пачуццё, але адначасова ён і непадобны на іншых. Ды непадобны не толькі тым, што кожны чалавек, у дадзеным выпадку кожны закаханы, індывідуальнасць. Непадабенства і іншага кшталту. Перажываючы сваё каханне, свае пачуцці, лірычны герой Ф. Маёра як быццам думае і за іншых. Ва ўсякім разе верш "Любіць" хоць у пэўнай ступені і дэкларацыйны, але і роздумна-засяроджаны і, зноў жа, па-філасофску напоўнены:

***Любіць —***
***гэта адкрываць***
***і адкрываць ізноў***
***і вынаходзіць***
***кожны ранак.***
***Гэта — адчуваць сябе***
***няшчасным за іншых,***
***гэта — падаваць руку***
***як мага далей***
***кожны дзень,***
***і прыслухоўвацца,***
***і саступаць месца,***
***даваць прытулак.***
***Гэта — ведаць,***
***што нічога не мяняецца***
***ніколі***
***ў спакойнай вадзе;***
***што нічога не спараджаецца***
***без чалавечных намаганняў***
***і адвагі.***
***Гэта — перадусім ведаць,***
***што забыццё мусіць быць***
***толькі адно:***
***сябе самога.***

У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя паэтам у 1990—1997 гадах. Частка з напісанага Ф. Маёрам. І частка, якая дае ўяўленне аб творчасці паэта, якога дагэтуль беларускі чытач не ведаў.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

КНІГАПІС

# "БК", том шосты

Чытач, які набыў і прачытаў хоць адзін з першых сямі тамоў 200-томнай — у перспектыве — бібліятэкі, выданнем якой займаецца "Беларускі кнігазбор", напэўна, шукае кожную наступную кнігу, бо ўжо не сумняваецца ў тым, што яна, як і папярэднія кнігі, акажацца вонкава прывабнай і абавязкова змястоўнаю. Тым жа, хто пакуль не адчуў такой чытацкай асалоды і радасці ад усведамлення таго, што яго асабістая бібліятэка папаўняецца па-сапраўднаму прэстыжнымі на Беларусі выданнямі, хачу сказаць: цяпер яшчэ можна набыць два апошнія па часе выданні серыі "Мастацкая літаратура" — "Выбраныя творы" Яна Баршчэўскага, а таксама "Філаматы і філарэты". Апошняе хачу прадставіць увазе чытачоў "ЛіМа".

Кніга "Філаматы і філарэты" пры накладзе 10 тысяч асобнікаў даволі хутка разыходзіцца, бо не магла не зацікавіць шырокія колы не толькі літаратараў, журналістаў, філолагаў, а і ўсіх інтэлігентных людзей. Яна цікавая як людзям сталага веку, так і моладзі, дужа карысная як вучням і студэнтам, так і школьным настаўнікам ды выкладчыкам рознага рангу вышэйшых навучальных устаноў. Хачу папярэдзіць юных аматараў мастацкага слова, каб не бянтэжыліся перад незнаёмымі словамі на вокладцы, хай гэтыя "незнаёмцы" інтрыгуюць іх і вабяць, абуджаюць у душах дапытлівасць.

Філаматы (ад грэцкага philomathes — той, хто імкнецца да ведаў, да пазнання, да навук, іх адданы прыхільнік) — тайнае патрыятычнае таварыства ў Віленскім універсітэце, якое дзейнічала ў 1817—1823 гг. Філарэты (ад грэцкага philaretos — той, хто любіць дабрачыннасць, шчыры яе прыхільнік) — нелегальнае таварыства віленскіх студэнтаў у 1820—1823 гг., арганізаванае ў складзе філаматаў.

Тут гаворка — пра згуртаванні прагрэсіўнай, інтэлектуальна багатай моладзі. Хто ж былі арганізатары і сябры гэтых аўтарытэтных таварыстваў? Якія мэты і задачы яны ставілі і ў якіх умовах іх вырашалі? І чаму такі непрацяглы аказаўся неардынарны маладзёжны рух? На такія пытанні ды мноства іншых адказвае кніга.

Як і ў папярэдніх выданнях серыі "Мастацкая літаратура", у "Філаматах і філарэтах" змешчаны мастацкія творы, публіцыстыка, каментарыі, пісьмы, ды, у адрозненне ад папярэдніх, тут змешчаны і цэлы шэраг надзвычай цікавых біяграфічных даведак, аўтарам якіх, як і аўтарам прадмовы і каментарыяў, а таксама перакладаў з польскай мовы, з'яўляецца Кастусь Цвірка. Названыя матэрыялы маюць найперш пазнавальнае значэнне. У кнізе распавядаецца пра лёсы, творчую і грамадскую дзейнасць дзесяці славутасцяў. Хто яны? Творца з сусветным імем, палымяны патрыёт-ліцвін Адам Міцкевіч, паэты Ян Чачот і Тамаш Зан, вучоны і пісьменнік Ігнат Дамейка, які стаў нацыянальным героем Чылі, вучоны, даследчык у галіне старажытнай літаратуры, заснавальнік манголазнаўства ў Расіі Юзаф Кавалеўскі, грамадскі дзеяч і пісьменнік, знаўца сямі еўрапейскіх моў Францішак Малеўскі, дзекабрыст, аўтар верша "З пагоняй наш сцяг" (1821) Міхаіл Рукевіч, паэт, усходазнаўца Аляксандр Ходзька, які стаў расійскім консулам у Іране, паэт і драматург, аўтар драматычнай паэмы "Барбара Радзівіл, ці Пачатак панавання Жыгімонта Аўгуста", ён жа спадарожнік Адама Міцкевіча па Еўропе, аўтар "Лістоў з падарожжа" і кнігі "Успаміны з мінулага" Антоні Эдвард Адынец, паэт і пакутнік за Бацькаўшчыну, змагар супраць царскага самадзяржаўя Ануфры Петрашкевіч, які быў асуджаны на смерць, замененую на пажыццёвую высылку ў Сібір.

Тут можна прачытаць іх творы, дзённікі і падарожныя запісы некаторых з іх, а таксама пісьмы. Усе яны сябравалі між сабой, былі хто арганізатарамі, хто актыўнымі ўдзельнікамі вышэйпамянёных віленскіх згуртаванняў беларускай моладзі. Напачатку філаматы дэкларавалі творчае ўдасканаленне і ўзаемадапамогу ў набыцці ведаў, пазней імкнуліся садзейнічаць усеагульнай асвеце, праз якую намерваліся рыхтаваць грамадства да змагання за вызваленне ад царскай імперыі, выступалі за адмену прыгоннага права і нацыянальную незалежнасць народаў. Іх дзейнасць не паспела разгарнуцца, была раскрыта царскімі ўладамі, многія ўдзельнікі маладзёжных таварыстваў былі арыштаваны і пакараны высылкай на чужыну.

Але і раскіданыя па свеце былыя філаматаўцы і філарэтаўцы засталіся верныя сваім ідэалам, стараліся не парываць сувязяў між сабой, пра што сведчаць змешчаныя ў кнізе лісты. Дарэчы, яны дужа цікавыя, асабліва, думаю, літаратарам. Найбольш цікавыя, натуральна, лісты Адама Міцкевіча, на жаль, нешматлікія, у іх так і ззяюць брыльянты пачуццяў і думак. Звяртаю ўвагу зацікаўленага чытача на тры лісты маладога, сталага і, калі можна так сказаць, пажылога паэта, больш дакладна — на выбраныя радкі з ягонага ліставання. Вось якое, да прыкладу, шчырае прызнанне адрасаваў 22-гадовы Адам сябру Яну Чачоту: "Кавальская не рабіла на мяне аніякага ўражання да таго часу, пакуль я не заглядзеўся на яе, калі яна дзьмухала на жар пад кававым чайнікам! Адкуль жа гэта? Румянец, а хутчэй нагрэты жарам твар, які іншаму воку не здаўся б нечым сентыментальным, прывабным, мяне ж прымусіў убачыць у яе асобе анёла, Венеру...." А хіба можа не ўразіць досціп 40-гадовага паэта на адрас знакамітай Жорж Санд, дзе ён называе яе заўвагі на дасланым ёй рукапісе "...ганаровымі слядамі чароўных пазногцяў!.." на ягоным "аўтарскім твары"! Нарэшце ліст 55-гадовага генія, ён узрушае зместам вешчага сну. У верасні 1855 года Адам Міцкевіч прызнаваўся Тамашу Зану, як вестка пра смерць Яна Чачота яго "наскрозь працяла". І далей: "Якраз у тыя часы, калі яго не стала, вельмі часта ён сніўся мне і ўсё аднолькава; заўсёды здавалася мне, што ён прыехаў у мястэчка, дзе цяпер я асеў, і што шукае мяне; я ізноў, здавалася, забыўся, як адшукаць яго жыллё, і сам сябе дакараў за такое нядбальства. Сон гэты паўтараўся некалькі дзесяткаў разоў, аж тут прыйшла вестка пра яго смерць, і ў астатні раз мне здалося, што ён нібы запрашае мяне да сябе". Пра гэта геніяльны творца паведамляў з Парыжа свайму сябру менш чым за тры месяцы да сваёй смерці.

У дадатак да радкоў з пісьма пра вешчы сон скажу, што яшчэ ў росквіце сваіх фізічных і творчых сіл Міцкевіч у санеце "Грабніца Патоцкай" як бы прадказваў, што яго магілу вяшчун убачыць блізка ад грабніцы памерлай у Бахчысараі паланянкі. Прадказанне аказалася блізкае да рэальнасці. Бо, як вядома, паэт памёр у Канстанцінопалі, на чужыне, як і яго зямлячка Патоцкая. Праўда, пахаваны быў у прыгарадзе Парыжа, а праз 35 гадоў перазахаваны палякамі ў Кракаве, у падзямеллі кафедральнага сабора Вавельскага замка.

Пра выключную чуйнасць унікальнай асобы Міцкевіча сведчыць і Антоні Эдвард Адынец. У 1829 годзе ён пісаў: "Апошні час ён быў заняты працай над найарыгінальнейшай "Гісторыяй будучыні". Ён піша па-французску, і ў яго ўжо напісана больш за трыццаць старонак... Апавяданне пачынаецца з 2000 года і павінна ахапіць два стагоддзі... Уся гэтая гісторыя, як мне казаў Адам, заканчыцца ўстанаўленнем сувязі паміж зямлёй і планетамі..."

У "Філаматах і філарэтах" шмат можна знайсці незвычайных, рэдкасных матэрыялаў. Думаю, не раз нашы настаўнікі, школьнікі і студэнты шукалі і не знаходзілі выказванні Міцкевіча-генія пра духоўную спадчыну беларускага народа, яго мову. Вось што ён пісаў і казаў пра гэта: "У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі "Літоўскі Статут" напісаны іхняй моваю, самай гарманічнаю і з усіх славянскіх моваў найменш зmененай". І яшчэ не менш красамоўныя словы пра нашу галоўную нацыянальную святыню: "На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай, ...размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі".

Не мая задача характарызаваць творы філаматаў і філарэтаў, уключаныя ў "калектыўны" том. Гэта — асобная гаворка. Думаю, даўно наспеў час сказаць сваё слова прафесійным, самым дасведчаным крытыкам пра якасць выдадзеных кніг, пра дасягненні і магчымыя пралікі ўкладальнікаў, аўтараў артыкулаў, перакладчыкаў. Дарэчы, з сямі выдадзеных тамоў 200-томнай бібліятэкі чатыры — перакладныя. А на старонках прэсы — ні слова з боку спецыялістаў пра ўзровень перакладаў. Маўчанне ці замоўчванне, вядома, не на карысць ні аўтарам, ні чытачам. Перакладчыцкая справа патрабуе ад творцы процьму вольнага часу, многа намаганняў і ювелірнай працы, таму, пэўна, аднаму чалавеку цяжка дамагчыся ідэальных перакладаў, скажам, усіх дваццаці з гакам аркушаў паэзіі, асабліва, калі тут прыкметнае месца займае паэзія геніяльнага Міцкевіча. Менавіта ж такую важкую і адказную ношу ўзваліў на сябе Кастусь Цвірка. Бо, як я разумею, чакаць, што гэта калі-небудзь зробіць хто-небудзь, не выпадала. І шукаць таленавітых ахвотнікаў, каб шчыравалі, не думаючы пра высокі ці хоць бы ўвогуле гарантаваны ганарар, гэтаксама, відаць, не выпадала. "Беларускі кнігазбор" — арганізацыя і не дзяржаўная, і не камерцыйная, а на выданне кніг патрабуюцца ўсё большыя сродкі...

Мой водгук на чарговы том вядомай і прэстыжнай бібліятэкі — гэта не рэцэнзія. Але так хочацца, каб усё ў выданнях "Беларускага кнігазбору" было ідэальнае. У тым ліку і мова.

Цяпер усё радзей сустракаюцца ў друку гаворкі пра адраджэнне беларускае нацыянальнае свядомасці. Але, галоўнае, яшчэ сёетое робіцца. І ў гэтым шэрагу — прарыў "Беларускага кнігазбору" праз усе перашкоды на ціхім фронце кнігавыдання, а па сутнасці — вяртанне каласальнай духоўнай спадчыны народа.

**Васіль ЖУКОВІЧ**

## З журналістыкі — у літаратуру

Апошнім часам у сталічнай перыёдыцы (найперш у "ЛіМе", часопісах "Маладосць", "Полымя") пачалі з'яўляцца апавяданні Людмілы Дрожжы, у якіх закранаюцца маральна-этычныя праблемы, а персанажы — галоўным чынам людзі маладыя ці тыя, у жыцці каго настала часіна, калі можна заняцца першым падрахункаваннем пройдзенага шляху, — задумваюцца над сваім месцам у жыцці, спрабуюць пераасэнсаваць колішнія ўчынкі.

А прыйшла Л. Дрожжа ў літаратуру з журналістыкі. Нарадзілася на Капыльшчыне — адным з куткоў Бацькаўшчыны, асабліва багатым на таленты. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працуе ў дзіцяча-юнацкай рэдакцыі рэспубліканскага радыё. З першымі празаічнымі творамі выступіла на старонках капыльскай раённай газеты "Слава працы". І вось кніга "Нечаканае прызнанне" з "Бібліятэкі часопіса "Маладосць".

У кнігу ўвайшло 18 апавяданняў. "Запіскі журботнага чалавека", "Рэпетытар", "Абноўка для настаўніка Васільева", "У дарагім кафэ", "Зубная доктарка" і іншыя — гэта па сутнасці сама плынь жыцця. Жыцця такога, якое яно ёсць. І адначасова спроба аўтара змадэляваць для чытача той варыянт, які найбольш прымальны падчас асэнсавання таго, што адбываецца з персанажамі.

Дакладна вызначыў сутнасць прозы Л. Дрожжы ў невялікім уступе Анатоль Казлоў: "Адметнасць празаічных твораў Людмілы Дрожжы адзначаеш для сябе адразу ж пасля першага знаёмства з навеламі. Лірызм і глыбокае псіхалагічнае пранікненне аўтаркі ў лёсы і жыццё сваіх герояў запамінаюцца, хвалююць, ускалыхваюць думку і ўяўленне. Людміла Дрожжа сваімі творамі запрашае чытача далучыцца да няпростых жыццёвых сітуацый, у якіх знаходзяцца героі навел. Падштурхоўвае зразумець іх, успрыняць,а калі героі варты таго, то і паспачуваць, знайсці месца ў душы для падтрымкі жыццёвай пазіцыі, тых, каму баліць. Навелы Людмілы — гэта шматгранны і разнастайны, багаты і каларытны свет,у якім мы, людзі, штодзённа знаходзімся".

Т. Т.

## Аб'яднала творцаў "Муза"

Развіццё роднай мовы (працэс усё ж незваротны), прага творчасці выявіла на Ушаччыне нямала талентаў. Адны пішуць вершы, другія ствараюць песні, трэція спяваюць... І ўхвальна, што пры раённым Доме культуры працуе аматарскае аб'яднанне "Муза", назва якога гаворыць сама за сябе.

На першае, восеньскае пасяджэнне яго былі запрошаны якраз творчыя людзі гарпасёлка. Ва ўтульнай абстаноўцы адбылася цёплая сустрэча за чаем — усё прадумала метадыст раённага метадычнага цэнтра аддзела культуры райвыканкама Людміла Смыслова. А прымалі ўшачаўцы гасцей з суседняга, Глыбоцкага раёна.

Было прыемна бліжэй пазнаёміцца з паэтам Алесем Жыгуновым і яго творчасцю. Уразіла членаў аб'яднання і песеннае майстэрства самадзейнага кампазітара Браніслава Грамакоўскага, у якога каля ста ўласных твораў. Свае вершы на рускай мове прачытала Святлана Новік.

Не засталіся ў даўгу і гаспадары. З уласнымі творамі пазнаёміла прысутных і выканала песні на асобныя з іх урач Святлана Лапіцкая. Праспявала сваю песню Інеса Папок. Задушэўна гучалі рамансы ў выкананні рабочай Любы Кулак. Парадавала сваімі вершамі настаўніца Людміла Цыцерка. Амаль кожны з прысутных прадэманстраваў, на што здатны. А "Муза" аб'яднала прадстаўнікоў самых розных прафесій.

Гарантуе ж новыя пасяджэнні аб'яднання дырэктар РДК Соф'я Тарасеня, якая выдзеліла са спецрахунка сродкі для пачастункаў.

Галіна ВАРАТЫНСКАЯ,
кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Неруш" пры Ушацкай раённай газеце

ПЭЗІЯ

Віктар ШНІП



## "І вечнасць знікае..."

•

Што сумна мне, ніхто не вінаваты —
Ні мёртвы дождж,
ні горкі смак гарбаты
Халоднай, нібы лёд, нібыта вецер.
Ні дзень мінулы і ні гэты вечар —
Ніхто не вінаваты, як заўсёды.
І падаюць з нябёсаў самалёты,
Нібы фанера, што лятаць не ўмее.
Чаму ўсё так — ніхто не разумее:
Ні гаспадар, ні вечныя халопы.
І мы баімся, як агню, Еўропы.
А родны кут гаротны
ды ўсё ж мілы,
Бо тут жывём,
тут прашчураў магілы...
Што сумна мне, ніхто не вінаваты.
І сум начны халоднае гарбаты
Няспешна прад вакном
праз сон глытаю
І горла, як вуголлем, апякаю.

### Элегія адзіноты

На кухні з крана капае вада
І больш нічога ў свеце не чуваць.
А за вакном, як бездань, цемната,
З якой анёлы ў вочы мне глядзяць.

І мне здаецца — я зусім адзін
Застаўся ў свеце, што да зор ляціць,
Нібыта лісце з восеньскіх асін
Да вогнішча, якое шчэ дыміць.

І я гляджу спакойна ў цемнату,
Бо я адзін, як гэта цемната.
Я з крана п'ю, нібы жыццё, ваду
І, як жыццё, канчаецца вада.

І больш нічога ў свеце не чуваць.
Перада мной нязведаны прастор.
І страшна неахвота паміраць
У свеце, што не даляцеў да зор.

•

Нарэшце снегу прычакалі мы,
І ўжо, глядзіш, не любім мы зімы,
Бо холадна, бо дзень, як цень, ляціць,
Як гэты снег, які не спыніць,
Бо гэта снег, бо гэта белы час,
Які ляціць, асвечваючы нас,
На чорнае зямлі, дзе нам калець
І сутнасці сваёй не разумець.
Нас снегам засыпае, як пяском,
А мы жывём, а мы яшчэ жывём,
Бо ведаем, што трэба сёння жыць,
Як гэты снег, што з воблакаў ляціць,
Каб тут растаць і бруднаю вадой
Сцячы ў пясок з самотнаю вясной...
Нарэшце снегу прычакалі мы
І белымі зрабіліся дамы,
Як прывіды на прывіднай зямлі,
Дзе мы яшчэ, як людзі, не жылі.

•

У вечнасць, дзе нам адзінока,
Жанчына прыходзіць святлом.
І вечнасць, як пыл, — у аблоках.
І вечнасць ільецца віном.
І мы беражом адзіноту,
Як волю, якой не спазнаць,
Штодня ідучы на работу,
З работы, каб есці і спаць.
І вечнасць знікае, як мроя,
Як стомлены дым цыгарэт.
І неба над мною начное,
Нібыта Петраркі санет,
Гучыць і ў сусвеце знікае.
Жанчына прыходзіць святлом
І вечнасць у нас забірае,
Як пляшку з чырвоным віном.

•

Мне не стаць сусветна знакамітым
Між балотных пустак і раўнін.
Я магу быць ні за што забітым,
Быць забытым, бо я славянін.

Толькі вось шкадую, што нічога
Для бацькоўй змяніць я не магу, —
Як мяне, не адракліся Бога,
Пражылі, што ў клетцы, у граху.

Мне не стаць сусветна знакамітым
Покуль, як балота, мой народ.
Прада мной стаіць віно адпітым
І шкада мне высахлых балот.

### Першы тыдзень без цябе

(асацыятыўны партрэт)

ПАНЯДЗЕЛАК

Позна прачынаюся помнячы панядзелак
Ахоўнага анёлка адпрэчваю
Няхай небу нясе навіны
Я
Дзякую што ёсць гэты дзень
Зноў знікаю з цішыні
Еду
Лістапад ліхтароў у лужынах
Ахвота адшукаць адзіную
Кубачак кавы купіць

АЎТОРАК

Аднаму адзічэць
Увечары ўчуць уздыхаеш
Ты тутэйшая
Одум
Ружа раніцы расой расквеціцца
Адразу адкрыецца абшар
Кляштар князёўны каханай

СЕРАДА

Смуга сонца слепіць
Енчыць
Рэха ў ракавінцы рачной
Абрыдла
Думаць дайсці дачакацца
Амаль атрута

ЧАЦВЕР

Чаканне
Абудджае адвечнае
Ціхае цёплае
Выдумаць вежу ветразь
Ехаць
Ростань радніць розных

ПЯТНІЦА

Помніцца погляд панядзелак
Яблык
Тоіць таксама Тое
Навокал наша невядомасць
Імгненне
Цёмна ціха
Альтанка і анёлы ў аблоках

СУБОТА

Сумна сядзець у скверы
Уздыхаць узірацца
Бачыць былое блізка як бераг
Оду
Табе трызніць
Аднак адчуваць адчай

НЯДЗЕЛЯ

Нічога новага як Ной
Я
Дзіўлюся дню
Заўтра зноў
Еду
Лета ляціць
Як у яму.

З цыкла "Чырвоны ліхтар"

### Балада Наташкі

Стала ты прыгожай і багатай
І як родны дом твой — рэстаран.
А была вашывай і смаркатай
І жыццё было ў цябе — туман.
Можа, й мне калісьці Бог паможа
І зраблюся я, як фон барон,
Маладым і, як кінжал, прыгожым
І не буду піць свой самагон.
А пакуль што я прыйшоў з сябрамі
Да цябе прасіць даляраў пяць.
Не дала, сустрэла мацюкамі,
І сказала больш не турбаваць.
Ну нічога, мы і так на пляшку
Знойдзем без цябе і будзем жыць.
Рыжы кажа, што цябе, Наташка,
Нам ужо даўно пара прышыць.
Будзеш ты ляжаць у ціхім скверы
І крывёй, халодная, сцякаць.
Знойдуць там цябе пенсіянеры,
Стануць маладую шкадаваць.
А пакуль што ты яшчэ жывая,
Можа, й нас пераживеш яшчэ.
Ну а мы падохнем пад трамваем
І віно з нас брудна пацячэ.

### Балада Джона

Стройная, як пляшка віскі,
маркітантка
З лёгкім пахам мыла і адэкалона
Па начах, як кайф, прыходзіла
да Джона,
І знікала ў сонных туманах світанка.

І быў Джон шчаслівы,
нібы кот марцовы.
Толькі ў свеце вечнага няма нічога —
Стрэла маркітантка Карласа хрампога
І за ім пайшла, як за бычком каровы.

І наш Джон стаў злосным,
як сабака дзікі,
І сказаў:
"Нажом іржавым маркітантку
Я зарэжу ноччу ў Карласа на ганку
І ніхто не ўчуе маркітанткі крыкі!"

І, напэўна б, выйшла ў Джона ўсё,
як трэба.
Ды напіўся Джоні трапіў пад машыну,
І машына раздушыла ўміг мужчыну,
І душа бязгрэшна адляцела ў неба.

Пахавалі Джона пад камень вялікі,
Каб не ўстаў
ніколі ён з зямлі халоднай,
Каб не ўчуў ніколі ён з таверны роднай
Маркітанткі адзінокай смех і крыкі.

### Балада наркаманкі

На багатым востраве Тайвань
Ты піла з кітайцамі шампань.
І ў зялёным парку Чан-Кай-шы
Кайфавала ты ад анашы.
А цяпер ты ў Мінску п'еш віно
І глядзіш праз бруднае вакно
На лісцё, што аблятае з дрэў
І на дом насупраць, што як хлеў,
Пад дажджом пад восеньскім стаіць.
Гэткае надвор'е — толькі піць!
Я табе, самотнай, пазваню,
Бы ў скляпенне прынясу агню,
І на міг ты ачуняеш зноў,
Як трава сухая ад дажджоў.
Толькі больш не з'ездзіш на Тайвань.
Не пап'еш з кітайцамі шампань.
Пракурыла ты свае грашы
У зялёным парку Чан-Кай-шы.

### Балада залатога ланцужка

Ты любіла насіць ланцужок залаты
І было ўсё табе да звязды, да звязды,
Бо дачушкай была ты
ў багатых бацькоў
І магла ты купляць і віно, і любоў.
Ну а ён сірата і, як воўк, малады,
Ён таксама хацеў ланцужок залаты.
І аднойчы цябе ён сустрэў у начы,
Не змагла ад яго ты дамоў уцячы.
І парваўся ў начы ланцужок залаты,
І было ўсё табе да звязды, да звязды...

•

Мы з табой сустрэліся ў трамваі.
Каб багатым быў я і блатным,
Я б сказаў: "Паедзем на Гаваі,
Дзе над морам белых чаек дым..."

Быццам бы манах, стаю маўкліва
Прад табой прыгожай і зямной.
Ты магла б зрабіць мяне шчаслівым,
Я ж цябе — няшчаснай і маёй.

Вось і ўсё. Цябе няма ў трамваі,
І мы больш не ўбачымся, відаць.
Можа, ты і з'ездзіш на Гаваі,
Можа, і табе іх не спазнаць...s

## "Оскар" — лепш не бывае

**З 16 па 25 кастрычніка ў Мінску адбудзецца другі фестываль "Лаўрэаты і намінанты прэміі "Оскар". Арганізатары — Беларускі фонд 100-годдзя сусветнага кіно і прадпрыемства "Кінавідзапракат" Мінскага гарвыканкама. Праграму фестывалю склалі лепшыя амерыканскія фільмы 1997 года: "Тытанік" ("Оскар" за лепшую рэжысуру, сцэнарый, музыку і г. д., усяго — адзінаццаць "Оскараў"), "Лепш не бывае" ("Оскар" Х. Хант і Д. Нікалсану за лепшае выкананне жаночай і мужчынскай роляў), "Разумнік Уіл Ханцінг" ("Оскар" за арыгінальны сцэнарый; "Оскар" Р. Уільямсу за лепшае выкананне мужчынскай ролі другога плана), "Сакрэты Лос-Анджэлеса" ("Оскар" за лепшую экранізацыю; "Оскар" К. Бэйсінгер за лепшае выкананне жаночай ролі другога плана). У фестывалі таксама ўдзельнічаюць карціны "Крыллі галубкі", "Мужчынскі стрыптыз", "Уваход і выхад", "Слаўная будучыня", "Махлярства", "Горад анёлаў".**

**В. Б.**

## З думкай аб традыцыях, сучаснасці і будучыні

**28 кастрычніка ў Беларускай акадэміі мастацтваў адкрыецца міжнародная навукова-творчая канферэнцыя "Сучасныя праблемы падрыхтоўкі акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў".**

**Да ўдзелу ў ёй запрашаюцца шырокія колы беларускай тэатральнай грамадскасці: майстры сцэнічнага мастацтва, педагогі і студэнты навучальных устаноў культуры і мастацтва краіны, крытыкі і тэатразнаўцы.**

**Удзельнічаць у міжнароднай канферэнцыі папярэдне далі згоду госці з Расіі, Украіны, краін Прыбалтыкі, Польшчы, Францыі і Англіі.**

**Канферэнцыя прысвечана 120-й гадавіне з дня нараджэння аднаго з распачынальнікаў беларускага прафесійнага тэатра і тэатральнай адукацыі — драматурга, рэжысёра і педагога, народнага артыста Беларусі Еўсцігнея Міровіча. Яе ўдзельнікі наведаюць месца захавання выдатнага дзеяча беларускай сцэны на Вайсковых могілках у Мінску, у яго гонар адбудзецца мемарыяльнае пленарнае пасяджэнне, тэатры Беларусі прымяркуюць паказы *спектакляў па яго п'есах*, у прыватнасці, "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча" (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) і "Тэатр купца Япішкіна" (Тэатр-студыя кінаакцёра).**

**В. І.**

## Дзеля развіцця культуры

**У 1994 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах захавання і развіцця культурнага патэнцыялу рэспублікі заснаваны дзяржаўныя стыпендыі дзеячам культуры і мастацтва, творчай моладзі ў галіне літаратуры і журналістыкі, музыкі і харэаграфіі, тэатра і кіно, выяўленчага мастацтва, архітэктуры і дызайну. Стыпендыі прысуджаюцца пад выкананне пэўнага творчага праекта дзеячам культуры і мастацтва ва ўзросце звыш 40 гадоў у памеры 6 мінімальных заработных плат штомесячна, творчай моладзі ва ўзросце да 40 гадоў — у памеры 4-х мінімальных заработных плат штомесячна на працягу года.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь *аб'яўляе прыём заявак* ад кандыдатаў на атрыманне дзяржаўных стыпендый на 1999 год. Для разгляду камісіі па прысуджэнні стыпендый неабходна прадставіць наступныя дакументы:**

**1) заяву (прозвішча, імя, імя па бацьку, дата нараджэння, прафесія, адрас з указаннем паштовага індэкса, тэлефон, назва праекта, этапы ажыццяўлення, тэрміны завяршэння, дата, подпіс);**

**2) рэкамендацыю творчага саюза альбо рэкамендацыю за подпісам трох вядучых майстроў у дадзенай галіне дзейнасці;**

**3) творчую біяграфію;**

**4) спіс творчых прац і заслуг.**

***Дакументы прымаюцца ў Міністэрстве культуры да 10 лістапада 1998 года па адрасе: 220617, г. Мінск, пр. Машэрава, 11, аддзел музычных устаноў і цыркаў, каб. 324.***

***Даведкі па тэлефоне 223-74-12.***

МУЗЫКА

# Талент — надзея кожнай нацыі. Ды ёсць праблема...

***Званок з Масквы быў, як заўсёды, нечаканы. Дырэктар школы Міжнароднай дабрачыннай праграмы "Новыя імёны" Віктар Маеўскі, павітаўшыся так, быццам мы рассталіся пару гадзін, а не пару гадоў таму, сказаў, што пры канцы ліпеня вялікая група прафесараў Маскоўскай кансерваторыі і Расійскай акадэміі музыкі вылятае ў Якуцк. Там арганізавана летняя творчая школа "Новыя імёны", дзе на працягу двух тыдняў вядомыя музыканты і педагогі праведуць майстаркласы, выступяць з лекцыямі, возьмуць удзел у канцэртах і г. д. Сярод запрошаных — заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, прафесар Таццяна Гайдамовіч; народныя артысты Расіі, прафесары Іван Мазгавенка, Уладзімір Тонха, Ігар Фралоў, Аляксандр Бандуранскі і іншыя. Дык ці не змагу і я паўдзельнічаць у рабоце школы і правесці майстаркласы для выканаўцаў на медных духавых інструментах?***

У Якуціі мне бываць не даводзілася. Аўтарытэт міжнароднай праграмы і склад спецыялістаў гаварылі, па крайняй меры, пра сур'ёзнасць намераў. З другога боку, па шчырасці, амаль 15-гадзінны пералёт туды і назад на самалётах былога "Аэрафлоту" не надаваў пачуцця асаблівага аптымізму. У выніку непрацяглага роздуму над сітуацыяй усё-такі "перамагла дружба", і я згадзіўся. Аднак буду да канца шчырым: увесь астатні час шукаў прыстойную нагоду адмовіцца. Сказаў, напрыклад, што хачу ўзяць з сабою вучня. Арганізатары пагадзіліся. Жэня Лятэ пачаў рыхтавацца.

І вось мы ў Якуцку, а правільней — пад Якуцкам, у Вышэйшай школе музыкі Рэспублікі Саха (Якуція). Школа XXI стагоддзя! І зрабілася ніякавата за ўсе свае ваганні-сумненні. Толькі дзеля таго, каб убачыць гэты цуд, варта сюды прылятаць.



Школа была створана спецыяльным указам прэзідэнта РС(Я) М. Нікалаева і ўключана ў сетку прэзідэнцкіх школ рэспублікі. Размясцілася яна за 16 кіламетраў ад Якуцка ў жывапісным кутку прыроды па Пакроўскім тракце, у прыгожым пасёлку, пабудаваным канадскай фірмай "Фергюсон, Сімек, Кларк". У "канадскай вёсцы" 43 аб'екты са сваёй інфраструктурай (школа, медпункт, сталоўка, бібліятэка, адміністратыўны корпус). 37 двухпавярховых 3-4-х-пакаёвых катэджаў, у якіх жывуць навучэнцы і студэнты. Малыя жывуць з выхавацелямі, якія абавязаны быць не толькі дзяжурнымі, але і мацяркамі. Усе выхавацелі маюць вышэйшую педагагічную адукацыю, многія з іх музычную. Школа ахоплівае ўсе ступені музычнай адукацыі, ад пачатковай да вышэйшай, а гадуецца ў ёй каля 140 талентаў.

Вось дзе прадмет для роздуму!

Матэрыяльная база школы — пра такую можна толькі марыць! Выдатныя ўласныя педагагічныя кадры. Дастаткова сказаць, што на Міжнародным конкурсе імя Я. Мравінскага, які нядаўна прайшоў у Пецярбурзе, кларнетысты Якуціі занялі І і ІІ месцы. Сістэматычнае запрашэнне буйных спецыялістаў з Масквы, Новасібірска, Токіо, Парыжа, Мюнхена і г. д. Натуральна, узнікае пытанне наконт кошту спецыяліста...

У 1992 годзе быў створаны Нацыянальны фонд адраджэння "Барбарыы" пры прэзідэнце Рэспублікі Саха (Якуція). Дэвіз першай тэлеперадачы фонду "Я і XXI стагоддзе" абвяшчаў: "Талент — надзея кожнай нацыі, яе сапраўднае багацце". Як кажуць — без каментарыяў.

Заняткі ў летняй школе строга рэгламентаваны. Кожны з запрошаных спецыялістаў займаўся з навучэнцамі і студэнтамі шэсць, а многія і больш гадзін у дзень. Акрамя таго — штодзённыя канцэрты, сустрэчы з прафесурай Маскоўскай кансерваторыі, Расійскай акадэміі музыкі, вядомымі *музыкантамі, педагогамі.*

Мне таксама была дадзена магчымасць выступіць перад шырокай аўдыторыяй. У *Якуціі з вялікай цікавасцю назіраюць за* тым, што адбываецца на Беларусі. І, канечне ж, адчуваецца сур'ёзная работа расійскіх сродкаў "масавай дэзінфармацыі". Думаю, што давяральнасці ў стасунках памог той факт, што я не толькі рускі па нацыянальнасці, а і расіянін па месцы нараджэння. І калі я расказваў пра тое, што сістэму музычна-мастацкай адукацыі Беларусі за апошнія тры-чатыры гады ўдалося не толькі захаваць, але значна ўмацаваць і развіць далей, мяне цяжка было западозрыць у жаданні абараніць гонар уласнага мундзіра.

Да таго ж, з вялікай канцэртнай праграмай, і паспяхова, выступіў Жэня Лятэ. Акрамя таго, ён узяў удзел ва ўсіх канцэртах летняй школы. У выніку быў удастоены стыпендыі Нацыянальнага фонду "Саха Азіі".

Прэзідэнт Рэспублікі Саха (Якуція) М. Нікалаеў не толькі пастаянна цікавіўся работай летняй школы, але і знайшоў магчымасць папрысутнічаць на заключным канцэрце, падзякаваць, узнагародзіць і сагрэць увагай усіх педагогаў і арганізатараў летняй школы. На закрыцці гэтай творчай акцыі прысутнічала прэзідэнт Міжнароднага дабрачыннага фонду "Новыя імёны" Івета Воранава.



На гэтым можна было б і паставіць кропку. Даў сякую-такую інфармацыю, падзяліўся ўражаннямі. Ды застаецца нешта не выказанае. Што? Адразу нават цяжка сфармуляваць...

*Натуральна, калі бачыш штосьці дзіўнае,* міжволі пачынаеш параўноўваць з тым, што ведаеш, маеш. Параўнаўшы і атрымаўшы адмоўны для сябе вынік, пачынаеш думаць, а чаму ў нас не лепш. Гэта нават не зайздрасць. Гэта нейкая шчымлівая незадаволенасць. Ну, не стаім мы на месцы, і, як гаварыў я ў Якуціі, сістэма музычнай адукацыі вытрымала, і лаўрэатамі разматых конкурсаў мы ўжо можам трымаць справаздачу на пяць гадоў наперад, і Фонд падтрымкі творчай моладзі пры Прэзідэнце РБ у нас таксама ёсць, і сродкі для яго прэзідэнт выдаткоўвае значныя... Вось, здаецца, ужо "горача". Адразу ўспамінаюцца шматлікія масавыя мерапрыемствы, якія праводзяцца ў нашы цяжкія крызісныя гады, *мерапрыемствы, якія вымагаюць велізарных* сродкаў і на якія не знаходзілася грошай у самыя застойныя часы.

Так, сродкі сёння знаходзяцца. Пытанне ў тым, як іх скарыстоўваць.

У цяжкіх умовах тым больш павінна быць **Праграма**, накіраваная на... Ці толькі на падтрымку таленавітай моладзі? Ну, добра. Падтрымалі матэрыяльна, далі дадатковую стыпендыю, дапамаглі набыць добры інструмент, накіравалі на стажыроўку за мяжу ў прэстыжную навучальную ўстанову. А што далей? А далей... Ужо ясна: далей яны там і застаюцца. Чаму? Прычына зразумелая: невымерная розніца ва ўзроўнях жыцця, і апеляваць да патрыятызму — чын досыць няўдзячны. Тлумачэнне-апраўданне таксама прадказальнае: эканамічнае становішча ў краіне не дазваляе нам і г. д. Не будучы фінансістам, маючы пэўны вопыт і назіраючы за ўсім, што адбываецца, упэўнены, што дазваляе. Дазваляе заўсёды і ўсюды. Неабходна разуменне, менавіта **разуменне**, а не **прызнанне** праблемы, а таксама жаданне і воля да яе вырашэння.

Вядома, высакародна — падтрымаць таленавітых дзяцей. Але гэтая акцыя ператвараецца па сутнасці з дзяржаўнай у папуліцкую, калі кола не замкнуць. Што такое талент? Гэта патэнцыяльныя магчымасці і праца. Але можна ўпарта працаваць і капаць тунель у зваротным кірунку. Для таго, каб гэтага *не* адбылося і шлях да поспеху аказаўся больш простым і кароткім, побач павінен быць таленавіты настаўнік. У Якуціі мы ўсе звярнулі ўвагу на дзівосныя здольнасці ўдзельнікаў летняй школы, іх імгненную рэакцыю на заўвагі і пажаданні педагогаў. Ды ў той жа час многія з нас падкрэслівалі, што таленавітых дзяцей шмат ва ўсіх шыротах і ва ўсіх народаў. Поспех якуцкай школы на сённяшнім этапе вызначаецца наяўнасцю ўласных выдатных педагогаў і падтрыманнем сталых кантактаў *з лепшымі педагогамі-музыкантамі свету.*

Рэальнасць такая, што на сённяшні дзень таленавітай моладзі ва ўсіх галінах невымерна больш, чым таленавітых настаўнікаў, а без дастойнага настаўніка талент так і можа застацца рэччу ў сабе. Ні для каго ж не сакрэт, што многія вядомыя прафесары-музыканты атрымалі сваю вядомасць і папулярнасць перш за ўсё як выканаўцы, але так і не зрабіліся сапраўднымі настаўнікамі.

Выканаўца і педагог — розныя прафесіі. Думка гэта не мая, але пацвярджае актуальнасць праблемы. А прафесар у перакладзе з лацінскай — *гэта пастаўшчык, выкладчык*. Вядома, не перашкаджаць вучню самастойна развівацца — гэта таксама не *апошняя якасць* для многіх прафесараў, але быць настаўнікам — гэта штосьці іншае. Для гэтага мала эрудыцыі і выканальніцкага досведу. Неабходны талент педагога. Вынікам дзейнасці такога педагога з'яўляюц-

ца высокапрафесійныя, канкурэнтаздольныя спецыялісты.

Адыходзячы, магчыма, ад тэмы гаворкі, хацеў бы выказаць сваю думку. Калі педагог рыхтуе спецыяліста пачынаючы з азоў і да саліста прафесійнага аркестра ці саліста-інструменталіста, ён варты вучонага звання прафесара. Ганаровыя званні, вучоныя ступені, навуковыя працы — гэта пажаданы дадатак да практычнага выніку. Іначай мы ніколі не разарвём ланцуг несправядлівасці, калі адны рыхтуюць спецыялістаў, а другія робяцца прафесарамі, бо "падыходзяць" пад інструкцыі ВАК. Вядома, выпадкі, калі супадае ўсё, таксама бываюць, але не так часта. Трэба сказаць, што і тэндэнцыя атрымання прафесуры праз абарону дысертацыі ў творчых ВНУ таксама насцярожвае. Ужо сёння можна сказаць, што хутка з'явіцца значная колькасць дактароў навук, якія хутка ператворацца ў прафесараў, але далёка не ўсе з іх зробяцца настаўнікамі, **пастаўшчыкамі**. На мой погляд, педагагічны талент і канчатковы вынік яго рэалізацыі — вось што павінна адкрываць дарогу ў прафесуру ў вышэйшай навучальнай установе.

Дык як жа замкнуць круг? Гэта для ўсіх ясна. Калі цяжка, памагчы выжыць, несумненна, трэба ўсім. Але захаваць генетычны фонд можна, падтрымаўшы талент — выяўлены, або які ўжо зарэкамендаваў сябе, раскрыты і сцверджаны. Вылучаць моладзь — гэта зрабіць жэст, не больш. Моладзь жа бачыць далейшым свой лёс у асобе сваіх старэйшых калег — няхай будуць гэта выканаўцы ці настаўнікі. Таму яна ўрэшце альбо перапрафілюецца, альбо шукае месца, дзе лепш. Можна пераступіць праз сябе і пагадзіцца з тым, што ў сілавых структурах зарплата шараговага вайскоўца большая за прафесарскую, што адукацыя і культура фінансуюцца па мінімуме. Ды сітуацыя, думаю, у многім нам навязана збоку. Так, нам усім хацелася б адчуваць сябе абароненымі. Але тут важна, каб абаронца разумеў, што зарплату, вышэйшую за прафесарскую, яму плацяць не добры дзядзька і не абстрактная дзяржава, а кожны працоўны краіны.

І тым не менш, павінны быць стымулы, павінна быць святло ў канцы тунеля, а калі іх няма, то трэба наладзіць. У Савецкім Саюзе зарплата ў культуры і адукацыі таксама не была асабліва высокая. Але прафесар ВНУ не атрымліваў менш, скажам, за міністра дадзенай галіны. Былі вызначаны творчыя калектывы (Вялікі тэатр СССР, Марыінскі, Кіеўскі оперны, Дзяржаўны сімфанічны аркестр і г. д.), дзе зарплата была больш чым у два разы вышэйшай адносна іншых прафесійных калектываў. Не думаю, што гэта было вялікай фінансавай нагрузкай для дзяржавы, але затое які матэрыяльны стымул для творчых работнікаў! Неабходны падыход, пры якім таленавіты і рэзультатыўны спецыяліст атрымае адпаведную матэрыяльную падтрымку. Ці можна ў сучасных умовах вырашыць гэту праблему? Думаю, што можна. Ці лёгка? Вядома, цяжка. Лягчэй размеркаваць фонд зарплаты і ўсемагчымыя "дапамогі" ўсім, а па сутнасці, адпаведна з існуючымі нормамі, пароўну. Тактычна "беспраблемнай" для кіраўнікоў усіх рангаў, але стратэгічна набалелай праблема застаецца.

Прыгадалася мне стаўленне П. Машэрава да таленту. Трэба сказаць, што ніводнай прэм'еры ў нашым Вялікім тэатры ён практычна не прапускаў. І ў прыватнай гаворцы мог пацікавіцца: а як развіваецца той ці іншы малады таленавіты спецыяліст, хто падае асаблівыя спадзяванні? Калі думкі супадалі, мог прапанаваць: а давайце паспрабуем зрабіць з яго народнага СССР. Падвучым, паможам, падтрымаем, папраўім... І атрымлівалася ж!

Хачу вярнуцца да летняй творчай школы. Бо гэта не новае вынаходніцтва. Такія існуюць не толькі ў Суздалі, Якуціі, на Украіне ды іншых рэгіёнах былога СССР. Яны даўно існуюць ва ўсім свеце. Акрамя нас. Чаму? Зразумела ж, што праблема не ў матэрыяльных рэсурсах, яны ёсць і на Беларусі...

Хацеў бы выказаць удзячнасць усім тым, хто прадаставіў магчымасць мне і майму вучню пабываць у Якуціі. Шмат уражанняў! І ёсць пра што задумацца.

**Мікалай ВОЛКАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі**

*На здымках: Якуція, Вышэйшая школа музыкі; прафесар М. Волкаў (справа) і лаўрэат міжнародных конкурсаў Я. Лятэ з навучэнцамі якуцкай школы.*

# Творчы дар у кішэні не схаваеш

***Сёлета ў Маскве праходзіў адзінаццаты Міжнародны конкурс імя П. Чайкоўскага. Выступленні лепшых удзельнікаў паказвалі па тэлевізійным канале "Культура". Калі я ўбачыла ў кадры знаёмы твар сімпатычнай светлавалосай спявачкі, у выкананні якой гучаў фрагмент арыі Папялушкі з аднайменнай оперы Расіні, парадавалася, гэта была беларуская оперная артыстка Таццяна Варапай. Я нават расхвалявалася, быццам слухала выступленне роднага чалавека. "Усё цудоўна! — супакоіла сябе, — наша канкурсантка апраўдала надзеі і ў ліку 48 спевакоў прайшла на другі тур!" Але на гэтым яе зменлівае конкурснае шчасце скончылася. На трэці тур прадстаўніца Беларусі не прыйшла.***



Вядома, вядома, удзел у двух турах такога прэстыжнага сусветнага конкурсу — таксама паказчык поспеху. Дарэчы, Таццяна Варапай паспяхова выступіла і на папярэднім конкурсе імя Чайкоўскага. Тады яна яшчэ была студэнткай. Яе выкананне арыі са "Страсцей паводле Матфея" І. С. Баха спадабалася праслаўленай Алене Абразцовай. І маладая спявачка з Беларусі была ўзнагароджана прэміяй менавіта самой Алены Васільеўны Абразцовай. Сёлета ж усё было інакш. З-за недахопу часу (спаборнічала намнога больш спевакоў — не 80, а 128) Таццяне нават не далі магчымасці выканаць усю праграму конкурсу. Асабліва было крыўдна, што не выпала праспяваць творы, якія нашай спявачцы асабліва ўдаваліся...

Але ж сапраўдны талент у кішэні не схаваеш. І гэта яна пацвярджае адданасцю прафесіі, любоўю да сваёй справы і працай, нястомнай, няспыннай.

З чаго пачынаўся шлях да прафесіі?

Нарадзілася ў горадзе Белазёрску, што на Брэстчыне. Музыкантаў у сям'і не было. Маці, па прафесіі, краўчыха, дома ў хвіліны адпачынку з захапленнем спявае. Дзіва што і Таццяна захаплялася спевамі, з малых гадоў удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці. А яшчэ вучылася ў музычнай школе па класе фартэпіяна. Потым — у Баранавіцкім музычным вучылішчы па спецыяльнасці харавое дырыжыраванне. Але не думала аб прафесіі дырыжора. Хацела стаць спявачкай, тым болей, што прырода надзяліла яе прыгожым сакавітым голасам і прыемнай знешнасцю.

Паступіла на вакальнае аддзяленне Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. З першага курса пачала спяваць у хоры опернага тэатра. А з трэцяга курса Таццяну Варапай залічылі ў оперную трупу. Станаўленню маладой артысткі спрыялі педагог па вакалу народная артыстка Беларусі Лідзія Галушкіна, оперны рэжысёр Сямён Штэйн, спрактыкаваныя канцэртмайстры.

Яшчэ студэнткай Таццяна гастралявала з беларускай опернай трупай у Іспаніі, дзе паспяхова выступіла ў партыі Разіны ("Севільскі цырульнік"). У яе рэпертуары таксама партыя Вольгі ў спектаклі "Яўгеній Анегін". Актрыса стварае вобраз прыгожай, закаханай, трошкі "ўзбаламучанай" дзяўчыны. Прывабліве лірычная летуценная Канчакоўна ў выкананні Таццяны Варапай ("Князь Ігар"). Самой артыстцы вельмі блізкая партыя Любашы з "Царской невесты" М. Рымскага-Корсакава — і вакальна, і псіхалагічна. Ёсць у яе і свая Кармэн...

"Таццяна схоплівае ўсё хутка, вучыць імгненна, наогул працуе з захапленнем; у яе высокая працаздольнасць, часам нават сябе не беражэ. Цікавіць яе і ўсё новае. Таму працаваць з ёй цікава", — кажа канцэртмайстар Наталля Парадоўская. Ці не таму вядомы маскоўскі дырыжор Яўген Колабаў заўважыў Таццяну Варапай і выбраў менавіта яе, запрасіўшы выконваць партыю каралевы Елізаветы ў оперы Г. Даніцэці "Марыя Сцюарт"? Працуючы над гэтым вобразам, артыстка прачытала шмат літаратуры пра эпоху Марыі Сцюарт. І яе карпатлівая ўдумлівая праца ўвянчалася поспехам. Сапраўдную авацыю, мора кветак атрымала артыстка з Беларусі на фестывалі ў Парыжы "Руская трыумфы", дзе тэатрам Колабава была паказана опера "Марыя Сцюарт" з яе ўдзелам у галоўнай партыі.

Імкнучыся больш поўна рэалізаваць, раскрыць сябе, Таццяна ўдзельнічае ў міжнародных конкурсах.

"Новыя галасы" — так называўся конкурс у Германіі, пасля ўдзелу ў якім Таццяну Варапай запрасілі ў майстарклас. Там яна працавала з канцэртмайстрам з Італіі над творамі Моцарта, Расіні. Спявачка мае дыпломы конкурсаў імя М. Глінкі, імя С. Манюшкі. Дарэчы, у Варшаве на конкурсе імя С. Манюшкі вельмі зычліва ўспрынялі выступленне Т. Варапай — спявачкі з радзімы кампазітара. Асаблівую адзнаку атрымалі выкананыя ёю творы К. Шыманоўскага. Таццяну запрасілі на фестываль музыкі Шыманоўскага ў горад Закапанэ. І там яна таксама цудоўна выступіла, пра што ў свой час расказвала на старонках "ЛіМа" канцэртмайстар Ганна Каржанеўская.

Таццяна Варапай з тых артыстаў, хто шмат працуе над сабой. Цікавіць творамі, якія мала ведае. З-за мяжы прывозіць ноты, якіх няма тут. У пошуках цікавага рэпертуару гадзінамі праседжвае ў бібліятэцы. А яшчэ з цікавасцю супрацоўнічае з аб'яднаннем "Беларуская Капэла", дзе таксама працуюць над малавядомымі творамі, старадаўняй беларускай музыкай.

Шэсць гадоў яна на беларускай опернай сцэне. Прыхільнікі опернага мастацтва яе любяць, шануюць і спецыяльна прыходзяць у тэатр "на Таццяну Варапай".

**Вера КРОЗ**

СПАДЧЫНА

# Шклоўскі геній, параўнаны з Паганіні

## З НАГОДЫ 190-Х УГОДКАЎ ВІРТУОЗА-КСІЛАФАНІСТА МІХАЛА-ІОСІФА ГУЗІКАВА

Ён нарадзіўся ў Шклове ў сям'і вандроўнага музыкі. Яго бацька зарабляў на жыццё ігрой на флейце на вясковых вяселлях, хрэсьбінах, святах і гулянках у прылеглых да Шклова вёсках. Хлапчуком, у дзесяцігадовым узросце, дасканала авалодаў ігрой на флейце і сын Іосіф (ён жа Міхал). Ён не ведаў нотнай азбукі — яе замяняла ўчэпістая памяць. Гузікаў-малодшы засвоіў безліч народных песень, танцаў, найгрышаў — беларускіх, рускіх, украінскіх, польскіх і яўрэйскіх. Пры патрэбе ён замяняў бацьку на ігрышчах. А на скрыпцы акампанаваў старэйшы брат.

Па бацькоўскай волі Іосіфа рана ажанілі, калі яму ледзь споўнілася 16 гадоў. Нарадзілася двое дзяцей. Жыццё ўскладнілася. Да ўсіх нягод дадалася цяжкая хвароба — туберкулёз. Гэта была трагедыя для Іосіфа: ён не мог іграць. Флейта не падпарадкоўвалася, выдавала слабыя гукі.

У гадзіны роспачы, што не можа займацца любімай справай, яму на вочы патрапіў незвычайны інструмент. Бацька прывёз яго з Палесся (магчыма, сам і змайстраваў у вандроўках). Іосіф, натхнёны бацькавым вынаходствам, наважыўся сам стварыць новы музычны інструмент.

Пакутліва, у роздумах і пошуках міналі дні. Вынаходца безліч разоўператасоўваў драўляныя палачкі, змяняў іх колькасць, даўжыню і парадак размяшчэння. Нарэшце, падабраў неабходны гукарад.

І вось на прызбе роднай хаты пры зборышчы простага люду зайграў. Паплылі, напоўнілі навакolle гукі новага "струманту". Прысутныя, зачараваныя граннем земляка, доўга не разыходзіліся, забыўшыся на штодзённыя справы.

Знаўцы музыкі параілі Гузікаву "паказаць свету" сваё вынаходства. І наш зямляк едзе ў Кіеў. Першае ж выступленне шклоўскага музыкі кіяўляне віталі авацыяй. А неўзабаве музычная Адэса сцішылася ў здзіўленні ад ягонай ігры: для канцэртаў далі лепшую эстраду горада — італьянскі тэатр.

Потым — канцэртныя пляцоўкі і сцэны шэрагу краін Еўропы. Гузікаў выступаў у Польшчы, Германіі, Аўстрыі, Францыі, Галандыі. Як і Адэсу, здзівіў ён ці не самы музычны горад Еўропы — Вену. Адна з газет пісала: "На гэтай дошцы, якая ляжала перад панам Гузікавым на маленькім століку і не была ні вельмі прыгожай, ні вельмі гучнай, ён сыграў у суправаджэнні дзвюх скрыпак і віяланчэлі арыю Расіні, "Алегра" Хормайстра, варыяцыі і папуры, сыграў з такой бліскучай тэхнікай, якая спецыялісту гаворыць пра многае. Усё выконваецца чыста і дакладна, нават з густам і элегантнасцю. Усё выклікае пэўную нечаканасць, здзіўленне і захапленне. Навізна справы і сапраўды выключная тэхніка ўзняла бурную авацыю".

З Вены ён робіць вояж па гарадах Германіі. Пра яго трыумф на сцэнах гэтай краіны можна меркаваць паводле водгуку знанага кампазітара Ф. Мендэльсона: "Гэта сапраўды феномен — выключны музыкант, які стаіць не ніжэй за любога вялікага віртуоза як па манеры выканання, так і па сваім сталым майстэрстве... Я ўжо даўно не зведваў такой асалоды ад канцэрта, бо Гузікаў сапраўдны геній".

Потым быў Парыж. Тысячы французаў зачараваліся не менш за аўстрыйскіх і нямецкіх аматараў музыкі выступленнямі шклоўскага маэстра. Венгерскі кампазітар Ф. Ліст усхваляваны пісаў: "Я трапіў на цуд, на славутасць з дрэва і саломы, словам, на пана Гузікава, музычнага жанглёра, які выдае бясконца вялікую колькасць нот у бясконца кароткі прамежак часу і здабывае максімальнасць гукаў з двух самых бязгучных цел. Гэта дзівосная перамога над цяжкасцямі, якой апладзіруе зараз увесь Парыж".

Відаць, сам шчаслівец лёсу не думаў, што то быў яго апошні канцэрт... Можна ўявіць урачыстую абвестку: "Высокашаноўныя дамы і панове, у гэтай зале вы неадночы мелі шчасце слухаць выступленні многіх зорак музычнага мастацтва — кампазітараў, дырыжораў, спевакоў, вядомых усяму свету. Сёння перад вамі выступіць музыкант-самародак пан Мішэль-Жазэф Гузікаў, які на незвычайным інструменце, зробленым ім самім з дрэва і яравой саломы, выконвае песні і танцы ўсходніх славян — рускіх, украінцаў і зусім нам невядомага племя беларусінаў". Можна ўявіць, як ахіхла водгулле апошняй ноты. Як пасля нядоўгай цішыні пракаціўся гром апладысментаў пад воклічы: "Брава, маэстра! Біс!" Толькі музыка не ўспрымаў настрою залы. Яго хіснула, цела напоўніла млявасць, ён ледзь схаваўся за заслону. А слухачы патрабавалі яго выхаду. І ён выйшаў, ускінуў рукі, нібы хапаўся за штo. Але не ўтрымаўся, рухнуў на сцэну...

Гэта здарылася 21 кастрычніка 1837 года ў нямецкім горадзе Ахене. Падчас канцэрта з інструментам у руках памёр музыкант-феномен Іосіф Гузікаў.

Нашага земляка заходнееўрапейская крытыка параўноўвала з вялікім Паганіні. Прынамсі, Зыгмунд Шлезінгер пісаў: "Еўропа чула Паганіні, які заваяваў свет гукамі, і да наступных герояў яна ўжо застаецца раўнадушнай. Але вось, каб здзейсніць цуд, з'яўляецца чалавек, які стварыў, як Арфей, сваю ліру, з пераможнай музыкай ступае з ёю па свеце. Чалавек гэты — Гузікаў".

Славуты шкловец, які пражыў 31 год, не быў забыты ў наступных пакаленнях. Пра яго пісалі ў часопісах, энцыклапедычных выданнях, прынамсі, П. Перапіліцын у "Музыкальном словаре" (М., 1884г.), Г. Рыман у "Музыкальном словаре" (М., 1901 г.), З. Шлезінгер у працы "Иосиф Гузиков и его инструмент из дерева и соломы" (1836 г.), І. Цішчанка ў артыкуле "Белорусский Орфей" ("Нёман", N 5, 1983 г.); А. Грудзіна ды А. Турбінскі ў краязнаўчым зборніку "Магілёўшчына" (VI выпуск, Магілёў, 1995 г., матэрыял пра Іосіфа Гузікава "Брава, маэстра...").

Трэба спадзявацца, што імя вынаходцы-ксілафаніста будзе жыць у гісторыі нашай культуры, што ён будзе ўшанаваны на сваёй малой радзіме — на Шклоўшчыне.

**Леанід АНЦІПЕНКА**

*г. Шклоў*

## "Ёсць у мяне зямля, край светлых мрояў..."

**Ужо амаль цэлы год крочыць па краіне юбілейны чын Адама Міцкевіча, слыннага нашага суайчынніка, геніяльнага паэта, класіка польскай і беларускай літаратур.**

**Шырока адзначаецца юбілей і на Брэстчыне — прайшла Міжнародная канферэнцыя, адкрыўся мемарыяльны комплекс "Завоссе", выходзяць з друку кніжкі, ладзяцца юбілейныя выставы і многае іншае. А на мінулым тыдні адміністрацыя Ленінскага раёна абласнога цэнтра і Брэсцкі дзяржуніверсітэт сумеснымі намаганнямі правялі свята паэзіі "Пад сузор'ем Адама Міцкевіча" ля помніка паэта на вуліцы ягонага імя ў Брэсце.**

**Ушанаваць памяць генія, паслухаць яго творы сабраліся моладзь і школьнікі, прыхільнікі таленту, звычайныя прахожыя, якія станавіліся паўнавартаснымі гледачамі і слухачамі. А паслухаць было што і каго. Спецыяльную праграму, у якой гучалі міцкевічаўскія творы на рускай, беларускай і польскай мовах, да свята падрыхтавалі студэнты аддзялення "руская мова і літаратура, польская мова і літаратура" універсітэта на чале з дацэнтам кафедры літаратур народаў свету Аленаю Ківакай, пранікнёна гаварылі пра значэнне творчасці Адама Міцкевіча дактарант Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Генадзь Праневіч, краязнаўца Віталь Клімчук, аўтар навукова-папулярнай кнігі "...Жаль перестать быть литвином...". Свае творы чыталі паэты Алесь Каско і Васіль Дэбіш, гучалі песні Вольгі Сідарук, хор моладзі пад кіраўніцтвам М. Трафімука з музычнага каледжа. Хораша аздабляла азначанае мерапрыемства выстава твораў мастачкі Тамары Паўлючук.**

**А галоўнае, мусіць, у тым, што прысутныя адчулі прыцягальную сілу неўміручага слова Адама Міцкевіча, першастваральны дух ягонай паэзіі, пабагацелі душою, атрымалі дадатковыя імпульсы радаснага жыццесцвярджальнага аптымізму, які натхняе кожнага чалавека, прымушае яго падзяліцца набыткам з родзічамі, сябрамі, калегамі, заклікае яшчэ і яшчэ раз узяць у рукі томік твораў Адама Міцкевіча, каб атрымаць асалоду і прычасце.**

**Уладзімір ТАРАСЮК**

## Векапомнасць слова песняра

**75-годдзю "Новай зямлі" прысвячалася вечарына, што прайшла ў Мінскім энергетычным тэхнікуме. Гаворку пачала работніца бібліятэкі гэтай установы Людміла Кольчанка. Студэнты прачыталі ўрыўкі з паэмы, затым рэй павёў старшы навуковы супрацоўнік музея народнага паэта Іван Курбека. Ён запрапанаваў слухачам галасы песняроў Беларусі Якуба Коласа і Янкі Купалы. Урыўкі з "Новай зямлі" пачытаў (з магнітнай стужкі) незабыўны прапагандыст творчасці вялікага паэта дзядзька Юзік, малодшы Коласаў брат.**

**З увагай слухалі студэнты выступленне вядучага інжынера-канструктара Мінскага завода колавых цягачоў Язэпа Гарэцкага. Ён па-майстэрску выканаў урывак з новазямельнага раздзела "Дзядзька-кухар".**

**Сустрэчу завяршыў "магнітафонны" Данчык, міла, задушэўна праспяваўшы песню "Мой родны кут".**

**С. ІВАНЧЫК**

## Пісаў на ідыш і па-руску

**Лазар Кацовіч (нарадзіўся 5 кастрычніка 1903 года, памёр 13 жніўня 1953-га) літаратурную працу пачаў у 1920 годзе з вершаў, але прызванне знайшоў у прозе. Выйшлі кніга апавяданняў для дзяцей "Кіфка-лгунішка", зборнікі "Гумарэскі", "Коратка і ясна", пародыі "Прабачце, сябры мае", а таксама кнігі аповесцяў на рускай мове "Возвращение к жизни" і "Красный факел". У 1946 годзе ў перакладзе на беларускую мову пабачыла свет аповесць "Сям'я". Л. Кацовіч — аўтар п'есы "У тыя дні", аднаактоўкі "Жукі ў калгасе". А нарадзіўся пісьменнік у Мінску. У 12-гадовым узросце стаў "хлопчыкам для паслуг" у мануфактурным магазіне, потым быў кур'ерам у банку. З 1922 года — артыст, памочнік рэжысёра гарадскога тэатра і вандроўных калектываў, гравёр-літограф у друкарні. У 1937 годзе скончыў сцэнарны факультэт Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі ў Маскве. Працаваў на кінастудыях у Мінску, Ташкенце. У 1943—1946 гадах з'яўляўся рэдактарам Усесаюзнага радыёкамітэта. У пасляваенны час жыў у Мінску.**

# "Я сонца збіраю..."

### ЗГАДКА ПРА Рудольфа ПАСТУХОВА



Роўна два гады назад на дачы ў Чамярах, што на Слонімшчыне, мы адзначалі 60-годдзе паэта Рудольфа Пастухова. На юбілей прыехалі яго самыя блізкія сябры. Быў сонечны і цёплы верасень. Былі ўсмешкі сяброў, пажаданні і вершы, прысвечаныя юбіляру:

***За вёскай Чамяры***
***палеткі і бары —***
***прыгожа так, што не знаходзіш слова.***
***І хоць абрыдла жыць,***
***а добра тут пабыць***
***на сотках у Рудольфа Пастухова.***

Рудольф курыў, быў вельмі спакойны і шчаслівы.

— Чумарыкі прыедуць усе, — сказаў ён і ўсміхнуўся.

— Хто, хто? — пацікавіўся я.

— Чумарыкі. Такое ў нас ёсць сяброўскае таварыства. Мы яго самі прыдумалі і стварылі. Сюды ўваходзяць тыя, хто добра разумее гумар і жарты, хто фізічна здаровы і мае здольнасці ў літаратуры, журналістыцы, музыцы і г. д., — растлумачыў Рудольф Аляксеевіч. А пасля дадаў: — Сёння на маім юбілеі ў чумарыкі прымем і цябе. Ты ў нас будзеш самым маладым чумарыкам.

Калі сабраліся ўсе госці, пачалася працэдура прыняцця мяне ў чумарыкі. Смеху было на ўсю чамяроўскую дачу. Нават вядомая тэлеперадача "Белы папугай" не змагла б канкурыраваць у той дзень з вясёлай кампаніяй слонімскіх чумарыкаў.

Такім запомніўся мне той апошні юбілей Рудольфа Пастухова — тутэйшага паэта, інтэлігента, шчырага, вясёлага чалавека і адданага сябра. Хто мог тады падумаць, што праз год, у верасні, яго не стане? Раптоўна і нечакана...

Мы ж з ім шмат што думалі напісаць. Разам працавалі над п'есаю "Камера", якая засталася незакончанай. Ён рыхтаваў свой другі зборнік паэзіі (першы і адзіны пад назваю "Судьба" выйшаў з друку ў Слоніме ў 1994 годзе), займаўся перакладамі і многім іншым.

Часта Рудольф Пастухоў прыносіў мне свае вершы. "Няхай будуць у тваім хатнім архіве. Можа, калі спатрэбяцца", — гаварыў ён. Нядаўна перачытаў іх. Цудоўныя творы! Вось гэтыя радкі запалі ў душу назаўсёды:

***Это просто ставни скрипят,***
***Как шаги на снегу...***
***...Я во сне на подушке распят —***
***Но к тебе распятым бегу.***

Калі мне рабілася сумна і адзінока, я званіў Рудольфу Аляксеевічу. "Прыязджай да мяне", — казаў ён у тэлефонную трубку і чакаў майго візіту. Мы гутарылі пра жыццё, пра палітыку, пра літаратуру. Ён ніколі нікому не зайздросціў, заўсёды быў шчырым старэйшым сябрам, дарадцам, кансультантам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці.

А лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з'явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці ў 1951 годзе. Аб чым ён быў, нават сам аўтар не памятаў.

Шляхі-дарогі паэта кідалі па ўсёй былой вялікай дзяржаве. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у Слонімскай райгазеце з'явілася яго першая паэтычная падборка. А аднойчы, напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у "Гродзенскую праўду" да Васіля Быкава, які працаваў тады ў гэтай газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, а праз пэўны час лепшыя з'явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі. Вершы нашага земляка друкаваліся ў часопісах "Нёман", "Крыніца", штогодніку "Дзень паэзіі-98", альманаху "Золак над Шчарай", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", расійскіх і беларускіх газетах.

Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю, выбіраўся дэпутатам Слонімскага гарсавета. І заўсёды і ўсёды пісаў вершы. Пісаў іх за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у доме культуры, на фабрыцы... А лепш за ўсё пісалася дома ў Слоніме ці на дачы ў Чамярах:

***Я солнце собираю по лучам,***
***В охапку, как большой букет сирени.***
***Несу тебе — пусть светит по ночам,***
***Убрав из жизни сумерки и тени...***

Ужо год, як няма Рудольфа Пастухова. А яму 28 верасня споўнілася б толькі 62.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ТРЫ НАВЕЛЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

На ўзлессі, на голым грудку стаяла нейкая доўгая, прыземістая будыніна, а ўзбоч яе, бліжэй да вёскі, хатка-вартоўня з адным вакенцам. Вайсковец пасунуўся ў сярэдзіну, у цямноце намацаў шырокую лаўку і асцярожна прысеў, прыхінуўся да сцяны, няўзнак праваліўся ў зыбкае, ненадзейнае мроіва сну.

Ён прачнуўся, калі ўжо добра ўднела, рыўком ускочыў з лаўкі і войкнуў ад болю, які прастроміў усё цела, ледзь не зваліўся на падлогу, але ўтрымаўся рукой за вушак, няўцямна паглядзеў на запыленае, зацягнутае павуціннем вакенца, у якое касымі промнямі біла нізкае, яркае сонца. І адразу ўспомніў усё, што з ім адбылося. Адчыніў рыпучыя дзверы, зажмурыўся ад яркага святла, аслабела пахіснуўся, галава закружылася. "Чорт вазьмі, у мяне ж пісталет, — падумаў з адчайнай рашучасцю. —Калі што, не здамся". Але іншая думка, турботная і бяссільная, пранізала мозг, адняла апошнія сілы. "Нага, інвалід, куды пойдзеш? Хіба ўцячэш ад іх? Сядзі, стаіся, перачакай".

Ад бяссілля, ад роспачнай безвыходнасці лётчык скрыпнуў зубамі, застагнаў. Ён, малады, дваццацічатырохгадовы, ніяк не мог змірыцца з тым, што гэтак нечакана быў збіты "Месершмітам", які вынырнуў аднекуль зверху; у адно імгненне страціў усё, што было, і апынуўся ў гэтых лясах, на тэрыторыі, па якой паўзлі на ўсход без супыну калоны немцаў, якіх бачыў з вышыні. Якая дзікая, ачмурэлая сіла прэцца на ўсход.

Прысеў на нізкі, стаптаны і пасечаны сякерай парог, выпрастаў апухлую нагу, уздыхнуў, стомлена заплюшчыў вочы. "Сасна выратавала, так бы канец. Позна выкінуўся, думаў пасадзіць самалёт. Дурань, трэба было раней... А мо і добра, што прамаруджыў. Немец бы дабіў. Што яму? Хай бы сеў на маё месца, у гэты "ішачок", тады б паглядзелі, хто каго. Дні два-тры пракантуюся тут і пайду да сваіх. Не можа быць, каб не спынілі немца. Дзве ракі — Бярэзіна і Днепр — наперадзе, не дурні ж нашы, замацуюцца і пагоняць назад. Усё будзе добра, Семяніхін, не гаруй. Вось бы што пажаваць. Нічога, знайду, свае ж людзі тут".

Ён нечакана, быццам што кальнула ў галаву, адплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой маладую жанчыну; рэзка ўсхапіўся на ногі, зморшчыўся ад болю, прыхінуўся да шурпатых, цёплых бёрнаў хаткі, якія пахлі старым мохам і трухлядзем. Жанчына ўскрыкнула, падалася назад, баязліва азірнулася, на яе прыгожым твары ўзнік спалох. Яны абое моўчкі колькі секунд глядзелі адзін на аднаго, і яна першая ацямілася, папытала ціхім голасам:

— Вы наш?

Ён не адказаў, зноў апусціўся на парог, бо не мог стаяць, пахмурна, з недаверам глядзеў на жанчыну.

— Ой, пра што я пытаюся, — спахапілася яна. — Вы лётчык? Паранены?

Жанчына нясмела, быццам перад ёй была вузкая кладка, ступіла крок наперад, паўзіралася ў вайскоўца.

— Вы адзін? Я вам памагу.

— Лётчык я, наш, не палохайцеся, — ён адчуў, што жанчына можа дапамагчы яму. — Збілі, гады, — вымавіў бы вінавата, хрыпатым ад хвалявання голасам.

Яна зноў памкнулася да яго, нахіліўшыся, прамовіла:

— Заўчора, над лесам... Я бачыла. Самалёт загарэўся, упаў. Плакала, што лётчык загінуў. Я здагадалася, што нашага збілі, бо нямецкі нізенька, над самай школай праляцеў. А вы гімназіст? — паказала пальцам на каўнер гімнасцёркі, дзе быў адзін вішнёвы кубік.

Лётчык не адказаў, ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Калі б не нага, ужо быў бы ў сваіх. Тут недалёка. А так... — Голас задрыжаў.

Жанчына са спагадай глядзела на лётчыка і не ведала, як дапамагчы чалавеку, які гэтак нечакана трапіў у бяду. У любы момант могуць прыехаць немцы і забіць яго. На яе твары адбіўся спалох.

— Я ў школе жыву, тут вось, недалёчка, — паказала рукой у пропілеглы ад лесу бок. — Там настаўнік стары з жонкай, больш нікога. А я настаўніца, мужа ў першы дзень забралі на вайну.

Лётчык з намаганнем, апіраючыся рукой на вушак, устаў, апусціў галаву, ціха папрасіў:

— Мо што ёсць у вас? Два дні не еў... Ну, вярнуся, расквітаюся...

— Ой, якая ж я дурніца, — усклікнула жанчына. — Ідземце да мяне.

— Не, прынясіце сюды, — ён адмоўна пахітаў галавой. — Я пайду, вось пухліна ападзе — і пайду.

Ён быццам апраўдваўся перад ёй за сваю немач, за тую няўдачу, што напаткала яго ў небе каля гэтай вёсачкі.

— Я хуценька, я мігам, — усклікнула жанчына і лёгка пабегла да школы. Азірнулася, на хаду здалёк кінула: — А вы чакайце, не бойцеся.

Не ведала ні настаўніца, ні лётчык, што ў гэты час з лесу за імі цікаваў яшчэ адзін чалавек, кульгавы, кашчакаваты Сымон Буднік. На ўсходзе сонца па расе прыгнаў на ўзлессе карову, пацыху тупаў за ёй сярод кустоў і, прыкмеціўшы на парозе вартоўні вайскоўца, стаіўся і пачаў назіркам сачыць.

...Праз тры дні лясную вёсачку на дасвецці, яшчэ цемнатою, ачапіў нямецкі карны атрад. Калі заднела, на ўзлессі, каля вартоўні пачуліся стрэлы: спачатку два ці тры адзіночныя, пісталетныя, а потым застрачыў аўтамат, забухала вінтоўка.

Трое карнікаў вывелі лётчыка. Невысокага росту, хударлявы, у вайсковым галіфэ і карычневым світэры, босы, з акрываўленым тварам, ён ішоў пад канвоем рослых, мардатых немцаў.

Настаўніца ўбачыла ў вакно, што вядуць яго, выбегла насустрач і пачала тлумачыць канваірам, блытаючы беларускія і нямецкія словы. Немец у касцы, з аўтаматам на грудзях адпіхнуў жанчыну, рэзка, адрывіста гергетнуў. Лётчык раптам прыпыніўся, узняў угору руку і павалі апусціў долу. Удар аўтамата у спіну, і, спатыкнуўшыся, злоўлены ў апошні раз азірнуўся, змучана ўсміхнуўся. Толькі цяпер яна даўмела, што не вызваліць яго, маладога рускага хлопца, які гэтак мала пажыў на зямлі.

У той дзень больш нікога з вёскі не ўзялі.

Падскокваючы на скалечанай назе, па вёсцы бегаў Буднік і кожнаму стрэчнаму даводзіў:

— Во лярва, вучыцелька ета, здала немцам лётчыка. Во, людцы, што дзеецца...

Але яму ніхто не верыў.

Неўзабаве немцы паставілі Сымона Будніка старастам, а ў сорак другім, вясной, калі пачалі хадзіць партызаны, збег у нямецкі гарнізон, у мястэчка, пад сховы немцаў і паліцаяў.

Судзілі яго ўлетку сорак чацвёртага, як прыйшлі нашы.

Праз дзесяць гадоў неяк надвячоркам, каб не кідацца людзям у вочы, у вёсцы з'явіўся кульгавы, аблезлы чалавечак, пратэпаў вясковай вуліцай. Ніхто не пазнаў у дзядку Сымона, нават жонка, старая Настуля.

А неяк, добра падпіўшы, Буднік прызнаўся:

— Ета ж я тады высачыў летуна. Меркаваў, што калі здам, то якая палёгка выйдзе ад немцаў. Плявузгалі, бытта тры гектары нарэжуць. Прахвіндзеі, не адолелі бальшавікоў, а так бы пажыў. Э-эх, жызня, дзесятку сваю адкляпаў па самае горла...

І тросся ў нямоглым, старэчым смеху, паказваючы ў слінявым роце два жоўтыя, пракураныя зубы, чуючы нянавісць да ўсіх.

ДУША

ВАЛЯНЦІНА ГАЯВАЯ... Чую, як замірае душа пры адной толькі згадцы пра Вас, народную артыстку Беларусі. І хочацца абняць неабдымнае, дасягнуць недасяжнага, далецець у недаляцелае...

Валянціна Іванаўна, я гэтак люблю Вас! Так любяць неба, калі душа апячэццаапаліцца аб грубае ды нікчэмнае. Так любяць светлыя аблокі, прадчуваючы, што хутка ўжо і да іх, што толькі ў іх — ціша і супакаенне...

Даруйце мне, Валянціна Іванаўна, маё доўгае маўчанне. Гэтулькі часу праляцела, гэтулькі дарог і сцяжынак прамільгнула, гэтулькі дрэў прашумела, гэтулькі птушак прашчабятала! Шмат вярбін, Валянціна Іванаўна, пахілілася, і я вось — таксама ўжо старою стала, толькі Вы — усё тая ж, маладая і прыгожая, поўная рамантычнай сілы і свежасці. нібыта й няма і ніколі не было над Вамі грозных гадоў, нібыта навальніцы не

Я здзівілася: каб такі светлы паэт ды не змог абгукнуцца пра з'явішча ў мастацтве, пра зорку, якая ўзыходзіць над нашым краем?! І — аднойчы я пачула (на жаль, праз гады):

***Далоняў гулкасць —***
***Столь не зруш!***
***Далоняў шчодрасць —***
***Вам, "Харошкі".***
***У воплесках-маленне душ:***
***Яшчэ, яшчэ! Яшчэ хоць трошкі!***
***Зноў кожны гук і рух прыспеў***
***На светлы круг,***
***На ўзлёт высокі.***
***Звароты непаўторны спеў.***
***Узвышаных пачуццяў скокі.***
***Прыспеўшы свой пявучы крок***
***Шляхетны Фёдар Балабайка.***
***З рук бубен***
***поўняю***
***ў падскок —***
***І ёсць смяшыначчы дабайка...***

мыя нізкія заробкі — у работнікаў культуры, літаратуры...

Як зусім незразумелае ўспрыняла я і горкі ўздых Валянціны Іванаўны Гаявой па радыё:

— З Міністэрства культуры адказалі, што 25 гадоў — не юбілей для ансамбля. Так што святкавання не будзе...

— Як?! — узвілася тады не толькі мая душа, думаю. Узвілася на гэткую заяву многія і многія. 25 гадоў адтанцаваць на сцэне і з нязменным поспехам, пастаянна радуючы і здзіўляючы гледачоў — і няма юбілею?! Дабіліся-ткі людзі жаданага, будзе святкаванне 25-годдзя слаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", не проста ансамбля, а сапраўднага Тэатра нацыянальнага беларускага танца. А гэта значыць, будзе найперш яшчэ раз пацверджаны Яе, народнай артысткі Беларусі Валянціны Гаявой, незвычайны поспех, а папраўдзе — подзвіг у імя народа нашага.

Я ўжо хвалююся, я чакаю гэтага юбілею, другі раз — як сапраўднага творцу, даў крылы для палёту. Шмат гадоў праляцела з тае шчаслівай пары, калі Вас, маладую і прыгожую, поўную творчых задум і прагі творчасці, прывёз у Магілёў таленавіты танцоўшчык і харэограф Мікалай Дудчанка. Далёка-далёка ўжо тыя сумесныя задумы, сумесная, рука ў руку, душа ў душу, праца па стварэнні "Харошак". Абавязковае прыпомненне Валянціны Іванаўны карэспандэнтам: "Разам з Мікалаем Рыгоравічам мы пачыналі стварыць наш ансамбль".

Яна, Валянціна Іванаўна, старалася, каб закрасаваў беларускі танец, каб узняўся ён над вялай самадзейнасцю, якая доўга не шукае, не выношвае ў сваім сэрцы яго паэзію, а, схапіўшы бубен, адно і тое ж выкаблучвае на сцэне. Можа, для некага і тое — творы мастацтва, але толькі не для яе, Мастака ў душы ад прыроды! Не, яе ніколі не задавальнялі такія "перлы" мастацтва, як скасабочаны бусел са скрыўленым гнездзішчам над танцорамі-самадзейнікамі, якія толькі гэтым і падкрэслівалі сваю "адметнасць", "беларускасць".

— Маё глыбокае перакананне, што без культуры душы, без адухоўленасці нічога вартага не створыш, як ні пніся, як ні крычы, што ты шчыры беларус... Адны і тыя ж, без фантазіі па і каленцы не выручаць, калі ўнутры — пуста, — неяк сказала яна ў задуменні.

З зайздрасцю ўглядалася я ў дзетак, якія займаюцца ў танцавальнай студыі пры "Харошках". Каб там займацца, акрамя здольнасцей, патрэбна яшчэ і здароўе. Добрае здароўе, якога, на жаль, няма сёння ў маёй дачкі і ў многіх-многіх беларускіх дзяцей. Калі я сказала пра іх, нашых дарагіх хлопчыкаў і дзяўчынак, Валянціна Іванаўна не змагла схаваць сваёй трывогі і болю:

— І ў мяне баліць душа за ні ў чым не павінных дзяцей. Колькі іх сёння хворых! А далёка ж не ўсё робіцца ў нас па іх выратаванні, далёка не ўсе хворыя дзеці маюць магчымасць як след аздаравіцца нават у межах нашай краіны...

І мо таму вось такой была яе чуйная рэакцыя на паведамленне адміністратаркі філармоніі, што ладзіцца дабрачынны канцэрт для хворых дзяцей:

— "Харошкі" будуць. Адныімі з першых выступім!

І я помню тых няшчасных хворых дзетак на тым канцэрце, помню, як забывалі яны на свае хваробы і радасна пляскалі ў далонькі, убачыўшы незвычайнай красы танцы "Харошак"...

Я радуюся, калі мне шчасціць трапіць на канцэрт вядомага ансамбля. Было, стаячы па чатыры гадзіны, прыхінуўшыся дзе-небудзь да сценкі бельэтажа, не заўважала нават гэтай нязручнасці. Як не зважала на тое і дзесяткі іншых гледачоў, якія таксама былі шчаслівымі ўжо толькі таму, што іх пашкадавала білецёрка ці адміністратарка ды пусціла па ўваходным білеце, і яны вось маюць магчымасць радавацца сапраўднаму хараству, што цвіце на сцэне. Гэта не проста танцы, гэта сапраўдныя, відовішчныя спектаклі з жыцця беларускага народа, карціны яго, выхапленыя ці то з мінуўшчыны, ці то з сённяшняга дня. І як жа яны бліскуча, зіхотка ажыцяўлены перад вачыма!

Хмялела, п'янела душа, уражаная дзівосным хараством музыкі, пластыкі чалавечага цела, незвычайным суладдзем гэтай гармоніі: музыкі душы і музыкі жыцця. І ахоплівў гонар, што не зламаўся, выстаяў, выжыў Беларус і, нягледзячы на віхуры-навалы, жыве, змагаецца з непагаддзю...

Якое ж гэта шчасце — выказаць сябе гэтак, каб людзі захоплена выгукалі: "Во-о гэта да-а! Во гэта скокі! Ух ты, трэба ж так!" Колькі разоў чула я такія воклічы ў гарадах і ў вёсках! Колькі разоў здзіўлена, захопленая не стрымлівалася і сама, шукаючы адпаведнага слова ўбачанаму-адчутаму! І, як правіла, не знаходзіла, акрамя гэтага — прамога, заўсёды цёплага, як пляча друга, надзейнага: "Я люблю вас, любыя артысты!" І — бегла, ляцела думкаю і сэрцам да Яе, усімі вядомай, усімі любімай — Народнай, прызнанай.

# Са святла, з праменняў сонца...

секлі, нібыта маланкі Вас не палілі, бураны-вятры з ног не валілі, нібыта заўсёды — толькі сонца і зоры над Вамі!

Любуюся і чаруюся Вамі, Валянціна Іванаўна! Думаю пра Вас, бягу да Вас, калі мне дужа цяжка, калі, ведаю, — дарэмна да каго іншага. Не палохайцеся: гэтак я — толькі ў думках. Я дажыла ўжо да такой радасці, калі нагамі не бяжыцца, словамі, услых ні аб бядзе, ні аб любові не крычыцца. Я дажыла да радасці чуць і бачыць, хто ёсць ХТО на гэтай зямлі. І цяпер, калі перабіраю ў памяці свае самыя дарагія, падораныя мне Богам сустрэчы, перад вачыма заўсёды Вы: самотная і строгая, чуллівая і ўладная, валявая і энергічная, уся — парыў і натхненне, з праменняў ранішняй зары і вечаровага одуму Жанчына-Песня, Жанчына-Мара, Жанчына-Тайна. І я — сумую па Вас, сумую па нашай гаворцы, якая адбылася ці не гадоў пяць назад, сумую па той сустрэчы, якая б магла перарасці ў дружбу, ды так і не перарасла. Не сталася, не адбылося між намі нечага самага-самага, як, між іншым, не адбываецца шмат чаго на зямлі. Супакаенне адно: мая душа ў нечым усё-такі адбылася. Калі яна гэтак тужыць, так абдымае яшчэ свет Харашыні і Святла, калі гэтак цягнецца да Вас, гэтак звініць пры адным толькі ўспаміне, што я сядзела ля Вас, гаварыла з Вамі, глядзела ў Вашы светлыя, як неба, вочы, калі гэтак хоча яшчэ раз паглядзець у іх, заглыбіцца, засярodзіцца на Вашай Песні, Вашым чароўным лёсе.

Але, але, Ваш лёс — як падораная мне Богам дзівосная паляна Хараства між мітусні і тлуму, шэрасці і звычайнасці. На гэтай паляне я забываюся на нягоды, тут мне зноў цёпла і хораша. Я нібы зноў там, у 1974-ым... А мо ў 1975-ым?.. Дакладна не памятаю ўжо год і дату, памятаю толькі лета, толькі харашыню луга і поля, прастор неба, родней зямлі. Я бягу па дарозе праз луг і поле, праз лес, бягу, уражаная песняй Аляксея Васільевіча Пысіна пра Вас. Я прыехала на радзіму, я ўрэшце зразумела, што Магілёўшчына, як і Палессе, — цікавы, самабытны край, дзе вольна дыхаецца паэтам і мастакам. Колькі цікавага, светлага падарыў мне тады наш вядомы паэт пра Вас!

— Вось убачыш, Валянціна Гаявая апяе наш край. Не глядзі, што яна руская. У ёй ёсць любасць да людзей, да зямлі, дзе жыве. Бачыў я на аглядзе мастацкай самадзейнасці, як яна цікавала за дзядамі-бабулямі, як за імі ўсюды ідзе, і едзе, зразумеў, што гэта — незвычайная адоранасць, чалавечы талент, які пакажа сябе, праявіцца на сцэне. Вось ужо і імя ансамблю ад назвы прыдняпроўскай вёскі ўзяла — "Харошкі". Чуеш, якая сапраўды харашыня ў адной толькі назве. А як падумаеш, што яна — ад нашых людзей, нашых беларусаў, — цёпла, сонечна на душы робіцца. Такіх бы талентаў паболей нашай зямлі! — гаварыў Аляксей Васільевіч. Ён шмат пісаў пра адораных ад прыроды людзей, нават выдаў кніжачку "Бярозка ля кожных варот", якую падарыў мне са светлым пажаданнем, каб і я, як ён, палюбіла свой радзінны край.

Аляксей Васільевіч, памятаю, папрасіў мяне:

— Ты б напісала пра яе. У яе і муж харошы — таксама танцоўшчык, харэограф Мікалай Дудчанка. Разам яны ўсюды. Вельмі цікавая пара! Пра іх разам і пісаць трэба! Сам я ці змагу...



Памятаю, я прыдзіралася да гэтай "дабайкі", бачыла ў ёй нешта штучнае, толькі дзеля рыфмы, — маўляў, рыфмы паэтаў абмяжоўваюць у выказванні сваіх думак, пачуццяў, нават самых тонкіх. Аляксей Васільевіч толькі задумённа, мудра ўсміхаўся, пацвельваўся: "Вось ты сама і напішы!" Адносіўся ён да мяне тады хораша — як да дачкі, як да свайго вучня ў паэзіі, у якога верыў, якому прадракаў таксама і поспех, і шчасце, ды... ні таго, ні другога ў маім жыцці не сталася!

І самотна ўспамінаю я сёння тую гаворку з ім пра Яе, незвычайную Актрысу, высокую, недасяжную цяпер для многіх і многіх. Самотна дачытваю Ягоныя радкі пра "Харошкі":

***"Харошкі" — чараў сувязны.***
***Ёсць над Дняпром сяло Харошкі.***
***"Харошкі" — з поля, з баразны,***
***"Харошкі" — з жыта, як валошкі.***

І тут я міжволі плачу. На той дзівоснай паляне ёсць і гэтае светлае імя — Аляксей Пысін, чароўная сціпласць нашай Паэзіі, яе высокае задуменне. І я зноў вяртаюся да той магілёўскай клінікі, зноў бягу па той дарозе, па якой Яго везлі з дому, затым — на стараданія магілёўскія могілкі...

Я не ведаю, ці была Валянціна Іванаўна на тым пахаванні, але ведаю: яе імя звязана з імем цудоўнага Паэта, ён пакланяўся ёй, ён любіў яе, захапляўся яе танцамі, ён ведаў яе!

О, не абсыпайся журбою, мая паляна! Не створаны і па сёння музей Аляксея Пысіна ў Магілёве (а ён заслужыў яго, усім сваім жыццём, і сваёй высокай паэзіяй у першую чаргу!). Мы, беларусы, і па сённяя не навучыліся як след шанаваць свае таленты, мы паранейшаму больш думаем, як выжыць, як пракарміцца ў гэтым свеце. Па-ранейшаму Духоўнае — на апошнім плане, нізка ацэньваецца, як след не шануецца, не беражэцца. Нішчацца літаратурныя таленты, ледзьве дыхаюць мастакі, кожны — у одуме, як пражыць, як пракарміць сябе, свае сем'і. Сапраўднага для душы свята. Мне хочацца паднесці ёй сноп жыта, абвіты васількамі (валошкамі, пра якія пісаў Аляксей Пысін). Мне хочацца выслаць духмяным жытам тую сцяжыну, якая прывяла яе да шырокай дарогі ў мастацтва. Сцяжыну, якая пачыналася з Магілёўшчыны, ад вёскі Харошкі, і якая вывела яе ў шырокі свет. Добра ведаючы ужо Валянціну Іванаўну і яе знакамітых харошкаўцаў і ў далёкім замежжы. Ім апладзіравалі і апладзіруюць у Англіі і Германіі, Францыі і Італіі, Іспаніі, Галандыі... О, што там, як там Вы, дарагая Валянціна Іванаўна? Чаму я гэтак тужу! Чаму мне гэтак хочацца плакаць пры адной толькі думцы, што там, за акіянам, — жыццё харашэйшае, цяплейшае для мастакоў-творцаў? Каб не было так, не пакідалі б Айчыну творцы, не сплывалі б за мяжу нашы вядомыя вучоныя, не паварочвалася б вачыма інтэлігенцыя на Захад... Мне цяжка зразумець гэта, бо іншых земляў, акрамя сваёй, гаротнай, Богам ад нараджэння суджанай, я не ведаю. Але я добра ведаю іншае: птушкі пасля доўгага выраю вяртаюцца на сваю Бацькаўшчыну.

Шчымліва сачу і за кожным Вашым вяртаннем, дарагая Валянціна Іванаўна. Што новае, дасюль нязнанае ў Вашай песні з'явіцца? Якою музыкай будуць прасякнуты новыя танцы, якія вятры, якія мроі будуць у іх біцца? Пасюль помніцца мне Ваш разгублены ўздых па тым, што нашыя мастакі, артысты, іншыя творцы змушаны кідацца ў пошуку заробку, што адна творчасць, на жаль, не пракорміць, матэрыяльна не забяспечыць, каб жыць дастойна, адчуваючы сваю годнасць...

Ды, нягледзячы ні на што, Вы вяртаецеся на Беларусь! Вяртаецеся дзівоснаю беларускай, хоць ведаю, што нарадзіліся, выраслі Вы на Доне, на прытоку яго — рэчцы Мядзведзіцы, у станіцы, што не так далёка ад шолахаўскай. Сталася ж так, што мая зямля, мой беларускі край нарадзіў Вас у

Да скону дзён буду я паланянкай гэтага незвычайнага, дзівоснага таленту — дарыць людзям радасць, вяртаць ім памяць, гонар свой, высокае імя сваё. І я міжволі ўжо аглядаю і сваё пражытае, і вяртаюся туды, дзе мне было некалі хораша і ўтульна. Там — мая дарагая тураўская зямля, куды звезлі мяне малою бацькі, дзе я расла і вучылася, зямля, яшчэ не акрытая чорным полагам чарнобыля. На стараданім тураўскім замчышчы, дзе яшчэ няма помніка Кірылу Тураўскаму, я слухаю як дыхае мая старажытная зямля, былінкай прыпадаю да быляў і паданняў яе, і яшчэ не ведаю, што сюды спяшаецца і руская па паходжанні, вялікага сэрца і душы, уся са святла, з праменняў сонца дзівосная жанчына — таксама слухаць яе:

— О, мая зямля, залатымі літарамі напішы гэтае імя: Валянціна Гаявая!..

**Марыя ПАНКОВА**

## На карысць гісторыі

"У лістках календара" Максіма Танка ёсць запіс, дзе Яўген Іванавіч згадвае верш Віктара Гамуліцкага "На Белай Русі", называючы яго "прыгожым і прарочым". Асабліва спадабаліся М. Танку заключныя радкі твора:

*О беларускі люд!*
*Калі міне ўсё гора,*
*Шчасліваю парой*
*Пачуецца*
*ў злучаным славянскім хоры*
*Свабоды голас твой.*

Сам верш быў напісаны па-польску, а на беларускую мову яго пераклалі Н. Душэўская ("Гоман", 1918, N 28) і А. Стаповіч. Ёсць у В. Гамуліцкага і яшчэ адзін беларускі верш — "Пра Яся салдата". Тэма Беларусі закранаецца і ў аповесці В. Гамуліцкага "На беларускіх разлогах". У прыватнасці, аўтар закранае аспекты нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту беларусаў, гаворыць аб самабытнасці культуры і мовы беларускага народа. З жыццём жа Беларусі В. Гамуліцкі пазнаёміўся бліжэй у 1907 годзе, калі зрабіў падарожжа па нашым краі.

А нарадзіўся ён — літаратар, публіцыст, крытык — у горадзе Астралэнка (Польшча). Цікавіўся В. Гамуліцкі і беларускай гісторыяй. Сабраў рукапісы многіх вядомых асоб, дзейнасць якіх звязана з Беларуссю. Дзякуючы В. Гамуліцкаму захаваўся сямейны архіў Храптовічаў, што часава ахоплівае прамежак з 1644 па 1721 год, лісты мінскага ваяводы А. Хмары, датаваныя 1754—1790 гадамі, аўтографы родаў Касцюшкаў (1645—1792 гады), Міцкевічаў (1706—1824 гады).

Віктар Гамуліцкі прыязна паставіўся да выдання газеты "Наша Ніва".

17 кастрычніка спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага чалавека (памёр 14 лютага 1919 года).

## Спявае ў "Вечарынцы"



У вольны ад занядкаў час выкладчыца Ходцаўскай музычнай школы Сенненскага раёна Наталля Паўлоўская (на здымку) спявае ў ансамблі "Вечарынка", створаным пры раённым аддзеле культуры.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## І па-эстонску ...пазяхае бегемот

70-годдзе адзначыла эстонская паэтэса Хельві Юрысан. Хельві Мікалаеўна скончыла ў 1953 годзе Тартускі дзяржаўны універсітэт, з 1956 года выступае ў друку. Аўтар некалькіх паэтычных кніг, а да ўсяго займаецца перакладчыцкай дзейнасцю, у тым ліку і з беларускай мовы. Дзякуючы Х. Юрысан эстонскі чытач змог пазнаёміцца з паэмамі П. Броўкі "Заўсёды з Леніным" і "Голас сэрца" (у зборніку "А дні ідуць..."), выбранымі вершамі Я. Купалы (зборнік "А зязюля кукавала", пераклад зроблены разам з М. Веетам), Я. Коласа (зборнік "Звон шыбаў"), М. Танка (зборнік "Летні дождж") і іншымі. Пераўвасобіла Хельві Мікалаеўна па-эстонску і кнігу Р. Барадуліна для дзяцей "Ці пазяхае бегемот".

СУСТРЭЧЫ

# Там салаўі пяюць па-беларуску

Адразу за Саколкай паабапал дарогі леглі туманы, і нованароджаны месяц выблытваўся з іх, як з пялюшак.

У Беластоку позна вечарам мы марна шукалі ўказальнік на Гайнаўку і дзівіліся, чаму яго няма. Мястэчка гэтае нам уяўлялася ледзьве не другой сталіцай краю. Яго ведаюць у нас і па Беларускім музеі, і па фестывалях духоўнай музыкі, і па многіх іншых культурніцкіх акцыях. Невыпадкова менавіта тут адбываюцца літаратурныя польска-беларускія сустрэчы. Меркавалася, праўда, што праходзіць яны будуць па чарзе — то ў Польшчы, то ў Беларусі, але такое ўжо наша "сэ ля ві": зноў дэлегацыя з СБП прыбывае ў "другую сталіцу" Беласточчыны. У склад групы на гэты раз увайходзяць старшыня саюза У. Някляеў, яго намеснік У. Мачульскі, рэдактары асноўных часопісаў С. Законнікаў і Г. Далідовіч, а таксама я — карэспандэнт "ЛіМа".

На першую сустрэчу, помніцца, ездзілі сярод зімы, добрым марозам, а зараз заспелі сонца і не апалую яшчэ лістоту. Спыніліся ў невялічкім утульным Доме настаўнікаў, што па вуліцы Пілсудскага. Расказвае журналіст, супрацоўнік салідарніцкай газеты "Wspólczesna" Янка Целушэцкі. Яму, тады яшчэ маладому настаўніку, давялося ў 1962-м годзе прысутнічаць на адкрыцці дома. Неўзабаве там закіпела жыццё: працавалі кавярня, бібліятэка, драматычныя і спартыўныя гурткі, групаваліся мастакі. Дом быў настолькі папулярным, што сюды прыходзілі бавіць вольны час нават партыйныя функцыянеры.

Літаратурны настаўніцкі клуб узначальваў Юльяш Ойжаноўскі, чый драўляны бюст не забыліся ўстанавіць у зале паседжанняў. Шыльда паведамляе, што гэта настаўнік прафесійнай школы, дзеяч Саюза польскіх настаўнікаў, Таварыства аховы прыроды, Таварыства прыяцеляў дзяцей (апошні выраз скалькаваны з-за адсутнасці мясцовых адпаведнікаў), папулярызатар ведаў пра Гайнаўку.

З той пары тое-сёе перамянілася: зneслі наніз з другога паверха педагагічную бібліятэку (баяліся за моц падлогі), не шуміць кавярня, затое дасюль папулярны размешчаны тут жа гатэлік. Першага дырэктара Антона Семенюка замяніла яго ўдава пані Вольга, якой мы і абавязаны камфортным пачуваннем.

Непадалёку, амаль цераз дарогу — ІІ Гайнаўскі ліцэй з беларускай мовай навучання. З групы там выступаў Генрых Далідовіч і быў у захапленні ад агульнага ўзроўню навучэнцаў: тыя запатрабавалі на гадзіну прадоўжыць сустрэчу, засыпалі цікавымі пытаннямі. Прысутнічаў і дырэктар ліцэя Яўген Сачко. Мне пашанцавала менш: у новым, прыгожым будынку васьмігодкі дзеці ні па-беларуску, ні па-польску слухаць не хацелі, і беларусістка Тамара Грыгарук мусіла выбачацца за сваіх неслухаў. Усцешыла, праўда, тая акалічнасць, што сама яна абараняла магістарскую дысертацыю па лімаўскіх матэрыялах.

Пленарныя паседжанні былі "цвіком" нашай сустрэчы, вёў іх добра вядомы ў мінскіх літаратурных колах Алесь Барскі (ён жа прафесар філалогіі Алесь Баршчэўскі). Неадназова ўключаўся ў размову далікатны мяккі чалавек, польскі празаік Еўгеніюш Кабатц, якому і належала ідэя падобных літарацкіх спатканняў. Выдавец Рамуальд Карась ды дырэктары выданняў — Дыянісій Сідорскі ("Nowe kontrasty") і Юры Хмялеўскі ("Czasopis") у гаворку амаль не ўступалі, літаратуразнаўца Тэрэза Занеўская таксама адно ціпла слухала, любіцель парадоксаў Сакрат Яновіч кідаў рэплікі, а супрацоўніца беларускай рэдакцыі Польскага радыё Наталля Грышкевіч па адным выводзіла ўдзельнікаў для інтэрв'ю. Якой жа была яе скруха, калі аднойчы тэхніка падвяла і не запісала пятнаццаціхвіліннай гутаркі!

Гэтым разам на сустрэчы суседзяў больш было развагі, спрэчак, абмену думкамі і менш справаздач — дзе што выдалі. Прагматычны момант саступіў жаданню знайсці агульнае ў пазіцыях і поглядах на свет і літаратуру. Канцэптуальным было слова Уладзіміра Някляева, рэдактары расказалі, як мацуюцца творчыя сувязі з блізкім і далёкім замежжам, у чым цяжкасці і асаблівасці сённяшняга дня. Цэнзура ёсць, але нельга сказаць, каб яна станавілася на горла. "Пры камуністычным часе часцей клікалі "на дыван" і давалі прачуханцу", — прызнаўся Сяргей Законнікаў. Ён аказаўся, дарэчы, адзіным з нашых калег, хто можа пахваліцца польскамоўным выданнем. У выдавецтве пана Карася за няпоўныя паўгода пераклалі і выдалі дзве ягоныя паэмы, між тым як немцы тое самае робяць шосты год. Рэдактар старэйшага часопіса паабяцаў адзін з нумароў "Полымя" прысвяціць польскай літаратуры.

Г. Далідовіч заклікаў беластоцкіх аўтараў дасылаць рукапісы ў літаратурны дадатак "Маладосці", ён жа прывёз у падарунак важкі том — анталогію беларускіх паэтаў, якія пісалі па-польску, з серыі "Літаратурныя помнікі Беларусі". Па дарозе як "пашпартны паляк" Генрых стаў аб'ектам нязлосных жартаў: маўляў, упершыню едзе роднай зямлі пакланіцца... З большай падставай гэтыя жарты можна было адрасаваць Уладзіславу Мачульскаму, чые карані сапраўды адтуль.



Пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці і яе фарміравання не аднойчы падымалася на паседжаннях. "Цяжка быць беларусам", — зазначыў хтосьці з беластоцкіх. "Гэта няшчасце", — зморчна папраўіў Сакрат. "Мы існуем паміж паблажлівасцю рускіх і пагардай палякаў", — без лішніх эмоцый канстатаваў наш "шэф". "Мова не з'яўляецца крытэрыем нацыянальнай ідэнтычнасці", — гэта перакананне Міхала Ягелы, былога намесніка міністра культуры, а зараз дырэктара нацыянальнай бібліятэкі Польшчы.





Што пытанне не такое простае, сведчыць прыклад прысутнага віленскага беларуса Зімавіта Фядэцкага. На беларускай мове, мяркуючы па ўсім, ён размаўляць развучыўся, аднак не страціў жывой цікавасці да роднага: на аснове ўласных запісаў фальклору з ваколіц Лідчыны — дзе і нарадзіўся — выдаў кнігу пад назвай "Цёплыя вечары, халодныя ранкі". З. Фядэцкі сыпаў показкамі і прымаўкамі, цытаваў найбольш яркія радкі з народных песень і нават парадаваў застолле аўтэнтычным выкананнем. А спяваць давялося ў адказ на віншаванні: стройнаму элегантнаму пану споўнілася ў тыя дні 75.

Прывяду адзін з узораў народных дасціпаў, "агучаны" ў прыватнай гаворцы:

— А хто ты?
— Акавіта.
— А з чаго ты?
— З жыта.
— Пашпарт ёсць?
— Няма.
— Дык вось табе турма.
— А ці ведаеце вы, як салавей пяе па-

беларуску? — пытаецца юбіляр і сам адказвае: "Паскроб, паскроб. — Дзе, дзе, дзе? — Ту, ту, ту. — Аць-цьцьць..."

Сімвалам польска-беларускага яднання назваў вядучы Ядвігу Рудзінскую-Патэюк. Бурмістр Гайнаўкі не толькі дапамагла таварыству "Польшча—Беларусь" у прыёме гасцей, але і аддала нам нямала свайго часу. Другая частка прозвішча — Патэюк — у яе ад мужа-беларуса. У такіх сем'ях, лічыць галава горада, не бывае "альбо-альбо" ў сэнсе самавызначэння. Слова "мяшанец" там не носіць абразлівага адцення.

Зрэшты, у пані бурмістра, як і паўсюль, галава найперш баліць з-за клопатаў эканамічных і сацыяльных. У Беластоцкім краі разгарнулася дыскусія наконт будучыні Белавежскай пушчы, якую палякі са свайго боку збіраюцца абвясціць нацыянальным паркам.

Справа ў тым, што гістарычна Гайнаўка пачалася з тартакоў: у 1916-м годзе падчас акупацыі іх збудавалі немцы. Польская дзяржава мела адносна пушчы навуковыя інтарэсы і якраз дзеля гэтага (так расказваюць) у Сталіна пасля перамогі папрасілі частку Белавежы. Той абяцаў параіцца і шчодра размахнуўся на цэлую вобласць. Пушчу дасюль працягваюць высякаць. Дайшло да таго, што, каб зняць пра яе дакументальны фільм, давялося ехаць на беларускую тэрыторыю, дзе захаваліся неруш і прыроднае багацце.

Калі пушча, як абяцаюць, займее новы статус, то ў Гайнаўцы, якая звыкла жыве з лесу, зменіцца інфраструктура і з'явяцца новыя праблемы.

Існуе і яшчэ адзін аспект, звязаны з пушчай, — турысцкі, ён хвалюе мастака, сябра Таварыства аховы пушчы Віктара Кабатца. На беларуска-польскай мяжы пры Савецкім Саюзе ў лесе праклалі драцяную агароджу ў два метры вышыні. Турыстаў яна сёння непрыемна здзіўляе. У польска-славацкіх Татрах можна без дакументаў і спецыяльнага дазволу на 30 км заглыбіцца на чужы бок, а тут засталася (і нават паднаўляецца) другая "берлінская сцяна". Між тым на пушчы абедзве дзяржавы маглі б няблага зарабляць: заходні турыст немалую суму гатовы выкласці, каб пабачыць тыя ж Козлікі — участак паміж Нарвай і Нараўкай, дзе быў падпісаны прысуд савецкай імперыі. А пакуль польскія эколагі спрачаюцца з гаспадарнікамі, стогадовыя дубы працягваюць гінуць.

Гэтаксама зводзіцца — сама па сабе, як занядбаны сад — аўтахтонная культура Беласточчыны. Беларускую мову тут вывучаюць "па жаданні", і тых жадаючых з кожным годам менш і менш. Няма лепшага спосабу звесці мову, чымся пазбавіць яе практычнай карысці, — сказаў прафесар філалогіі, і цалкам меў рацыю. С. Яновіч, як заўсёды, настроены апакаліптычна:

— Дакуль мы будзем цешыць сябе ілюзіямі? Давайце зірнём праўдзе ў вочы: на нашым пакаленні Беларусь закончыцца.

А сам, між іншым, прапануе ратаваць беларушчыну "метраполіі" перакладамі з польскай класікі. Наўрад ці дапаможа такі "рэцэпт"... Усё, што дзеецца ў самой Беларусі, вакол мовы, сімволікі і нацыянальнай культуры, не менш хвалюе беларускіх літаратараў Польшчы. Што Беларусь ізалявана эканамічна і палітычна — заслуга самой Беларусі, лічаць яны. Адзінае, што магло паднясці іх дух у апошні час, — вялікая сума, выдзеленая беларускай дзяржавай на музей Міцкевіча і аднаўленне комплексу ў Завоссі. Палітыка і ў агульнае свята ўнесла свае карэктывы: на юбілей вялікага паэта ў Навагрудак не прыехалі ні міністр культуры Польшчы, ні хтось іншы з афіцыйных асоб. Вось чаму так важна, як падкрэсліваў М. Ягела, сябраваць бібліятэкамі, школамі, грамадамі. Ён паведаміў пра цыкл кніжных выстаў у галоўнай бібліятэцы краіны пад назвай "Нашы суседзі. Новы погляд". Праведзены Дні беларускай культуры ў Варшаве, маюць месца лакальныя кантакты і мерапрыемствы. Напрыклад, Гайнаўка сябруе і абменьваецца дэлегацыямі з горадам Свіслач. Калі палітычны барометр паказвае на непагадзь, самы час актывізавацца народнай дыпламатыі.

...На развітанне Баляслаў Хмялінскі, наш галоўны арганізатар і апякун, кожнага з нас моўчкі абняў, і гэты душэўны жэст быў красамоўней за самыя пранікнёныя словы. Старшыня СБП паабяцаў прыкласці намаганні дзеля таго, каб наступным разам мы сустрэліся ўжо ў Мінску. Каб сказанае ды Богу ў вушка — гавораць у такіх выпадках...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымках: бурмістр Гайнаўкі Я. Рудзінская-Патэюк і краявіды горада.*

ПЕРАКЛАДЫ

# Старонкі класічнай венгерскай паэзіі

## Эндрэ АДЗІ

(1877—1919)

### *Коршакаў асенняе вяселле*

*Мы адлятаем. Чакае нас Восень.*
*Крык развітальны пад неба выносяць*
*Коршакаў двух аслабелыя крылы.*

*Пара драпежнікаў новых у Лета:*
*Крылы ўсутыч, сэрцы страсцю*
*сагрэты —*
*Жарсці ідзе неспатольнай змаганне.*

*З Лета імкнём, даганяе трывога,*
*Мабыць, у Восені спыніць знямога*
*Нас, ап'янелых ад шчасця дашчэнту.*

*Гэта — сустрэча і развітанне:*
*Прагна кахаем — ані шкадавання...*
*Коршакі два на апалай лістоце.*

### *Восень на вуліцах Парыжа*

*Восень прикралася ўчора ў Парыж.*
*Душным бульварам Святога Міхала*
*Ціха плыла і пад засенню дрэў*
*Крок мой дагнала.*

*Брыў я да Сены няспешна якраз.*
*Песенькі-іскры вярэдзілі сэрца,*
*Дымныя, дзіўныя песні тугі —*
*Веснікі смерці.*

*Восень спыніла, шапнула мне штосьць.*
*Дрыгнуў ажно ўвесь бульвар анямелы,*
*А па дарогах-сцяжынах усіх*
*Лісце ляцела.*

*Момант — ачнулася лета, і ўраз*
*Восень з Парыжа пабегла са смехам.*
*Сведчым пра ўсё гэта я ды лістоў*
*Ціхае рэха.*

### *Камень*

*Камень кінуты — долу вяртае.*
*Так да цябе кожны раз, родны край мой,*
*Сын твой вяртаецца.*

*Вежаў дальніх наведвае сховы.*
*Голаў кружыць яму, але зноў ён*
*Падае ў родны пыл.*

*Сумны, хоча ўцячы і не можа*
*Дум пра Айчыну пазбыцца...*
*Трывожаць*
*Яго штохвіліны.*

*Сын я твой, з маім роспачным крыкам,*
*І з маной, і з любоўю вялікай —*
*Сумна-самотны венгр.*

*Падаў долу без волі той камень.*
*Край мой, разам з табою вякамі*
*Еднасць тварылі мы.*

*Кінь мяне ты хоць сто раз — шкадую,*
*Толькі зноў жа дадому прыйду я,*
*І ўжо — назаўсёды.*

### *Тваё берагу святло*

*Слабая рука мая*
*Рук тваіх чуе цяпло,*
*Вачамі сваімі я*
*Тваё берагу святло.*

*Праз апраметнай агонь,*
*Як дзікі паганскі звер,*
*Прыйшоў да цябе...*
*Свайго*
*Чакаем часу цяпер.*

*Слабая рука мая*
*Рук тваіх чуе цяпло,*
*Вачамі сваімі я*
*Тваё берагу святло.*

*І, можа, нядоўга зару*
*Бачыць з табой змагу, —*
*Ды чую пяшчоту рук,*
*Сінь тваіх воч берагу.*

## Дэжа КОСТАЛАНІ

(1885—1936)

### *Падвячорак*

*Пустою шклянкай — вечаровы час:*
*Нат рэхам не азвецца без прынукі.*
*Так сумна жыць.*
*На боль мой дай адказ,*
*Жыццё маё: нашто былі ўсе мукі?*

*Панеслі лета ластаўкі ад нас.*
*Над галавой дратоў чарнеюць рукі.*
*Туман і золь. Марудны дзень мой згас,*
*Няма ні слёз, ні песень — хрыпнуць гукі.*

*Прыйшоў бы час вясёлы вінаграду,*
*Ды смерці боль заспеў, падкраўся ззаду.*
*Прачнуўся б. Ну, а тут — зіма,*
*мароз — бач...*

*Над вялаю душой самлела роспач,*
*І чуеш ты пры развітанні горкім:*
*Звіняць у дальняй далечы пагоркі.*

## Саба ЛЁРЫНЦ

(1900—1957)

### *Лета*

*Лета. Дворык. Сонца свеціць*
*Неба. Травы. Дрэвы. Вецер.*
*Пчолаў зумкат. Стома ружы.*
*Вялы вусень. Муха кружыць.*
*Добра вокал. Анігадкі.*
*Толькі побач дрэмле хатка.*
*Ціха. Светла. Лёгка мроям.*
*Хатка. Вочы. Сэрцы. Двое.*

## Арпад ТОТ

(1886—1928)

### *Світанак на кальцавой дарозе*

*Світае. Золь і бруд.*
*Шкляных вачэй*
*Ад сну не разляпілі магазіны,*
*Адно што растрывожаны цячэ*
*Над брукам пыл, ды дворнікі яшчэ*
*Снуюць у ім, бы кобальды ці джыны.*

*І раптам, разамкнуўшы сценаў стынь,*
*З усходу сонца выкаціла разам.*
*У сотнях шыбін — сонечная плынь,*
*І ў пыле вуліцы, куды ні кінь,*
*Каціліся зіхоткія алмазы.*

*Знямеў, як заваражаны, бульвар.*
*Акацыя святло з жывой крыніцы,*
*Хмялеючы, піла, нібы нектар,*
*І ўпершыню прыгожыў яе твар*
*Вясны дарунак — цуда-завушніцы.*

*Яшчэ святла не ўспрыняла зямля.*
*Адно звінелі жаўраначкі кветак,*
*Ліловай нотай гальштук цвіў здаля*
*У шкле вітрыны; потым, спакваля*
*Паплыў высокі гул званоў над светам.*

*Збіраў гудок заводскі талаку.*
*Трамвай звінеў,*
*на плошчу браў кірунак.*
*Пачаўся новы дзень. І ніадкуль*
*Не бачаць, як дзяўчыне на руку*
*Шле сонца залаты свой пацалунак.*

## Ёжаф АТЫЛА

(1905—1937)

### *Безнадзейна*

*Ну, вось і кон твой, чалавек:*
*Пясок, туман, самотны лог...*
*Задумны, мудры з-пад павек*
*Пагляд на пыл, на шал дарог.*

*Хачу зірнуць і я назад —*
*Ці вольна, шчыра мог ісці.*
*А свіст сярэбраны ляза*
*Жыве ў таполевым лісці.*

*І сэрца недзе на мяжы*
*Прадоння і, як мой дакор,*
*Нягучна, кволае, дрыжыць*
*Пад ціхім, вечным бляскам зор.*

### *З чыстым сэрцам*

*Ні айчыны, ні бацькоў,*
*Ні багоў, ні сваякоў,*
*Ні калыскі, ні радна,*
*Ні каханай, ні віна.*

*І не ем я трэці дзень.*
*Сам жыву, як дух, як цень.*
*Маю дваццаць год усіх,*
*Ды хачу прадаць я іх.*

*Не прымаецца цана —*
*Хай бярэ хоць сатана!*
*З чыстым сэрцам я тады*
*Нараблю ліхой бяды.*

*А як зловяць, за пятлёй —*
*Дол маёй зямлі святой.*
*А на сэрцы пакрысе*
*Кветка смерці прарасце.*

## Міклаш РАДНАЦІ

(1909—1944)

### *Смяротнік*

*Туды-сюды, смяротнік, кроч!*
*Сціх вецер з кошкай у кустах.*
*І рухнуць змрочных дрэў рады*
*Перад табой, і жах бяды*
*У горб збялелы выгне шлях.*

*Пажухні, звянь, асенні ліст!*
*Жуды, жахлівы свет, не сей!*
*З нябёсаў холадам імжыць,*
*І на панылых траў іржы*
*Свой цень пакінуў клін гусей.*

*Паэт, сумленны сёння будзь!*
*І вольны, нібы з гор вятры.*
*Трымайся шчыра, годна ты,*
*Нібы бязгрэшныя Хрысты*
*На ціхіх абразах старых.*

*Як воўк, што мноства мае ран,*
*Стой цвёрда, не ўпадай у зман.*

**Пераклаў з венгерскай**
**Мікола АЛЯХНОВІЧ**

# Жыццё з раздвоенай душой

## У МАЙСТЭРНІ МАСТАЧКІ Тамары СТАГАНОВІЧ

КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ паэта, трэба пабыць на яго радзіме. Каб зразумець мастака, трэба наведаць яго майстэрню. Пасля знаёмства з амерыканскай мастачкай і пісьменніцай Тамарай Стагановіч я паверыў у невыпадковасць гэтых прапісных высноў.

Спадарыня Тамара запрасіла мяне ў госці за некалькі дзён да сваёй першай вандроўкі на Беларусь, дзе мелася быць яе персанальная выстава "Амерыка, мая Амерыка". *Я з прыемнасцю* прыняў запрашэнне, бо хацеў спаткацца з мастачкай да ад'езду, пакуль яе думкі не былі абцяжараны беларускімі ўражаннямі, пакуль яна жыла чаканнем сустрэчы, пра якую марыла ўсё сваё жыццё...

Мы імчалі па роўных, як стол, дарогах Нью-Джэрсі, любаваліся асеннімі краявідамі, прыпыняліся падыхаць салёным паветрам і паслухаць надзіва спакойны для гэтага часу Атлантычны акіян...

Аўтамабіль звярнуў з асфальту і парулiў па лясной сцежцы. Сярод ляснога гушчару паказаўся прыгожы двухпавярховы дамок.

— Вось і прыехалі. Амерыканскія беларусы называюць гэтае месца райскім куточкам, — не без гонару заўважыла спадарыня Тамара. — Вунь вінаград, тут слівы, гэта індыйскія яблыні. Я выпісала іх з гадавальніка.

**— А гэта каліна?**

— Так, я чула, што на бацькаўшчыне расце каліна і доўга шукала яе па ўсёй Амерыцы, пакуль не знайшла ў аднаго садавода. Ён прыслаў мне саджанцы, і яны прыняліся. А цяпер, хадзіце, я пакажу сосны... Дзеля іх мы і *купілі гэтую зямлю. Вельмі ж* яны мне спадабаліся.

**— Сосны нагадваюць вам Беларусь?**

— Так, для мяне яны сімвал радзімы. Я магу гадзінамі глядзець на іх і вельмі люблю маляваць...

Мы зайшлі ў хату, больш падобную на музей альбо выставу. Спадарыня Тамара запаліла свечкі і паставіла на стол кошык з маляванымі велікоднымі яйкамі ("Мы так робім заўсёды, калі ў нас госці"). За шырокімі на ўсю сцяну вокнамі маўчаў лес.

**— У вас вельмі ўтульна, — я не змог утрымацца ад камплімента. — Тут добра пісаліся б вершы. Вы не спрабавалі?**

— Не спрабавала, але быў такі час, калі словы самі складаліся ў радкі, радкі ў строфы. Шкадую, што не запісала. Гэта былі хвіліны азарэння і спасціжэння недаступнай дасюль таямніцы. Засталося толькі адчуванне таго настрою, а словы забыліся.

Калісьці мы прыехалі ў эміграцыю толькі з валізкамі. Найвялікшай марай пас*ля стольніх гадоў бадзяння* па свеце была мара пра свой дом. І мы яго пабудавалі, каб жыць тут і працаваць...

Я з самага маленства хацела быць мастачкай. Яшчэ не хадзіла ў школу, а ўжо малявала акварэллю. Мае малюнкі настаўнік мясцовай школы выстаўляў для паказу на адным з бацькоўскіх сходаў. Цяпер я жартую часам, што гэта была мая першая ў жыцці выстава. Па сённяшні дзень я ўцякаю ад рэчаіснасці ў *сваё дзяцінства*, якое памятаю вельмі добра. Там маёй душы светла і радасна, бо там я на радзіме.

Мае бацькі былі свядомымі беларусамі і такімі ж выхавалі сваіх дзяцей. Мая мама з вёскі Косы Двор, а тата з Несутыч. Гэта на Наваградчыне. Мой тата быў беларускім паслом у польскім сейме. За сваю беларускую дзейнасць быў асуджаны і *прасядзеў пяць гадоў у тур*ме. А калі ў 1939 годзе прыйшлі саветы, тата зноў быў падвергнуты рэпрэсіям. Неўзабаве мы даведаліся, што наша сям'я ў спіску на высылку ў Сібір. Мама падрыхтавала для дзяцей мяшочкі з вопраткай і ежай і паказала, дзе яны ляжаць. Мы ведалі: калі нас прыедуць забіраць, трэба з сабой узяць свой мяшочак. Тады я ўпершыню адчула, што такое страх.

Ад таты — мая беларускасць. Ён усё сваё жыццё больш за ўсё думаў пра Беларусь. Калі я была малая, я спытала ў яго: каго ён больш любіць, мяне ці *братоў. Я была меншай і спад*зявалася, што ён скажа — мяне. А бацька сказаў, што больш за ўсё на свеце ён любіць Беларусь. Мяне гэта вельмі ўразіла. З малых год бацька выхоўваў мяне. Яго адданасць Беларусі мяне заўсёды захапляла. Я пераняла ў яго гэтую рысу.

**— А як вы апынуліся ў Амерыцы?**

— Я прыехала ў Амерыку з Нямеччыны — з лагера для перамешчаных асоб, дзе закончыла ўкраінскую гімназію. Наш выпуск у гімназіі быў апошнім. Я падала аплікацыю, што хачу вучыцца на мастачку, *і яна трапіла ў рукі* кіраўнікоў прыватнага жаночага каледжа ў Агайо ў ЗША. Мне далі стыпендыю і я стала вучыцца там. У Амерыцы прыйшлося пачынаць жыццё з нуля. Тату давялося працаваць на розных цяжкіх работах, каб пракарміць сям'ю. А яму ж было ўжо 60 гадоў. Калі пайшоў на пенсію, заняўся грамадскімі справамі і быў адным з закладчыкаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Мара яго жыцця — пабачыць незалежную Беларусь — не пакідала яго да апошніх дзён жыцця. Калісьці ён не хацеў ехаць у Амерыку. Яму падабалася Францыя. Ён жыў там 6 гадоў пасля першай сусветнай вайны. Ён казаў: з Францыі, калі Беларусь стане вольнай, я і пешшу дайду дадому, а з-за акіяна — не. Мы прыехалі ў ЗША, *каб як* мага далей ад'ехаць ад вайны і гора, каб вярнуцца да новага жыцця і забыць усе жахі, што выпалі на долю нашай сям'і.

Калі я была малая, бацька казаў мне: вырасцеш, пойдзеш вучыцца ў Сарбону. У Амерыцы, пасля каледжа ў Агайо, я вучылася ў Калумбійскім універсітэце, які лічыцца тут найбольш прэстыжным. І тата быў задаволены гэтым.

**— А бацька не далучыў вас да царкоўнага жыцця?**

— Як прыхаджанку і як мастачку. Наша сям'я на*лежала да царквы* Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Брансвіку. У 1958 годзе, *калі* будавалася царква ў Кліўлендзе, я па просьбе тамтэйшых беларусаў малявала іконы для іх святыні. Тая праца заняла ў мяне чатыры гады. Але рабіць яе мне было вельмі прыемна і адказна. Я ўспрымаю ўсіх праваслаўных святых не як жывых людзей, а хутчэй як увасабленне ў чалавечым вобліку сімвала святасці. У іканаграфіі я прыхільніца візантыйскага стылю. Кліўлендскія іконы па сённяшні дзень служаць *людзям*. Іканаграфія мяне заўсёды цікавіла і цікавіць. Я намалявала іконы для бацькоў. У сваёй хаце маю маленькую калекцыю ікон з усяго свету. Вельмі люблю старадаўнія беларускія іконы. *Я свядома ніколі не ма*лявала людзей. Было некалькі выключэнняў, але яны звязаны з маімі асабістымі перажываннямі і асацыяцыямі. На другім фестывалі беларускага мастацтва, які мы ладзілі тут, я ўпершыню ўбачыла жывую беларускую жанчыну ў нацыянальным строі. Гэта была Надзя Кудасава. Я была так уражана, што мне захацелася намаляваць *яе*.

**— Магчыма, яна нагадала вам страчаную бацькаўшчыну?**

— Я заўсёды адчувала, што мяне пазбавілі маёй радзімы, *што я адарвана ад яе*. Я хацела ведаць свае песні, традыцыі, абрады, легенды. Я хацела дыхаць яе паветрам. У мяне ёсць сяброўка — харватка. Дык яна і раней ездзіла на сваю радзіму, калі мы нават баяліся думаць пра гэта. Я не раз казала ёй, ты шчаслівая. А я толькі сніла сваю бацькаўшчыну. Па сёння ў вачах стаіць дзядулева хата. У сне я шмат ра*зоў падыходзала да яе, але* ніводнага разу не пераступіла парог. Было страшна... Адчуванне страху засталося з вайны. Я не змагла пазбавіцца яго за ўсё сваё жыццё. І ў сне, і ў рэальнасці. Калі мы былі ў Нямеччыне, Берлін бамбілі два разы ў дзень. Я баялася, каб мяне не забіла бомбай. І таму, як пачыналася бамбёжка, я старалася заснуць, каб нічога не бачыць. *Некалькі гадоў таму*, працуючы ў сваім агародзе, я пачула гул самалётаў і так спужалася, што кінулася ўцякаць. І толькі ля хаты апамяталася, куды гэта я бягу? Гэта ж не вайна...

**— А што яшчэ, акрамя страху, вас цягне на Беларусь, што не дае забыцца пра яе?**

— Мае беларускія гены, мая беларуская душа. Я вельмі цікаўлюся гісторыяй Вялікага княства Літоўскага, музыкай Міхаіла Агінскага, паэзіяй Міколы Гусоўскага, беларускай археалогіяй... Найпершае маё зацікаўленне — беларускія ўмельствы. Я ніколі не бачыла сапраўднага лёну на полі. Толькі мама расказвала, што калі ён цвіце, — поле сіняе-сіняе, як неба ўвесну. Я памятаю, як у нашай вёсцы ткалі дзяружкі, і мне вельмі хочацца навучыцца ткаць кросны. Паясы я навучылася ткаць у Амерыцы.

**— Беларускія паясы?**

— Так. Я навучылася ад беларускіх жанчын-эмігрантак — спадарыні Каранеўскай і спадарыні Згірскай. *Яны ткалі паясы* на этнічных фестывалях. Беларускія паясы заўсёды былі для мяне нечым містычным і мне хацелася асвоіць тэхніку ткацтва, каб самой ствараць іх. Цяпер на беларускіх фестывалях я паказваю свае паясы амерыканцам і расказваю, як яны робяцца. Цікавасць неймаверная!

**— Больш, чым да карцін?**

— Карціны - іншая справа. Карціны я не прыдумваю. Я перадаю свой настрой пры дапамозе фарбаў. Часцей за ўсё праз краявіды, бо я вельмі закаханая ў прыроду.

*Прырода найвялікшы ма*стак у свеце. Яна сфармулявала мой стыль. Свае карціны я адчуваю, як можна ад*чуваць жывую істоту. І колер*, і кампазіцыю, і настрой я ніколі не шукаю: яны прыходзяць самі па сабе. І застываюць фарбамі на палатне... Калі я вучылася ў Калумбійскім універсітэце, у Амерыцы вельмі папулярным быў абстракцыянізм. Але гэта не для мяне. Я не магу адарвацца ад усяго зямнога і жыць толькі ўяўленнямі і марамі.

*Я жыву ў прыродзе*. Мы з мужам маем два акры лесу, дзе паставілі свой дом, астатні лес пакінулі некранутым. Гэта наш парк. Мы афіцыйна зарэгістравалі яго. У лесе жывуць звяры — вавёркі, яноты, казулі. Мы купляем ім сланечнікавыя семкі, кукурузу, падкармліваем іх. На сваёй зямлі я вырошчваю гародніну і дагляю кветкі.

**— Каб пасля маляваць іх?**

— О, так! І не толькі кветкі, і гэтыя сосны, і звяроў. Я вывучаю іх. Так было, напрыклад, з вавёркамі. Я доўгі час назірала за імі, здымала на камеру, *рабіла накіды* будучых малюнкаў і апісвала, як яны паводзяць сябе — ад нараджэння і да таго часу, пакуль не пакінуць маці і не пачнуць дарослае жыццё. Мая кніга "Чыкары — рыжая вавёрка" мела поспех у Амерыцы і вытрымала два выданні.

**— А пра што вашы іншыя кнігі?**

— Я пішу толькі пра тое, што добра ведаю. Акрамя сваіх, я афарміла чатыры кнігі для розных амерыканскіх выдавецтваў пра гульні, промыслы і *забавы розных на*родаў. Усе мае кнігі адрасаваны маленькаму чытачу. І я рада, што сваім мастацтвам дапамагаю ім спасцігаць навакольны свет, а, магчыма, і палюбіць яго так, як люблю я.

**— Я ведаю, што ваша творчасць вельмі папулярная сярод індзейцаў Амерыкі...**

— Нейкі час мы з мужам шмат вандравалі па Амерыцы. І вось падчас адной з такіх вандровак заехалі да індзейцаў. Я засталася ў вялікім захапленні ад іх культуры, побыту, ладу жыцця, прыроднай прыгажосці. І ста*ла маляваць індзейскія кра*явіды. Цяпер гэта мая ўлюбёная тэма.

**— Заміж беларускай?**

— Беларуская тэма існуе ў маёй падсвядомасці. Па выхаванні я амерыканка, а сваімі традыцыямі, поглядамі, ладам жыцця — беларуска. Але ж я так мала памятаю Беларусь. У мяне за*сталіся толькі ўспаміны мален*ства, а ўсё астатняе я прыдумала на падставе прачытанага ці пачутага. Мае беларускія карціны — гэта мае трызненні аб бацькаўшчыне.

**— Што найбольш уплывае на вашу творчасць?**

— Народная музыка, беларускія песні.

**— А на асабісты настрой?**

— Супакой, рэдкія хвіліны шчасця. Тады мне хочацца маляваць. І хоць кажуць, што мастак павінен сам прайсці праз боль і пакуты, каб пасля намаляваць гэта, я не згодна з такім сцвярджэннем. Калі мне баліць душа, я не магу маляваць. Напрыклад, я ніколі не змагу намаляваць *Чарнобыль. Боль і* смутак скоўваюць не толькі маю душу, але і пальцы...

**— Вы згодны, што мастак, каб тварыць, павінен увесь час быць закаханым?**

— О, так! Гэта праўда. Закаханы чалавек увесь час у паднябесным настроі і думкі яго светлыя.

**— У паўсядзённым жыцці вы размаўляеце па-беларуску?**

— Звычайна па-ангельску, хоць дасканала валодаю беларускай мовай. А ў беларускім асяродку — заўсёды па-беларуску.

**— Свае творы вы падпісваеце псеўданімам Tamara St. St. — значыць, святая?**

— Барані Божа. Я не ёсць святая! Гэта маё мастацкае імя. Але такое пытанне мне задавалі ўжо неаднойчы. Я нават маю лісты ад аднаго святара, які пытаецца, хто я такая. Некаторыя папраўдзе думаюць, што маё імя належыць святой ці манашцы. Я не тлумачу паходжання псеўданіма. Бо калі яны зразумеюць, што гэта проста дзве першыя літары майго прозвішча, карціны ў іх успрыманні страцяць нейкі элемент таямнічасці...

**— Вам хочацца прызнання ў Беларусі?**

— Аб гэтым марылася ўсё жыццё. Дзеля гэтага я штодзень бяру ў рукі пэнд*заль*.

**— У Амерыцы вы прэзентуеце Беларусь, а ў Беларусі — Амерыку. Тут вы беларуска, а там, на бацькаўшчыне, амерыканка. Гэта што: наканаванасць жыць з раздвоенай душой?**

— Магчыма, такі мой лёс. Беларусь — зямля маіх бацькоў. Я там нарадзілася і я яе дачка. Я памятаю гэта і буду памятаць увесь час, адведзены мне Богам. Мая беларускасць дапамагла мне выжыць у чужым свеце, за яе мяне палюбіла Амерыка. Мой талент ад беларускай зямлі і я заўсёды гэтым ганаруся. У Беларусі жывуць мае сваякі, там магілы маіх дзядоў. З гэтай прычыны таксама я пасабліваму цёпла і шчыра думаю пра гэтую краіну. Я люблю Амерыку, але Беларусь мая бацькаўшчына! Таму ў рэальнасці ніякай раздвоенасці няма. Душа мая належыць Беларусі. Толькі ёй. Адной!

...Пакуль мы размаўлялі, цёплы вільготны вечар непрыкметна апусціўся на лес. Праз густыя вершаліны дрэў яшчэ віднеліся апошнія сполахі асенняга сонца. У сіняватай цемры між зялёнага лісця каліны ледзь угадваліся чырвоныя гронкі недаспелых ягад. Ад маўклівых соснаў веяла супакоем і вечнасцю... Душа была сцішанай і прасветленай. Нібы пабыў дома. Нібы. Бо пад нагамі была зямля вялікай і прыгожай, але чужой мне краіны: цяперашняй радзімы Тамары Стагановіч — самай рамантычнай беларускі, якую я калі-небудзь сустракаў.

**Леанід ПРАНЧАК**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**

**Жана ЛАШКЕВІЧ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*

**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень *па пятніцах*

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3631
Нумар падпісаны ў друк 15.10.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 6078/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12